# Літ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№36 (4631) 9 верасня 2011 г.


## У нумары:



# Вяршыні без асновы не бывае

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Кастуся Дробава,**
**калаж Віктара Калініна**

**Калі б у наш час гераіні твора Якуба Коласа "На ростанях" Ядвісі давялося адказваць на пытанне настаўніка Лабановіча, якім бачыць свой далейшы лёс, дзяўчына б упэўнена прамовіла: "Адвучыўшыся, я абавязкова вярнуся працаваць у родныя мясціны!" Так лічаць аўтар сцэнарыя свята Алесь Бадак і арганізатары Дня беларускага пісьменства, цэнтральнай пляцоўкай якога сёлета сталі Ганцавічы.**




У васямнаццаты раз у краіне праходзіла ўрачыстасць, якая збірае прыхільнікаў роднага слова з усёй краіны і вялікую колькасць замежных гасцей — удзельнікамі Дня беларускага пісьменства былі прадстаўнікі акрэдытаваных у Беларусі дыпламатычных місій, дзеячы культуры і мастацтва, навукоўцы, журналісты, літаратары Расіі, Украіны, Сербіі, Чарнагорыі, Казахстана, Таджыкістана.

З кожным годам праграма свята становіцца ўсё больш насычанай: напярэдадні ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшоў "круглы стол" з удзелам замежных пісьменнікаў "Беларускі акцэнт: вопыт і перспектывы міжнароднага культурнага супрацоўніцтва", у Ганцавічах адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Ганцавіцкія чытанні". Дзень беларускага пісьменства чацвёртага верасня ў Свята-Ціханаўскай царкве пачала Божая Літургія ў гонар Благадатнага Агню ад Труны Гасподняй, дастаўленага рэспубліканскай навукова-асветніцкай экспедыцыяй "Шлях да святыняў".

На ўрачыстым адкрыцці з галоўнай сцэны прагучала зачытанае намеснікам прэм'ер-міністра Беларусі Анатолем Тозікам прывітальнае слова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, у якім кіраўнік дзяржавы падкрэсліў значнасць гэтай падзеі для краіны і прыгадаў, што святкаванне Дня беларускага пісьменства ў цудоўным куточку Берасцейшчыны, звязаным з жыццём і творчасцю класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа, вяртае нас да каштоўнасцей, занатаваных у яго кнігах.

Пра змены, што адбыліся з гэтымі мясцінамі з часоў настаўніцтва класіка, гаварылі на ўрачыстым адкрыцці Дня беларускага пісьменства з галоўнай сцэны старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар і старшыня Ганцавіцкага райвыканкама Уладзімір Столяр. Сёння гэта рэгіён з вялікімі перспектывамі развіцця, і яму патрэбны маладыя сілы, узброеныя ведамі, добра адукаваныя, якія шануюць культурныя і сацыяльныя каштоўнасці. Таму вялікая ўвага надаецца літаратуры, здольнай выхаваць у чалавеку маральную чысціню, самаадданую любоў да роднай зямлі, узбагаціць духоўна — як аснове, без якой не будзе і вяршынь дасягненняў у розных галінах дзейнасці. Шанаваць Слова, дзякуючы якому перадаецца духоўная спадчына ад пакалення да пакалення, заклікаў удзельнікаў свята архіепіскап Пінскі і Лунінецкі Стэфан. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец выказаў вялікую падзяку Прэзідэнту за спрыянне развіццю нацыянальнай культуры і падтрымку літаратуры.

Былі ўручаны ўзнагароды пераможцам Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу "Лепшы твор года" за 2010 год. Ганаровыя знакі-сімвалы "Залаты Купідон" і дыпломы атрымалі Віктар Праўдзін (за кнігу "Нелюбімыя гінуць", проза), Мікола Мятліцкі (за кнігу "На беразе маім", паэзія), Алена Масла (за кнігу "Першая прыгажуня", дзіцячая літаратура), Уладзімір Сауліч (за кнігу "Антэі Прыдзвіння", публіцыстыка), Валерый Грышкавец (за кнігу перакладаў "Белой вежи свет"), Алена Папова (за п'есы "Маленькі свет" і "Загінуўшая ад кахання", драматургія), Казімір Камейша (за кнігу "Паміж кубкам і вуснамі", гісторыка-краязнаўчы жанр), Канстанцін Нілаў (за цыкл песень "Вянок Беларусі"). Было абвешчана таксама пра прысуджэнне "Залатога Купідона" ў галіне літаратурнай крытыкі Таццяне Шамякінай, якая не змагла прысутнічаць на цырымоніі.

Зіхацелі яркімі фарбамі падворкі "Горада майстроў", нястомна дэманстравалі гасцям свята свае таленты жыхары Берасцейшчыны. Вабілі старажытнымі арнаментамі славутыя ганцавіцкія ручнікі. Дарэчы, калектыў Ганцавіцкага раённага Дома рамёстваў удастоены спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2010 года.

Галоўнай гераіняй гэтага свята, безумоўна, была кніга — старажытная і сучасная. Прыцягвалі ўвагу выстаўкі старадрукаў XVII — XVIII стагоддзяў "Кніга Беларусі: повязь часоў" і "Народны настаўнік", у цэнтры якой былі першыя выданні Якуба Коласа (з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі). Дэманстравалася мультымедыйнае выданне, прысвечанае Максіму Багдановічу. У раённым краязнаўчым музеі экспанавалася выстаўка гісторыка-культурнай спадчыны Ганцавіцкага раёна, адзін з раздзелаў якой складалі кнігі Якуба Коласа (з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея класіка). У прафесійным сельскагаспадарчым ліцэі працавала перасоўная выстаўка "Геній зямлі беларускай", прысвечаная Максіму Багдановічу. Добрым сувенірам стаў паштовы канверт са спецыяльным штэмпелем, выявай царквы святога Ціхана Маскоўскага і гербам Ганцавіч з жураўлямі на блакітным полі, падрыхтаваны Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі да Дня беларускага пісьменства.

Натоўп віраваў каля стэндаў фестывалю кнігі і прэсы, літаратурных пляцовак "Берасцейскія галасы", "Усе мы родам з дзяцінства", на прэзентацыі гісторыка-дакументальнага альбома "Ганцаўшчына — край легенд і талентаў народных", ля памятных знакаў на адчыненай падчас свята Алеі пісьменства. Сустрэчы з тымі, хто рупіцца, каб гучала беларускае слова, — празаікамі, паэтамі, публіцыстамі, перакладчыкамі, выдаўцамі — пакінулі добрыя ўспаміны ў дарослых і маленькіх удзельнікаў свята.

Вялікая колькасць моладзі падчас мерапрыемства, яе актыўны ўдзел у прэзентацыях, цікавасць да навінак кнігавыдання дае падставу спадзявацца, што не паменее жадаючых працаваць на росквіт роднай краіны.

## Пункцірам

Загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь рэктарам дзяржаўнай установы адукацыі “Інстытут культуры Беларусі” прызначаны кандыдат філалагічных навук, вядомы даследчык беларускай этнакультурнай спадчыны Іван Крук. А на пасаду дырэктара вытворча-творчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Беларускі відэацэнтр” прызначаны Юрый Ігруша.

Ганаровае званне “Мінчанін года” нададзена 13 жыхарам сталіцы. Сярод іх — дырэктар НДІ фізіка-хімічных праблем БДУ Таццяна Гаеўская, настаўніца сярэдняй школы № 99 Юлія Бялова, балетмайстар заслужанага аматарскага калектыву Беларусі ансамбля эстраднага танца “Озорные огоньки” Мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў Валерый Буры. Урачыстая цырымонія ўручэння мінчанам года дыпломаў, нагрудных знакаў і грашовых прэмій адбудзецца падчас святкавання Дня горада 10 верасня.

У адноўленым будынку Царквы Святога Духа на плошчы Свабоды ў Мінску Адміністрацыя Кастрычніцкага раёна сталіцы будзе праводзіць цырымоніі шлюбаў. Першыя такія ўрачыстасці пройдуць у Дзень горада, калі шлюбы зарэгіструюць дзевяць пар з кожнага раёна сталіцы.

Святочная праграма да Дня горада Мінска пройдзе ў Цэнтральным батанічным садзе Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі 11 верасня. Наведвальнікаў у гэты дзень чакаюць рыцарскі турнір, майстар-класы па прыкладных мастацтвах, кірмаш-продаж экзатычных пакаёвых раслін. А таксама выступленні струннага квартэта “Класік”, ансамбля “Славяначка”, тэатра танца “Менада”, салістаў прэзідэнцкага аркестра і артыстаў Маладзёжнага тэатра эстрады.

Новыя праграмы для польскага праваслаўнага радыё “Артадоксія”, якое вяшчае ў Беластоку, падрыхтавала радыёстанцыя “Беларусь” у межах дамовы пра сумесную працу, падпісанай год таму. Па просьбе польскіх калег да беларускіх праектаў у новым сезоне дадаецца праграмы “Урокі беларускай мовы”, “Людзі і лёсы”, “У свеце беларускай літаратуры”, “Запрашаем у Беларусь”.

Фестываль індыйскай культуры ўпершыню плануецца правесці ў кастрычніку ў Гродне. У праграме яго пройдуць мерапрыемствы, якія прэзентуюць гродзенцам індыйскае кіно, танец і спевы.

Беларускія фатографы прадэманструюць майстэрства на конкурсе маладых фотаталентаў “Партфолія-Рэвю-2011”, які пройдзе 24 верасня на Украіне. На форуме будуць вылучаны сорак лепшых работ, якія станцуць прадстаўленымі на прэстыжным міжнародным фотафестывалі “ChernihivPhotoFest”.

У музеі “Замкавы комплекс “Мір” экспануецца выстаўка “Казакі — абаронцы Айчыны”. Выстаўка распавядае пра пісьменнікаў, навукоўцаў, мастакоў, святароў, жанчын-казачак і дзяцей, якія ў розныя часы выступалі ў якасці абаронцаў сваёй Радзімы. Асобная тэма — воіны-інтэрнацыяналісты І Коннай арміі. Госці змогуць шмат даведацца пра беларускага казачага генерала Льва Даватара, пра І Беларускі асобы казачы партызанскі атрад у Вялікай Айчыннай вайне. Выстаўка ілюстравана ўнікальнымі прадметамі з калекцыі патомнага казака Ігара Бабіцкага.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# З павагай да паэта

Уладзімір САСНОЎКІН

**30 год таму не стала выдатнага сына Магілёўшчыны, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, паэта Аляксея Пысіна. Ён пайшоў з жыцця ва ўзросце 61 года. Памяць пра паэта свята захоўваюць на Магілёўшчыне.**

На доме № 35А па праспекце Міру ў Магілёве, дзе шмат год жыў Аляксей Васільевіч, усталявана мемарыяльная дошка ў яго гонар. У Магілёве адна з вуліц названа імем паэта. Аляксей Пысін — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, заслужаны работнік культуры рэспублікі — пакінуў пасля сябе багатую літаратурную спадчыну, запатрабаваную дарослымі і маленькімі чытачамі і сёння. Пра тое сведчыла і выстаўка “Пакуль зямля жывая — і ты жывы”, што да памятнай даты падрыхтавала Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна. Экспанаваліся зборнікі твораў паэта, літаратурныя артыкулы пра яго творчасць, фотаздымкі, перададзеныя дачкой і ўнукам Аляксея Пысіна.

Члены Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі наведалі выстаўку і пакінулі свае станоўчыя адзнакі пра яе ў кнізе водгукаў.

Потым пабылі на магіле Аляксея Пысіна на цэнтральных могілках Магілёва. Лаўрэат літаратурнай прэміі Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі імя Аляксея Пысіна за 2011 год Віктар Кунцэвіч і члены савета пісьменніцкага аддзялення Уладзімір Дуктаў, Аляксандр Церахаў, Мікола Хобатаў усклалі кветкі на магілу паэта.

Мерапрыемства, прысвечанае памяці Аляксея Пысіна, прайшло і на малой радзіме паэта-франтавіка на Краснапольшчыне.

# Прынятыя ў СПБ



**Ніна Васільеўна Каленчыкава (Русаковіч)**
літаратурны крытык і літаратуразнаўца

Нарадзілася 16 кастрычніка 1946 г. у вёсцы Жукі Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла філалагічнае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры. Лаўрэат Міжнароднай Пушкінскай прэміі для настаўнікаў рускай мовы і літаратуры краін СНД і Балтыі за 2004 год.

Метадычныя і крытычныя артыкулы друкаваліся ў часопісах “Роднае слова”, “Русский язык и литература”, “Народная асвета”, “Художественное образование и культура”, “Нёман”, “Маладосць”, у газетах “Знамя юности”, “Культура”, “Літаратура і мастацтва” і інш. Мае больш як 60 публікацый. Аўтар кніг “Жертвенность в судьбе и творчестве А. С. Пушкина” (2003), “Была бы душа жива... (“Певучий зов” С. Есенина и его духовные наследники)” (2005), “«Всё в жертву памяти твоей…» А. С. Пушкин в школе” (2010), “Пра песню народную, “Неруш” і Валянціну” (2010).



**Рыгор Васільевіч САЛАНЕЦ**
публіцыст

Нарадзіўся 30 сакавіка 1961 г. у вёсцы Бодаква Лохвіцкага раёна Палтаўскай вобласці. Закончыў Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча. З 1983 па 1985 год выконваў інтэрнацыянальны абавязак у Рэспубліцы Афганістан, узнагароджаны медалём “За баявыя заслугі”. Звольніўся ў запас у званні падпалкоўніка. Працаваў у газеце “Спортивная панорама”, цяпер — у газеце “Мінская праўда”. Аўтар кніг “На войне как на войне” (2005) і “Форпост” (2009).



**Тамара Уладзіміраўна ФІЛІПОВІЧ**
публіцыст

Нарадзілася 23 ліпеня 1945 г. у вёсцы Васількі Палтаўскай вобласці Украіны. Скончыла Маскоўскі тэхналагічны інстытут мясной і малочнай прамысловасці, Маскоўскі інстытут метралогіі і стандартызацыі, Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Працуе дырэктарам ААТ “Ашмянскі мясакамбінат”. У 2010 годзе выйшла кніга “Падарожжа па Ашмянскім краі”.

## Стасункі

# У гасцях у «Срэбранай ліры»

**У гісторыка-музейным запаведніку, былой сядзібе графа і вялікага рускага пісьменніка Аляксея Канстанцінавіча Талстога недалёка ад пасёлка Красны Рог, што на мяжы Бранскай і Гомельскай абласцей, адбылося чарговае ўсерасійскае свята паэзіі «Срэбраная ліра».**

Аляксандра ІВАНОВА

У якасці госці і прадстаўніцы Саюза пісьменнікаў Беларусі на свяце прысутнічала паэтэса, кіраўнік Віцебскай абласной пісьменніцкай арганізацыі, лаўрэат Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Фёдара Цютчава і двойчы пераможца міжнародных конкурсаў паэзіі “Залатое пяро” Тамара Краснова-Гусачэнка.

У гэтыя сонечныя вераснёвыя дні пад стагадовымі разгалістымі дубамі старажытнага парка Краснага Рога гучалі вершы і любімая музыка былога гаспадара сядзібы, спяваліся рамансы на яго вершы: “Средь шумного бала...», “Колокольчики мои...” Па алеях прагульваліся паненкі і кавалеры ў адзенні эпохі Аляксея Канстанцінавіча Талстога. І кожны з гасцей-паэтаў мог падысці да мікрафона, вольна ўсталяванага тут, і прачытаць свае творы. Чыталі выключна душэўна, патрабавальна выбіраючы тэматыку. Нібыта ацэньваць павінен быў сам Аляксей Канстанцінавіч.

Тамара Іванаўна абрала для выступлення вытанчаныя лірыка-філасофскія вершы, якія атрымалі гарачы водгук у слухачоў. Яна расказала таксама пра работу пісьменніцкай арганізацыі Беларусі, пра родную Віцебшчыну і перадала ў дар музею-запаведніку імя А. К. Талстога і губернатару Бранскай вобласці Мікалаю Дэніну віцебскія літаратурныя альманахі «Двина», у якіх сабраны не толькі творы літаратараў Віцебшчыны, але і іх калег з Браншчыны, Украіны і Латвіі. Асаблівую цікавасць ва ўсіх удзельнікаў свята выклікаў першы друкаваны орган Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы — часопіс «Белая Вежа».

## Дзень ведаў

# Свята з ліку інтэлектуальных

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

У апошні час усё большую значнасць у жыцці нашых суайчыннікаў адыгрываюць святы, якія можна было б назваць інтэлектуальнымі: Дзень беларускага пісьменства, Дзень славянскага пісьменства, Дзень тэатра, Ноч музеяў, Свята песні і паэзіі, юбілеі гістарычных асоб, культурных падзей і, урэшце, некалі даволі сціплае 1 верасня, што пашырыла свае межы да яркага і квяцістага Дня ведаў.

Паспела ўжо стаць добрай традыцыяй для школ запрашаць вядомых літаратараў правесці першы ўрок для школьнікаў. А культурныя ўстановы краіны, складаецца ўражанне, проста па-добраму спаборнічаюць, распрацоўваючы праграмы святкавання Дня ведаў. Так здарылася і ў гэтым годзе.

Нацыянальны мастацкі музей падрыхтаваў для мінскіх школьнікаў урок “Слуцкія паясы”, падчас якога дзеці не толькі пазнаёміліся з вялікім творам Максіма Багдановіча, але пачулі цікавы расказ пра тое, як жа на самай справе вырабляліся славутыя слуцкія паясы, і, дарэчы, змаглі пабачыць на ўласныя вочы сапраўдныя залататканыя артэфакты са Слуцкай персіярні паноў Радзівілаў.

Цэнтр акіянаграфіі змог зацікавіць вучняў мінскіх школ адкрытым урокам “Падарожжа ў Антарктыду”. Беларускія палярнікі распавялі цікаўным вучням сярэдніх класаў пра адкрыццё паўднёвага полюса Зямлі, а таксама пра ўдзел Беларусі ў навуковых праектах на лядовым кантыненце.

Нацыянальная бібліятэка Беларусі запрасіла вучняў гімназіі № 1 імя Ф. Скарыны на ўрок радзімазнаўства. Падчас яго гімназісты складалі візітоўку Рэспублікі Беларусь у форме электроннай кнігі з тэматычнымі старонкамі.

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа вынес сваё святочнае мерапрыемства, прысвечанае коласаўскай паэзіі, “Песняй вітаю я вас!” проста на тэрыторыю Цэнтральнага дзіцячага парка імя М. Горкага. Удзел у імпрэзе прынялі галоўны рэдактар часопіса “Маладосць” Таццяна Сівец, паэт і галоўны дырэктар радыёстанцыі “Беларусь” Навум Гальпяровіч, дзіцячая пісьменніца Алена Масла, паэт Віктар Жыбуль. З пачаткам новага навучальнага года павіншаваў дзяцей навуковец і захавальнік спадчыны Я. Коласа сын Песняра Міхась Міцкевіч.

## Прэзентацыі

# Новае для школьнікаў

Дар’я ШОЦІК

У прэс-цэнтры Дома прэсы прайшла прэзентацыя электроннага сродку навучання “Чалавек і свет. 1 клас. “Беларусь — наша Радзіма” і праграмна-метадычнага суправаджэння кнігі Беларусь — наша Радзіма. Падарунак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі першакласніку”.

Першакласнікі разам з настаўнікам цяпер змогуць падчас урока вандраваць па краіне, вывучаць рэгіёны, гісторыю, знаёміцца са славутымі землякамі. Інфармацыя на дыску, які стане дадаткам да падручніка, пашырыць і ўдасканаліць веды школьнікаў. Электронным сродкам навучання дзеці змогуць карыстацца і дома, разам з бацькамі, дзядулямі і бабулямі.

Дырэктар выдавецтва “Пачатковая школа”, дзе пабачыў свет падручнік, Наталля Ваніна паведаміла журналістам, што дыск, на якім змяшчаецца прэзентацыя, складаецца з дзвюх частак. У першай — знаёмства з беларускім сцягам, гербам, гімнам, узнагародамі, беларускімі гарадамі, у другой — практычныя заданні.

# Прысвячаецца Карскаму

Уладзімір БАРЫСЮК

Да Дня беларускага пісьменства ў аддзеле гуманітарных навук Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага была падрыхтавана кніжная выстаўка “Я. Ф. Карскі: мовазнаўца, этнограф, фалькларыст”, прысвечаная чалавеку, які адным з першых у навуковым ужытку назваў беларускую мову моваю, а не дыялектам. Гэта ён напісаў грунтоўную працу “Беларусы”, якая і на сённяшні дзень годна прадстаўляе нас у супольнасці славянскіх народаў. А ў дзень правядзення свята пісьменства ў галоўным корпусе Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна адбылася сустрэча з праўнукам першага беларускага акадэміка Аляксандрам Карскім, аўтарам кнігі “Карскі Я. Ф. Бібліяграфічны агляд”, які прыехаў да берасцейцаў з Санкт-Пецярбурга.

Літабсягі

# Эдгар По: здалёк і зблізку

Юзэфа ВОЎК

**Бадай, для кожнага акцёра самай жаданай, але ў той жа час складанай з'яўляецца роля шэкспіраўскага Гамлета. Калі разважаць пра перакладчыка, найперш таго, хто працуе з англійскай мовай, то, думаецца, тэкстам-марай для многіх будзе верш "Raven" Эдгара Алана По. А калі гэта перакладчык з англійскай на беларускую мову, то да катэгорыі "хачу" ён можа аднесці любы тэкст гэтага амерыканскага пісьменніка. Чаму?**

Ды таму, што творы самі па сабе незвычайныя, поўныя складаных вобразаў-сненняў-мрояў спадара Эдгара, у якіх цікава, але адначасова і страшна згубіцца-заблытацца, ды, напэўна, і таму, што ў нашай літаратурнай прасторы да гэтага часу не было асобнай кнігі перакладаў По. А значыць, не было і так бы мовіць афіцыйнай, агульнадаступнай версіі іх перакладу. Не было, але цяпер ёсць.

Так, ёсць! У выдавецтве "Кнігазбор" пабачыла свет кніга Эдгара По "Маска чырвонае смерці". У выданне, над якім працавалі 19 сучасных аўтараў, увайшлі пераклады вершаў, навел, эсэ, а таксама паэмы "Тамерлан". Зборнік выбраных твораў Эдгара По па-беларуску планаваўся да выдання досыць даўно. Але складанасць працы, высокія патрабаванні да тэкстаў перакладаў тут адыгралі немалаважную ролю. Кніга, якая павінна была выйсці да стагоддзя пісьменніка (адзначалася ў 2009 годзе) пабачыла свет на два гады пазней.

Што ж можа знайсці беларускі чытач у гэтым выданні? Апавяданні Эдгара По — дзіўныя, загадкавыя, змрочныя, у якіх адчуваецца подых невядомага, сапраўдны дух літаратурнай готыкі. Славутыя гісторыі, якія паклалі пачатак жанру дэтэктыва. Эсэ "Філасофія кампазіцыі" і "Паэтычны прынцып", якія дапамогуць не толькі аўтару-пачаткоўцу, але і літаратурнаму крытыку. "Я звычайна пачынаю з таго, што абдумваю, якое *ўражанне* зробіць твор. Ніколі не забываючы пра арыгінальнасць — бо сам сябе падманвае той, хто наважваецца адмовіцца ад такога безумоўнага і простага спосабу выклікаць цікавасць…" Так, многія парады выбітнага пісьменніка па структурнай арганізацыі твора, выбудове яго кампазіцыі, суаднясенні намеру з яго ўвасабленнем сталі даступныя і беларускім аўтарам.

Асобны раздзел выдання склалі сапраўды легендарныя вершы: "Крумкач" (здзейснілася мара перакладчыкаў), "Улялюм", "Званы", "Эльдарада",




"Гімн" (яны падаюцца ў двух варыянтах), "Анабэль Лі" і іншыя. Упэўнена, знойдзецца не адзін спецыяліст у галіне тэорыі і практыкі перакладу паэзіі, які з адказнасцю і скрупулёзнасцю вылучыць у новых тэкстах выпадкі стылістычных страт і пашырэнняў, змены рытму і супадзенні тыпаў рыфмоўкі.

Аднойчы займуся гэтым і я, але пазней. Пакуль варта проста прачытаць кнігу і адчуць, што Эдгар По стаў да нас бліжэй.

Артлінія

# Эксклюзіў на «Камяніцы»

**На тэрыторыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту прайшоў III фолк-фэст "Камяніца". Адметна, што ў гэтым годзе значна павялічылася колькасць удзельнікаў, ды і наведвальнікаў фестывалю — ён стаў міжнародным.**

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара

"Калі мы планавалі арганізоўваць "Камяніцу", то баяліся, што справа можа не заладзіцца, што фестываль не знойдзе дастатковую колькасць прыхільнікаў, — распавёў вядучы канцэртнай праграмы, лідар гурта "Палац" Алег Хаменка. — Але цяпер відавочна, што фэст мае багатыя перспектывы для развіцця. Ён ужо выйшаў на еўрапейскі ўзровень, ды і праводзіцца ў такім фармаце, як гэта адбываецца ўсюды ў свеце. Калі ўжо спрыяльна сышліся зоркі і нашы магчымасці, то сорамна падводзіць гледача, тым больш у такім фантастычным месцы".

Не думаю, што хтосьці з гледачоў пачуваўся расчараваным канцэртам, ды і ў цэлым праграмай, прапанаванай арганізатарамі. Такога проста не магло быць! Добрага настрою не азмрочыў нават невялікі дожджык, які ішоў падчас выступлення тэатра "Госціца", які прадставіў сапраўдны эксклюзіў — пачатак новага спектакля, што будзе мець назву "Хата".

Эксклюзівам здзіўлялі і іншыя выканаўцы. Гурт "Стары Ольса", распачаўшы выступленне звычайнай фінальнай "У карчме", парадаваў аўдыторыю кампазіцыямі, што даўно не выконваліся на канцэртах. Марыя Яр прадставіла новы праект "Хоха Бэнд", князь беларускага фолку Іван Кірчук і этнатрыа "Троіца" — новую праграму. Свежы погляд на беларускі фальклор паказалі дуэт "Аляксандра і Канстанцін", а таксама гурт "Ветах". На фэсце адбылося і сімвалічнае вяртанне на беларускую сцэну магілёўскага гурта Osimira. Хлопцы сапраўды распалілі публіку фолк-рокавымі матывамі перад яшчэ больш гарачым этнадыска ад спецыяльнага госця з Украіны Алега Скрыпкі.

Свята атрымалася! Апроч наведвання канцэрта гледачы мелі магчымасць пазнаёміцца з творамі маладога жывапісца Анны Селівончык, паўдзельнічаць у забаўляльнай праграме, наведаць "Беларускую карчму" і, натуральна, пазнаёміцца з экспазіцыяй музея народнай архітэктуры і побыту.

Паводле задумы арганізатараў, грашовыя сродкі, атрыманыя падчас фэсту, будуць накіраваны на рэстаўрацыю і захаванне музейных экспанатаў.



***На здымку: выступленне дуэта "Аляксандра і Канстанцін" падчас фэсту.***

Повязі

# Фігара: сёння і тут!

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

**9 і 12 верасня ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі — прэм'ера новай пастаноўкі неўміручага шэдэўра Джаакіна Расіні "Севільскі цырульнік". Зыходзячы з гісторыі стварэння оперы, якую кампазітар пісаў да карнавалу ў Рыме, пастаноўшчыкі трактуюць яе як камедыю масак (dell'arte) і вырашаюць спектакль у традыцыях плошчавага тэатра. На якой менавіта плошчы разгортваецца дзеянне?**

Месца, дзе стаіць Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі, — гістарычны куток, які завецца Траецкай гарою. Але адрас будынка, як вядома, дачынення да мінскай гісторыі не мае: плошча Парыжскай Камуны, 1. Між іншым, за сто гадоў да падзеі, у гонар якой перайменавалі Траецкую плошчу, пачыналася літаратурная кар'ера "бунтоўнага" парыжаніна П. Бамаршэ. Яго "Севільскі цырульнік" — п'еса з іспанскім антуражам, але з абсалютна французскім духам, — праз паўстагоддзя легла ў аснову лібрэта оперы італьянца Дж. Расіні, які, да ўсяго, пабыў дырэктарам Італьянскай оперы ў Парыжы, дзе прайшоў апошні перыяд яго жыцця. Сёння, праз 195 гадоў з часу першай пастаноўкі "Севільскага цырульніка", наша публіка ўбачыць Фігара, добра знаёмага дзякуючы ранейшым айчынным версіям оперы. З'явіцца ён ва ўмоўнай карнавальнай прасторы плошчы, размешчанай на сцэне тэатра. Але плошча — не ў Севільі, не ў Парыжы, не ў Рыме. Яна знаходзіцца ў... Венецыі, дзе збяруцца акцёры, каб разыграць неўміручую камедыю, галоўны герой якой, строга кажучы, не Фігара, а закаханы ў юную Разіну граф Альмавіва...

Падчас прэс-канферэнцыі з удзелам стваральнікаў спектакля — дырыжора-пастаноўшчыка, італьянскага маэстра Джанлукі Марчыяна, рэжысёра Міхаіла Панджавідзэ, хормайстра Ніны Ламановіч, мастака Аляксандра Касцючэнкі, — гаварылася пра складанасці акцёрскага існавання ва ўмовах камедыі dell'arte нават для спрактыкаваных драматычных артыстаў, а тым больш — для оперных. Асваенне нязвыклай стылістыкі вымагала ад салістаў неверагоднай самааддачы на рэпетыцыях. Рэжысёр з непрыхаваным піетэтам гаворыць пра кожнага ўдзельніка ўсіх трох выканальніцкіх складаў. У захапленні ад майстэрства і працавітасці беларускіх спевакоў, артыстаў хору і аркестра наш госць Джанлука Марчыяна. Дарэчы, ён будзе дырыжыраваць сённяшнім спектаклем, у якім удзельнічаюць Юрый Гарадзецкі, Станіслаў Трыфанаў, Таццяна Гаўрылава... Прэм'ера "Севільскага ..." — яркі працяг 79-га сезона, які распачаўся двума паказамі новай грандыёзнай пастаноўкі "Аіды" Дж. Вердзі. Перад'юбілейны для тэатра год будзе насычаны рэпертуарнымі сюрпрызамі, міжнароднымі творчымі праектамі. Пра гэта мы раскажам чытачам "ЛіМа" ў бліжэйшы час.



***На здымку: маэстра Джанлука Марчыяна і галоўны дырыжор НАВТ оперы і балета Беларусі Віктар Пласкіна.***

З-пад пяра

Дзень ведаў і Дзень беларускага пісьменства вырашылі спалучыць сёлета лунінецкія энтузіясты, наладзіўшы свята на адкрытай пляцоўцы ля Цэнтральнай раённай бібліятэкі. На шматлікіх выстаўках, якія былі арганізаваны супрацоўнікамі дзвюх бібліятэчных устаноў — Цэнтральнай раённай і Цэнтральнай дзіцячай, былі прадстаўлены кнігі пра гісторыю беларускага пісьменства, жыццё і творчасць беларускіх асветнікаў, літаратараў, дзеячаў навукі і культуры. Увагу наведвальнікаў прыцягнула выстаўка рэдкіх кніг з бібліятэчных фондаў, на якой можна было ўбачыць выданні самага маленькага і самага вялікага фармату; кнігі, набраныя незвычайнымі шрыфтамі; кнігі з унікальнымі фотаздымкамі і іншыя. А яшчэ ўсіх зацікавілі кнігі, зробленыя дырэктарам РЦБС Н. Радзяновіч… з макароны! Экскурсіі і агляды ладзіліся ў тэатралізаванай форме.

**Таццяна КАРПУКОВІЧ**

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Цэнтральны батанічны сад правялі сумесную акцыю ў абарону міру на зямлі пад назвай "Зберагчы б!". У музеі былі прадстаўлены два супрацьлеглыя паняцці — вайна і мір. У блоку "Пасля вайны" экспанавалася зброя, рэчы ваенных часоў. Увасабленнем святла і прыгажосці, своеасаблівым адказам вайне, сімвалам квітнеючай і мірнай Беларусі сталі кветкі з багатых калекцый Цэнтральнага батанічнага саду Беларусі. Наведвальнікі маглі любавацца букетамі з васількоў, сланечнікаў, гладыёлусаў, геленіумаў. Арганізатары выстаўкі правялі прэзентацыю раслін розных кантынентаў. Пасля мерапрыемства ўсе выходзілі з музея з кветкамі — часцінкай святла і дабрыні.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Добра і, як заўсёды, з размахам павіншаваў сваіх першакурснікаў з Днём ведаў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. У Палацы спорту для іх было наладжана тэатральна-відовішчнае свята "Vivat, студэнт!". Спачатку з песнямі і танцамі выступалі старшакурснікі, потым на сцэну выйшлі прафесійныя артысты: спявак з Санкт-Пецярбурга з беларускімі каранямі Юзары; беларускі гурт "Da Vinci", гурт "ProSSpekt", які быў утвораны на базе Інстытута журналістыкі БДУ, беларускі гурт "Fire Space" і іншыя. Хэдлайнерам быў рок-гурт "The BlackMail". Вядучымі шоу сталіся намеснік начальніка ўпраўлення па справах культуры БДУ Кацярына Саладуха і вядучы праграмы "Нашы навіны" Яўген Лашкоўскі.

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

Тэатр юнага гледача ў новым сезоне раздае падарункі! У кожным нумары часопісаў "Маладосць" і "Бярозка" будуць апублікаваныя купоны з 50-працэнтнай скідкай на білеты ў тэатр. Купон дзейнічае толькі на адзін пазначаны ў ім спектакль на працягу ўсяго тэатральнага сезона. Сабраўшы калекцыю купонаў, юны глядач зможа паглядзець усе чароўныя гісторыі і казкі новага сезона.

**Іван СТАРКО**

У сталічнай бібліятэцы № 14 імя Ф. Багушэвіча прайшоў першы ў гэтым навучальным годзе ўрок для школьнікаў гімназіі № 27. Правесці яго былі запрошаны пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, рэдактар аддзела прозы часопіса "Полымя" Уладзімір Саламаха і паэт Рагнед Малахоўскі, які ўзначальвае часопіс "Бярозка". Размова Рагнеда Малахоўскага з падлеткамі прадоўжылася ў бібліятэцы № 15 імя Цёткі г. Мінска, дзе паэт прадставіў сваю кнігу "Беражніца". На памяць пра сустрэчы ў школьнікаў засталіся кнігі з аўтографамі.

**Дар'я ШОЦІК**

# Літаратура — памяць народа

**Напярэдадні Дня беларускага пісьменства ў Мінску за "круглым сталом" "Беларускі акцэнт: вопыт і перспектывы міжнароднага культурнага супрацоўніцтва" сабраліся пісьменнікі, навукоўцы, журналісты, выдаўцы Беларусі, блізкага і далёкага замежжа. Іх цёпла вітаў намеснік міністра інфармацыі Уладзімір МАТУСЕВІЧ, які падкрэсліў, што сёлетняя, пятая па ліку, сустрэча дасць новы штуршок для ўзаемаўзбагачэння нашых культур і народаў, а галоўным стрыжнем такіх сустрэч была і застаецца дыскусія пра месца літаратуры ў сучасным свеце, уплыў мастацкага слова на маральны стан чалавека і грамадства.**



Уладзімір Матусевіч



Любоў Шашкова



Аляксандр Казінцаў



Слабадан Вуканавіч



Ато Хамдам



Мадэратар "круглага стала", дырэктар РВУ "Літаратура і Мастацтва", галоўны рэдактар "ЛіМа" **Алесь Карлюкевіч** акрэсліў галоўныя тэмы, прадставіў гасцей з Расіі, Украіны, Казахстана, Таджыкістана, Чарнагорыі і Літвы. Падчас гутаркі адзначалася існаванне багатага культурнага абмену паміж гэтымі краінамі і Беларуссю. У часопісах "Полымя", "Маладосць", "Нёман", газеце "ЛіМ" друкуюцца творы пісьменнікаў блізкіх і далёкіх краін. У сваю чаргу, на іншыя мовы перакладаюцца паэзія і проза беларускіх творцаў. Наша рэспубліка становіцца донарам для ажыццяўлення шматлікіх літаратурных праектаў.

Выступоўцы грунтоўна аналізавалі стан міжнародных літаратурных стасункаў, вызначалі шлях іх развіцця і ўмацавання.

**Аляксандр КАЗІНЦАЎ, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Наш современник":**

— Калі гаварыць пра беларускі акцэнт, то ў ім у апошнія гады адчувальны акцэнт сярэднееўрапейскі, цэнтральнаеўрапейскі. І мне здаецца, што гэта плённа. Вядома, я прадстаўнік рускай літаратуры, і мне дарагая кожная руская інтанацыя. Але калі ўсе будуць пісаць па-руску, у рамках рускай культуры, то не будзе прадмета для камунікацыі, узбагачэння, дыялогу культур. І я рады, што ў Беларусі развіваецца свой уласны акцэнт і ў сацыяльным жыцці і ў культуры. Напрыклад, апавяданне Алеся Бадака "Уцёк на край дажджу", якое часопіс "Наш современник" друкаваў у 12-м, "беларускім" нумары. Гэта апавяданне, якое складаецца нават не столькі са слоў, якія на першы погляд пазбаўлены ўсялякага значэння. Яно складаецца больш з маўчання, кропель дажджу, паўтонаў. І з іх узнікае сітуацыя, узятая ў сярэдзіне свайго развіцця, а не ў пачатку, калі і кульмінацыя, магчыма, прайшла. Але мы з сямейных абмоўак мужа і жонкі даведваемся пра пабытавую трагедыю, катастрофу, у якую патрапіла іх дачка, і трагедыю быційную — у сям'і непаразуменне. І гэта, дарэчы, ужо праблема не толькі герояў апавядання, а вялікая сучасная праблема насельнікаў мегаполісаў. І тое, як гэта ненавязліва расказана, напаўтолаcа, — новае ў беларускай літаратуры. Ідэя прыватнасці — тое, што для рускай літаратуры не характэрна; свет сям'і, чалавека, які не адкрыты насцеж усім вятрам, стасункі чалавека толькі з самымі блізкімі людзьмі — гэта плённы кірунак, які абяцае шмат у развіцці беларускай літаратуры.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, дырэктар рэдакцыі зарубежнага вяшчання радыёстанцыі "Беларусь":**

—У Беларусі часта перакладаюць рускую літаратуру на беларускую мову. Здавалася б, для чаго? Бо ўсе ў Беларусі разумеюць рускую мову. Я лічу, што такія пераклады служаць развіццю і беларускай мовы. Таму што, калі перакладаюць вялікіх рускіх паэтаў на беларускую мову, узнімаюцца глыбінныя пласты нашай мовы, перакладчык шукае адпаведныя паэтычныя элементы, узбагачаючы слоўны запас. Калі я прачытаў кнігу вершаў Андрэя Вазнясенскага ў перакладзе Рыгора Барадуліна на беларускую мову, то мне падалося, што беларуская варыянты вартыя арыгіналаў! Для кожнай літаратуры вельмі важна гучанне роднага слова яшчэ і таму, што ў ім ёсць глыбінныя тэктанічныя пароды той народнай паэтыкі, той народнай мудрасці і таго народнага гучання, якое ёсць у мове кожнага народа. Таму для беларускай мовы вельмі важна, калі ўзбагачаецца лексічны склад, калі ёсць магчымасць стварыць новыя цікавыя творы на роднай мове.

**Алесь КАЖАДУБ, галоўны рэдактар выдавецтва "Советский писатель", шэф-рэдактар газеты "Лад" (дадатка "Литературной газеты"):**

— Сёння выдаць кнігу ў Расіі можна альбо скарыстаўшы службовае становішча, альбо знайшоўшы мецэната... А кніга — гэта праца на перспектыву. Але ніводны чыноўнік, у чыёй уладзе падтрымаць кнігу, не зразумее гэтага, пакуль яму добра не патлумачыш. Трэба працягваць рабіць тое, што ўжо рабілася цягам гадоў. Вось у вас, у Беларусі, выдалі 146 тамоў кніг "Памяць" — у Расіі такога няма. Тут, безумоўна, без дапамогі дзяржавы не абысціся. У Расіі, напрыклад, наогул, энцыклапедычную літаратуру (і не толькі энцыклапедычную) даўно адпусцілі ў свабоднае плаванне — рабіце што хочаце...

**Аляксандр КАПЛІН, доктар гістарычных навук, прафесар Харкаўскага ўніверсітэта:**

— Беларускі фальклор — цікавы і самабытны. Летась на Маскоўскай міжнароднай выстаўцы-кірмашы я прэзентаваў кнігу, перавыданне якой упершыню адбылося ў 1898 годзе. Гэта кніга Пятра Аляксеевіча Бяссонава "Беларускія песні з падрабязнымі тлумачэннямі іх творчасці, нарысамі народнага абраду, звычаю і ўсяго побыту". У яе я спецыяльна ўключыў не ўсе беларускія песні, каб у Беларусі таксама была магчымасць выдаць цалкам гэты ўнікальны зборнік. Ён каштоўны не толькі для беларусаў, але і для ўсіх славян, таму што ў яго ўвайшло вельмі шмат абрадавых песень. А абрадавыя песні захаваліся лепш за ўсё з усходніх славян толькі ў беларусаў. А іменна: на Вялікдзень, на Масленіцу, валачобныя, на Святога Юр'я, на Міколу, купальныя і каляндныя песні і інш. Актуалізацыя гэтага выдання не толькі мае гістарычную зададзенасць, але і набывае немалую значнасць ва ўмовах глабалізацыі — пры скажэнні, сціранні і знішчэнні сапраўдных народных каштоўнасцей.

**Любоў ШАШКОВА, старшыня савета па рускай літаратуры Саюза пісьменнікаў Казахстана:**

— У беларускай і казахскай літаратур складваюцца ў апошнія гады надзвычай добрыя, сяброўскія адносіны. Пра гэта сведчаць публікацыі на старонках вашых літаратурна-мастацкіх часопісаў і "беларускія" нумары нашага часопіса "Простор", а таксама сустрэчы беларускіх і казахскіх пісьменнікаў у Мінску і Алматы. Мы вельмі ўдзячны Міколу Мятліцкаму, які зрабіў пераклад вершаў класіка казахскай літаратуры Абая. Кніга "Стэпавы простор" пабачыла свет у выдавецтве "Літаратура і Мастацтва". Творчыя сувязі нашых літаратараў будуць доўжыцца, пашырацца. Ініцыятывы, якія спрыяюць гэтаму, ёсць і ў пасольстве Казахстана ў Беларусі, і ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

**Ато ХАМДАМ, сустаршыня форуму перакладчыкаў і выдаўцоў краін СНД і Балтыі (Таджыкістан):**

— Супрацоўніцтва паміж пісьменнікамі Таджыкістана і Беларусі працягваецца. У выдавецтве "ЛіМ" за кароткі тэрмін наладжана выданне перакладаў таджыкскіх аўтараў. Але не ў такой колькасці, як хацелася б. Лічыце самі: за апошнія гады ў нас выдадзена восем кніг беларускіх пісьменнікаў. Калі ж падлічыць колькасць кніг нашых пісьменнікаў, выдадзеных у Беларусі, то лік будзе не ў вашу карысць.

Трэба шукаць новыя формы супрацоўніцтва. Часта ўсё, што мы абмяркоўваем, застаецца на паперы. Магчыма, варта нашы сумесныя рашэнні даводзіць да кіраўніцтва дзяржаў.

**Раіса БАРАВІКОВА, паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:**

— Напэўна, на сённяшні дзень для кожнага з нас самая вялікая праблема — пераклад нашых твораў на іншыя мовы... Разбурана тая школа мастацкага перакладу, якая існавала 30 — 40 гадоў таму у СССР. Акрамя гэтага ў той ужо далёкай ад нас краіне была пэўная сістэма, калі, скажам, у тым жа выдавецтве "Советский писатель" у перакладзе на рускую мову выдаваліся (па чарзе) пісьменнікі выключна ўсіх рэспублік, што ўваходзілі ў склад СССР: кнігі прозы, паэзіі, публіцыстыкі... Твор стаяў у выдавецкім плане і ў яго перакладзе быў зацікаўлены перакладчык, які, як і сам аўтар, дакладна ведаў, што кніга пабачыць свет. Цяпер іншая сітуацыя: перакладчык не будзе займацца "катом у мяшку"... І ўсё ж дзякуючы нашай рэдакцыйна-выдавецкай установе мы, прадстаўнікі розных народаў, сабраліся і сядзім за гэтым "круглым сталом", каб абмеркаваць самыя набалелыя пытанні нашых літаратур і, адпаведна, літаратурных сувязей. І проста цудоўна, што мы ўжо даўно ведаем адно аднаго, абменьваемся кнігамі... А вось літаратурная моладзь — наш працяг? Ці складуцца ў іх падобныя кантакты? Ці з'явяцца зацікаўленыя маладыя перакладчыкі? Мяркую, што ў нашай літаратурна-выдавецкай справе трэба вынайсці пэўную сістэму, і перш за ўсё гэта тычыцца фінансавання таго ці іншага літаратурнага праекта, скіраванага як на ўмацаванне літаратурных сувязей, так і на папулярызацыю нашых твораў праз пераклад.

**Барыс КОСЦІН, старшыня савета Санкт-Пецярбургскага клуба аматараў рускай славеснасці:**

— Цалкам падтрымліваю думку Раісы Андрэеўны і іншых калег: трэба "надаядаць" начальству, застаўляючы яго рабіць прыстойныя ўчынкі, часцей і сур'ёзней гаварыць пра нашы праблемы, якіх нямала. Наперадзе нас чакае шмат юбілеяў і, у тым ліку, 1150-годдзе Полацка. У рамках гэтага свята давайце арганізуем Дні славянскага пісьменства і правядзём іх цікава і годна.

У абмеркаванні тэмы ўдзельнічалі таксама **Аляксандр ЧАРНЯК** — намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Российская Федерация сегодня" (Масква), **Яронімас ЛАУЦЮС** — дырэктар выдавецтва "Трыс жвайгждутэс", галоўны рэдактар часопіса "Жвайгждутэ" (Літва), **Слабадан ВУКАНАВІЧ** — паэт, стваральнік новай літаратурнай плыні чарнагорскай літаратуры, **Мікола МЯТЛІЦКІ** — галоўны рэдактар часопіса "Полымя", **Сяргей ТРАХІМЁНАК** — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, **Ларыса ЯЗЫКОВІЧ** — галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі".

У рабоце "круглага стала" прынялі ўдзел пасол Рэспублікі Куба ў Беларусі **Альфрэда Ньевес ПАРТУОНДА**, дырэктар інстытута выдавецтваў і энцыклапедый Літвы **Рымантас КАРЭЦКАС**, старшыня Саюза перакладчыкаў Казахстана **Кайрат БАКБЕРГЕНАЎ**, прадстаўнікі рэдакцый і выдавецтваў Беларусі.

**Запісаў Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**



# Ганцавічы: сустрэчы, песні і надзеі

**У летапісе добрых спраў, што суправаджаюць штогадова свята нашага роднага беларускага слова, адгорнута чыстая старонка, і запаўняць яе выпала жыхарам Ганцавіч — горада-змагара і працаўніка, горада, дзе шануюць і берагуць спадчыну продкаў, дзе, урэшце, надзвычай багатыя духоўныя, песенныя, літаратурныя традыцыі. Цэлы год ён рыхтаваўся да гэтага светлага дня — 4 верасня, — які стаў дзяржаўным святам.**

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота Кастуся Дробава і БелТА**

На гэты раз яно прайшло пад знакам Якуба Коласа, які ў 1902—1904 гадах працаваў настаўнікам у вёсцы Люсіна. Было тады будучаму класіку 20 гадоў. І вось сёлета ён вярнуўся ў сваю рамантычную маладосць. Брэсцкія скульптары Алеся Гуршчанкова і Павел Герасіменка стварылі вобраз маладога сельскага інтэлігента. Помнік яму ўстаноўлены на Алеі пісьменства. Яго адкрылі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец і старшыня Ганцавіцкага райвыканкама Уладзімір Столяр.

Алея пісьменства, на наш погляд, стала адной з галоўных асаблівасцей свята. У іншых раёнах такой няма. І прысвечана яна творцам-выхадцам з Ганцаўшчыны. Яшчэ раз паўторым імёны, якія занесены ў бронзавыя "скруткі". Гэта Казімір Сержпутоўскі, Васіль Праскураў, Міхась Рудкоўскі, Іван Кірэйчык, Віктар Гардзей, Алесь Каско, Уладзімір Марук, Іван Лагвіновіч.

Падаецца вельмі важным, што ў Ганцавічах улады звярнуліся да сваёй уласнай гісторыка-культурнай спадчыны, да постацей, якія нарадзіліся на гэтай зямлі і гарманічна ўпісаліся ў літаратурную прастору Беларусі.

Адкрываючы Алею пісьменства, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі падкрэсліў, што ганцавіцкая зямля стала невычэрпнай крыніцай творчага натхнення не толькі для Я. Коласа, але і іншых айчынных літаратараў. Дзень пісьменства з'яўляецца сведчаннем вялікага дзяржаўнага клопату пра нацыянальную культуру, адукацыю і друк. Ён таксама адзначыў, што ў рэспубліцы актыўна развіваецца кнігадрукаванне і асаблівая ўвага надаецца выданню твораў класікаў.



Міністр культуры Павел Латушка дадаў, што беларусы могуць па праву ганарыцца сваёй гісторыяй, сваім друкаваным словам. Для кожнага Дня пісьменства ідэя адзіная: аб'яднаць вакол яго, вакол беларускай мовы і культуры, і ўсіх нас. Надышоў час падумаць пра тое, што варта прыняць нацыянальную праграму развіцця чытання ў Беларусі — сістэмна распрацаваць падыходы, вырашыць, што зрабіць, каб усё больш людзей звярталася да творчасці нашых і замежных пісьменнікаў. А радкі "Мой родны кут, як ты мне мілы..." павінны гучаць у сэрцы кожнага беларуса.

Тут жа, на Алеі, была разгорнута кніга ганаровых гасцей. Свае подпісы ў ёй пакінулі намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатоль Тозік, старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, творчых саюзаў.

Канстанцін Сумар адзначыў, што на Брэстчыне такое свята праходзіць трэці раз. Дзень пісьменства прымалі ўжо Пінск і Тураў. Такога гонару вобласць удастоена дзякуючы сваёй самабытнасці. Тут кожны раён і вёска маюць унікальныя фальклорныя традыцыі, старадаўнія звычаі, цікавыя абрады. На яго думку, у Беларусі няма такога месца, акрамя Берасцейшчыны, якое дало б нашай культуры столькі майстроў слова.

Пасля ўрачыстага адкрыцця Алеі пісьменства ўшанаванне ганцавіцкіх літаратараў, дзякуючы таленту якіх, уласна кажучы, і адбылося гэтае цудоўнае вераснёўскае свята, прадоўжылася ў стылізаваных пад даўніну павільёнах, што былі збудаваны ўздоўж вуліцы Гагарына. Вершаваным радком і вясёлай прыпеўкай аднавяскоўцы звярталі ўвагу на творчасць паэтаў Міхася Рудкоўскага, Івана Кірэйчыка, Алеся Каско, Уладзіміра Марука... Надзвычай арыгінальна, з густам і выдумкай быў аформлены святочны павільён Агарэвіцкага сельсавета (старшыня С. Агейка) — радзімы пісьменніка Віктара Гардзея. Сялянская хата, накрытая саломай, колішні зусім не багаты інтэр'ер. Аднак людзі не дужа ахвотна пакідалі гасцінных гаспадароў. Тут можна было паласавацца мёдам, смачнай выпечкай, садавінай, грыбамі, смажаным салам. І цэлы дзень у агарэвіцкім павільёне чулася музыка, гучалі песні, грымелі заліхвацкія скокі. Вясёлы настрой ганцаўчанам падымалі самадзейныя артысты Наталля Садосава, Ванда Чабатарэнка, ажно тры Алы — Шаматульская, Скарагод, Мірзаліева — і многія іншыя. Так землякі славілі свайго паэта: навідавоку была разгорнута выстаўка ягоных кніг, стаяў партрэт творцы, а наведвальнікі сялянскай хаты маглі сфатаграфавацца на фоне імяннога торта, спечанага спецыяльна ў гонар 65-гадовага юбілею В. Гардзея. Баяніст Вялікакруговіцкага Дома культуры, самадзейны кампазітар Лілія Вадзюціна час ад часу раздзімала мяхі баяна, і тады прахожыя міжволі спыняліся, слухаючы чароўную мелодыю песні на словы паэта-земляка:

*Як бы край ні вабіў невядомы,*
*Як бы новы ні дражніў блакіт,*
*Сэрца там, пакінутае дома,*
*Да сябе прыцягне, як магніт...*

Паэзія на свяце гучала ўсюды, у тым ліку і ў выкананні юных удзельнікаў конкурсу на лепшае чытанне вершаў Я. Коласа і М. Багдановіча. А ў час адкрыцця Дня пісьменства былі ўключаны запісы галасоў Я. Купалы і Я. Коласа. Уражанне было моцнае, быццам бы самі песняры ўдзельнічалі ва ўрачыстасцях.

Шырока разгарнуліся і забаўлялі гасцей і ўдзельнікаў свята выстаўкі, горад майстроў, кірмаш сельскіх падвор'яў, майстар-класы разьбы па дрэве, вышыванні ручнікоў крыжыкам, пляценне вырабаў з паперы і іншыя. І, канечне ж, у гэты надзвычай сонечны дзень на кожнай вуліцы гучалі музыка, песні, у скокі пускаліся не толькі самадзейныя артысты, але і ганцаўчане і іх госці. Усіх смачна частавалі работнікі раённых спажывецкіх таварыстваў.

Закончылася свята феерверкам. Што ж, бывайце, слаўныя, прыгожыя, гасцёўныя Ганцавічы. Да пабачэння, Дзень беларускага пісьменства! Да сустрэчы на Віцебшчыне, у Глыбокім!

На здымках: ганаровыя госці свята; адкрыццё помніка Якубу Коласу.

## «Думка...» прапануе

**Таццяна ШАБЛЫКА**




**Чарговы нумар часопіса "Беларуская думка" традыцыйна прапануе чытачам шырокі тэматычны спектр публікацый — ад палітыкі і эканомікі да навукова-папулярных і філасофскіх артыкулаў.**

Зыходзячы з асаблівай актуальнасці сённяшнім часам менавіта эканамічных праблем, рэдакцыя прадстаўляе магчымасць дырэктару Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Аляксею Дайнеку выказаць свае думкі наконт збалансаванасці знешняга гандлю Беларусі. Аўтар прыводзіць лічбавыя дадзеныя ўкладу асобных тавараў айчыннага экспарту і імпарту ў рост адмоўнага знешнегандлёвага сальда ў перыяд з 2005 па 2010 год, а таксама з пачатку 2011 года, распавядае пра механізмы мінімізацыі вынікаў гэтага росту. Вучоны-эканаміст даводзіць неабходнасць структурных змен у эканоміцы, скіраваных на павелічэнне экспарту высокатэхналагічных тавараў з вялікай доляй дабаўленага кошту і адначасовае зніжэнне імпарту некрытычных тавараў і рэсурсаў.

Тэму дынамічнага развіцця беларускай эканамічнай мадэлі працягвае вядомы расійскі палітолаг і эканаміст Міхаіл Дзялягін. На яго думку, паспяховая будучыня гарантавана Беларусі на шляху ператварэння краіны ў тэхнапарк Еўразіі і мадэрнізацыі дзяржаўнай сістэмы кіравання. Пры гэтым, упэўнены эксперт, краіне неабходна прытрымлівацца стратэгіі балансавання паміж Расіяй і Еўрасаюзам і працягваць далейшае развіццё сацыяльна арыентаванай эканомікі.

У аснове публікацыі "Парушальнік навуковага спакою", падрыхтаванай вядомым беларускім гісторыкам Віталем Скалабанам, якога, на вялікі жаль, ужо няма, ляжаць архіўныя пісьмы доктара гістарычных навук Вадзіма Круталевіча, які зрабіў мэтай свайго навуковага жыцця "паказаць працэс стварэння БССР з усімі яго цяжкасцямі і супярэчнасцямі, менавіта такім, якім ён быў у сапраўднасці". Яго звароты да кіраўніцтва ЦК КПБ і АН БССР, у рэдакцыі грамадска-палітычных і навуковых часопісаў даюць уяўленне пра тыя праблемы, якія паўставалі на шляху публікацый неардынарных прац вучонага, пра ўзаемаадносіны ў айчынным акадэмічным асяроддзі ў 1960-х гадах.

Гістарычную тэму працягвае артыкул Алены Лях "Абавязкова ўключыце паездку да Машэрава..." Яго назва з'яўляецца цытатай слоў лідара Кубінскай рэвалюцыі Фідэля Кастра Рус, які падчас паездкі ў СССР у чэрвені 1972 года запатрабаваў унесці карэктывы ў праграму свайго візіту і арганізаваць наведванне БССР, каб пабачыць свайго сябра – "партызана Машэрава". Аўтар распавядае пра падрабязнасці знаходжання легендарнага камандантэ ў Мінску.

Ці магчыма пераадолець злачыннасць у яе карупцыйных праявах? Так, лічыць вядомы расійскі спецыяліст па праблемах барацьбы з карупцыяй, доктар юрыдычных навук, генерал-маёр міліцыі ў адстаўцы Уладзімір Аўчынскі. У прыклад ён прыводзіць вопыт Грузіі і Беларусі, дзе, правёўшы маштабныя кадравыя чысткі ў органах МУС, здолелі дасягнуць бачных вынікаў. У сваім інтэрв'ю "Менты — слова нармальнае" эксперт разважае таксама пра магчымыя шляхі рэфармавання расійскай сістэмы барацьбы з арганізаванай злачыннасцю.

У традыцыйным для часопіса філасофскім раздзеле доктар гістарычных навук, кандыдат філасофскіх навук Барыс Ляпешка звяртаецца да пытання магчымасці прымянення маральных крытэрыяў пры вывучэнні гістарычнага працэсу, для ацэнкі дзеянняў тых ці іншых гістарычных персанажаў.

З публікацый нумара таксама можна даведацца пра перадавыя навуковыя распрацоўкі беларускіх вучоных-фізікаў, новыя падыходы да інфарматызацыі айчыннай адукацыі, таксама друкуюцца артыкулы крытыка-бібліяграфічнага характару, агляды кніжных навінак.

# Зямное і вечнае

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**




Не адзін дзень прайшоў з таго часу, калі мною была прачытана-перачытана кніга Генадзя Пашкова “У далонях свету”, якую выдавецтва “Мастацкая літаратура” выпусціла ў серыі “Школьная бібліятэка”, а значыць, яна ў першую чаргу, пра што і сказана ў анатацыі, “рэкамендуецца навучэнцам агульнаадукацыйных устаноў для абавязковага вывучэння і пазакласнага чытання”. Хоць, зразумела, гэта ні ў якім разе не значыць, што яна не трапіць у рукі іншым зацікаўленым чытачам. Таму і я таксама вырашыў пазнаёміцца з ёю, каб шмат у чым абнавіць сваю памяць, бо за творчасцю Г. Пашкова сачу ўважліва і нават пісаў пра яго кнігі. Цяпер жа па сутнасці адкрываў Г. Пашкова як паэта нанава (ён жа, як вядома, таленавіта працуе і ў галіне публіцыстыкі). Захацелася і “У далонях свету” прарэцэнзаваць, тым больш што гэтая кніга шмат у чым успрымаецца і свайго роду выбраным.

Адна толькі бяда: як ні стараўся, усё ніяк не мог сабрацца з думкамі, з чаго б пачаць рэцэнзію. Адзін варыянт адпрэчыў, другі… Чарговым ранкам сеў за пісьмовы стол — і раптам… быццам азарэнне прыйшло: навошта адкрываць нейкія там “Амерыкі”, калі ўсё, як кажуць, ляжыць на паверхні. Адразу неабходна гаварыць пра тое, што для творчасці Г. Пашкова вызначальнае і істотнае. Таму трэба акцэнтаваць увагу на тым, што ён — паэт-традыцыяналіст, прадстаўнік той кагорты, да якой адносяцца, у прыватнасці, Віктар Гардзей, Навум Гальпяровіч, Казімір Камейша, Мікола Мятліцкі і іншыя, хто, па сутнасці, тыя апошнія магікане ў паэзіі, якія не забываюць (і не хочуць забываць!), што беларуская паэзія — гэта паэзія традыцыйна зямная ў сваёй сутнасці. Мітуслівае эксперыментатарства ёй чужое. Таму паэтам гэтага творчага кірунку робіцца не па сабе (упэўнены ў гэтым), калі яны напаткоўваюць у друку танныя падробкі пад яе, што падносяцца ледзь не як новае слова ў літаратуры, а на самай справе — гэта творчая імітацыя і не больш, у якой пры ўсім жаданні не дайсці да сэнсу.

Чытаеш жа Г. Пашкова — і быццам удыхаеш у сябе сам водар ягонай паэзіі, які становіцца для цябе азонавым паветрам… Прадбачу з’едлівую ўсмешку каго-небудзь з тых “паэтаў”, для каго традыцыйная паэзія — як ладан для чорта. Маўляў, дапісаўся крытык. Той жа азон, як устанавілі вучоныя, шкодны для здароўя. Што ж, пярэчыць не збіраюся. Дадам толькі, што шкоднасць азону праяўляецца тады, калі ўдыхаць яго ў вялікай колькасці. А хіба ж можа быць шмат сапраўднай паэзіі?! Такой, якая становіцца для цябе быццам датыкальнай. Чытаеш верш, і адразу напаткоўвае здзіўленне: усё гэта не проста чытаеш, а бачыш наяве.

Напрыклад, узяць верш “***Адспявала лета за ракою…”. Нібыта і не ў гарадской кватэры знаходзішся, а недзе за горадам, там, дзе табе даўно ўсё знаёмае, бо наведваешся туды часта, да драбніц ведаеш, як усё выглядае. І вось чарговая змена пары года. Напачатку ад гэтага крыху не па сабе, таму што пазбаўляешся чагосьці звыклага, што прыносіць спакой і раўнавагу, а абнаўленне, якое чакаецца наперадзе, нясе і некаторую невядомасць. З-за гэтага ўжо не толькі ўзіраешся ў змену знаёмых краявідаў. Як бы міма тваёй волі з’яўляецца пэўная насцярожанасць, якую не можаш вытлумачыць:

*Адспявала лета за ракою*
*аржаной саломінкі дуда.*
*Апаліўшы голле*
*песняй тою —*
*лісцямі усыпана вада.*

*Над вірамі стынуць*
*насцярожана*
*лазнякі, чакаючы зімы.*
*І чаму заўсёды так трывожна,*
*калі час мяняецца зямны?*

Як ні стараешся, а адказу на гэтае пытанне знайсці не можаш. Толькі прадчуванне, што гэта можа быць так, а не інакш: “Можа, сам чакаеш перамены, // абнаўлення стомленай душы?” Але разам з тым адказ усё ж прыходзіць. Ён, праўда, з’яўляецца не напрамую. Проста ўзнікае канстатацыя менавіта гэтага, а не іншага стану. Як бы і не ўвязаная з папярэднім пытаннем-сумненнем, але такая, што лагічна вынікае з яго і нават нясе за сабой тое, што сведчыць, наколькі змены ў прыродзе станоўча ўздзейнічаюць на чалавека, спрыяючы яго ўнутранаму абнаўленню, а ў нейкай ступені і душэўнаму ачышчэнню, духоўнаму ўзбагачэнню.

> *Пімен Панчанка адзначыў, што ў Г. Пашкова “звонкі і чысты голас”. Гэтай мастакоўскай якасці ён не растраціў па сённяшні дзень.*

*… Чысты, як сумленне,*
*і праменны,*
*ужо снег ледзь-ледзь*
*пацерушыў.*

*Ты і сам —*
*на голлейку пупышка:*
*што табе завеі, што мароз!*
*У вачах зялёныя успышкі,*
*новых вёснаў непаўторны лёс.*

Лёгка кідаецца ашчаднасць паэта ў выкарыстанні вобразна-выяўленчых сродкаў. Нічога лішняга, але гэта ніколькі не перашкодзіла стварыць запамінальны малюнак. Не ў меншай, а ў чымсьці і ў большай ступені важна тое, што, да прыкладу, праз параўнанне самога сябе (чытай: кожнага, каго па-сапраўднаму ўразілі гэтыя прыродныя змены) з пупышкай на голлейку вельмі праўдзіва перададзены ўнутраны стан, адчуванне чалавека ў момант прыроднага абнаўлення.

Каб напісаць такі верш, як “***Адспявала лета за ракою…”, канечне ж, неабходны талент. Аднак, разам з тым, відавочна і прысутнасць іншага: умення надзіва пранікліва адчуваць прыроду, чуйна заўважаць змены ў ёй. Г. Пашкоў таму і валодае падобным уменнем, што належыць да тых, для каго прырода сама па сабе цудоўная кніга, якую можна чытаць да бясконцасці. Зразумела, лепей рабіць гэта не седзячы ва ўтульнай гарадской кватэры ці ў цішы не менш утульнага кабінета.

Генадзь Пашкоў належыць да няўрымслівых вандроўнікаў, якія любяць падарожнічаць па рэках. Ягоную повязь з роднай зямлёй, лучнасць яго творчасці з усім зямным дакладна прыкмеціла кандыдат філалагічных навук, дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы А. Астравух. “Генадзь Пашкоў, — упэўнена яна (і гэта сапраўды так), — творца ад зямлі, і зямное прыцяжэнне — бадай, адна з вызначальных катэгорый паэтавага мыслення, паэтавай споведзі. Звабнае спасціжэнне зямнога паўшэпту чуецца яму ля Чашнікаў, дзе нарадзіўся; ля Смаргоні, дзе вырас; чуецца і на Палессі, дзе не адну сотню кіламетраў прайшоў на вёслах па Гарыні і Прыпяці… Вялікая варажба словам напаўняецца шчырасцю і адкрытасцю душэўнага выяўлення, калі паэт вяртаецца да пачатку пачаткаў: да палескага гаркаватага дурману, да салаўінай вёскі Войстам, адкуль паціху пазычае золкавыя словы”. А. Астраух працягвае: “Вандроўная душа лірычнага героя ашчадна захоўвае свае карані на бацькоўскай зямлі, у спёчна-малінавым куце, багатым на найлепшыя казкі і песні…”

Дарэчы, пра тое, наколькі блізкая яму Прыпяць, сведчыць факт: Г. Пашкоў прысвяціў ёй не толькі некалькі вершаў, а і паэму “Легенда Прыпяці”. Дый увогуле, яму вельмі ўдаюцца творы, у якіх адчуваецца сама прысутнасць прыроды, яе дыханне. Гэта і вытлумачальна: пішацца ж пра тое, што не трэба выдумляць. Прамаўляецца тое, што не можа прыдумаць нават самая шчодрая мастакоўская фантазія. Усё падгледжана неабыякавым, пільным вокам у самім жыцці, у прыродзе, а ўжо дзякуючы таленту ўвасоблена ў радках, у якіх такая вялікая прыцягальная сіла, я б сказаў, моцны паэтычны магнетызм, з сілавога поля якога няма аніякага жадання вырывацца. Наадварот, асалода заставацца ў цэнтры гэтага прыцягнення.

> *…Тут спатыкнуўся…*
> *Там пайшоў на дно…*
> *А тут пражыў — аж сэрца заміраe!*
> *Мой лёс — мой чарнавік,*
> *дзе ўсё відно,*
> *дзе ўсё баліць,*
> *шчыміць*
> *і дакарае…*

Можна прывесці нямала прыкладаў, якія сведчаць на карысць таго, наколькі Г. Пашкоў здатны не проста мысліць вобразамі, а, па сутнасці, жыць імі, калі стварае ўражвальны, запамінальны малюнак таго ці іншага стану прыроды. З шэрагу падобных вершаў нельга не вылучыць “Верасень”, у якім навідавоку не толькі вобразная насычанасць, што само па сабе ўжо важна, але і прысутнічае той гукапіс, калі адна з літар сваім гучаннем узмацняе ўспрыманне таго, пра што гаворыцца.

*Варочаюцца **с**кразнякі*
*у кроквах, шашалем пабітых.*
*Над азярынай **с**а**с**някі*
*журбою выраяў **с**павіты.*
*І шыба з-пад брыва **с**трахі*
*ў цяжкім **с**інее задуменні.*
*На дрэвах **с**ветлыя вярхі,*
***с**пакой мурожны ў загуменнях.*
*На **с**онцы **с**труны павуціння*
*над **с**тылаю дрыжацьігліцай,*
*і воблачкам празрыстым*
***с**іні*
*ля **с**ухастоін дым клубіцца.*

У далейшым ужо прысутнічае і гукапіс літарай “б”. Разам з выкарыстаннем “лесвічкі” ён дазваляе стварыць уражанне руху баравікоў:

*Як зоры, гаснуць журавіны,*
*а глянь пад елачкі:*
***б**рыдзе*
***б**аразной*
***б**аравік*
***б**аравінны*
*з **б**аравіняткамі*
*у **б**арадзе.*

Генадзь Пашкоў — майстар свежых, не зацягнутых метафар, параўнанняў, вобразаў, а гэта сведчыць на карысць таго, наколькі ягоная паэзія — індывідуальная ў сваёй сутнасці, як ён, ашчадна ставячыся да слова, дасканала валодае паэтычным майстэрствам. Некалі народны паэт Беларусі Пімен Панчанка адзначыў, што ў Г. Пашкова “звонкі і чысты голас”. Гэтай мастакоўскай якасці ён не растраціў па сённяшні дзень. Прытым, калі ўзяць ягоныя раннія вершы, яны ніколькі не прайграюць у параўнанні з тымі, што напісаны нядаўна, паколькі ягоны талент развіваецца роўна, але адбываецца гэта не на шкоду мастацкасці, бо адразу, пры першых кроках творчая планка Г. Пашковым была ўзята высока. Канечне, прага новых вышынь для яго характэрна, як і для кожнага сапраўднага паэта. Ды пакарэнне тых, якія ўжо ўзяты ім, шмат для каго з паэтаў застаецца недасягальнай марай.

Безумоўна, ягоная творчая палітра ўбірае ў сябе не толькі пейзажную лірыку. Абсягі творчых памкненняў Г. Пашкова — шырокія. Ён роздумна ставіцца да гісторыі і культуры Беларусі, пра што, у прыватнасці, сведчаць змешчаныя ў гэтай кнізе вершы, у якіх ажываюць воблікі знакамітых людзей Бацькаўшчыны, паўстаюць памятныя мясціны. Не абыходзіць паэт і тэмы кахання. Публіцыстычнасць набываюць тыя ягоныя творы, у якіх гучыць заклапочанасць лёсам чалавецтва, Зямлі. Аднак гэта — не тая публіцыстыка, калі вушы рэжа ад лозунгавасці, поклічнасці, дэкларацый. Яна ў Г. Пашкова іншага кшталту: прамаўляе сама душа, выказваецца сэрца, якому няўтульна, няўцешна ў тлумны век і тлумны час. Як у вершы “***Возера, налітае зарою…”

*Возера, налітае зарою,*
*пырскаюць касцянкі ля вады.*
*Светла мне.*
*Світальнаю парою*
*быць і быць, здаецца,*
*маладым.*

*Не пра тое…*
*Не пра тую вечнасць я,*
*славахціўцы, самакаралі.*

*Радасную птушку*
*чалавечнасці,*
*як прыкмету*
*самай вечнай вечнасці,*
*неба маладое,*
*акрылі!..*

Развіваючы думку, закладзеную ў твор, можна сказаць, што гэтая “радасная птушка чалавечнасці” ахоўваецца і самім паэтам. Ён з тых, каму баліць на зямлі за ўсё жывое. Таму і ў паэме “Легенда Прыпяці” лірычны герой апускае ружжо, калі бачыць, як набліжаецца чародка качак. “…Не, не магу, — прызнаецца ён сам сабе і тлумачыць, у чым справа: — не бесхарактарнасць віной, // калі браты твае, // як дзеці, // даверам дзеляцца з табой”.

У вершы “***Не перапішаш лёс на чыставік…” паэт прызнаецца: “Не перапішаш лёс на чыставік, // праверыўшы як след чарнавік”. Пасля знаёмства з кнігай “У далонях свету” ўпэўніваешся, што, калі б адбылося неверагоднае і нечакана з’явілася магчымасць такога перапісвання, у гэтым няма аніякай неабходнасці, бо, калі б падобнае ажыццявіць, перад намі паўстаў бы зусім іншы чалавек. Мажліва, ён нават у чымсьці выглядаў бы і больш выгадна, чым цяпер. Магло б атрымацца і так, што нешта з пройдзенага ці набытага засталося б у цяні, а штосьці, наадварот, высвецілася б, паўстала больш буйным планам. Ды навошта ўсё гэта? Дзеля чаго?

Тыя, хто ўважліва сочыць за творчасцю Г. Пашкова, у гэтым даўно ўпэўніліся, а тыя, хто далучыцца да яе праз кнігу “У далонях сусвету”, зразумеюць, што іншага ягонага лірычнага героя, чым ён ёсць у сапраўднасці, ім і не трэба. Гэты лірычны герой у меру спакойны і разважлівы, роздумны і схільны да філасофіі, адкрыты і засяроджаны. Яму баліць за лёс маленькай памятай травінкі, аднак яго аднолькава хвалюе і лёс чалавека, а калі глядзець шырэй — будучыня ўсяго чалавецтва. Лірычны герой Г. Пашкова паўстае такі, якім ён ёсць у сапраўднасці, а іншым быць не хоча. Дый, калі разважаць, навошта яму такое пераўвасабленне? Хіба адпрэчыш тое, што ў заключнай страфе ужо згаданага верша гучыць так:

*… Тут спатыкнуўся…*
*Там пайшоў на дно…*
*А тут пражыў —*
*аж сэрца заміраe!*
*Мой лёс — мой чарнавік,*
*дзе ўсё відно,*
*дзе ўсё баліць,*
*шчыміць*
*і дакарае…*

Гэтым сказана ўсё. Прынамсі, сказана дастаткова для таго, каб лішні раз прасякнуцца даверам да паэта, паверыць яму, а паверыўшы, з радасцю — зноў жа не ўпершыню — засведчыць: калі ёсць такія паэты ў сучаснай беларускай літаратуры, то няма сумнення, што яна па-ранейшаму развіваецца плённа і мае добрыя перспектывы.

# Летняя настальгія




**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Сёмы нумар “Полымя” распачынаецца “Камянямі” Алеся Бадака, — творам, які, з улікам сучаснай практыкі, больш слушна будзе назваць баладай, чым вершам. “Камяні” падаюцца сапраўдным дасягненнем аўтара: гэта не чарговая туманная гісторыя кахання, а сувымерны твор са стройным сюжэтам і сімвалічнымі вобразамі, прысвечаны актуальнай беларускай тэме адарванасці ад роднай вёскі.

Герой набывае сабе ў якасці дачы вясковы дамок, але плёнам ягонай працы на зямлі робяцца камяні — увасабленне “болю, што віною завецца” і “суму, што шкада праганяць”. Дача, якая “блізка / Не ад сэрца, мой Божа, — ад Мінска!”, не можа замяніць роднай вёскі, але на просьбу пра білет “дадому” герой прадказальна атрымлівае білет у сталіцу і з думкамі пра радзіму трапляе “на канечную станцыю Мінск”. Першыя часткі твора — з “жаночай разведкай”, “вясковай расай” і “жартам”, “які тут паўтараць мне ці варта”, — настройваюць на арыгінальную, сучасную стылістыку, але як толькі герой сутыкаецца з неабходнасцю сфармуляваць сваю праблему, адразу з’яўляецца адвечны ўспамін-слязіна, “родны кут, дзе палын ды асот”, узнёслыя словы пра зямлю і г. д. І так хочацца, каб бясспрэчна істотная праблема беларускага post-вяскоўца была выяўлена па-новаму, праз незацёртыя, адметныя вобразы... Зрэшты, калі разглядаць “Камяні” як твор, што дэманструе магчымасць спалучыць сучаснае з традыцыйным, то баладу можна з поспехам уключыць у школьны падручнік па літаратуры!

Лета — час, калі вясковыя ўспаміны, бадай, найчасцей агортваюць душу, і палымянская паэзія вельмі сугучная гэтай настальгіі. Адзін з самых прыгожых вершаў, што працягваюць гэтую тэму, — “Студня” Валянціна Лукшы:

Прасохлы журавель
рыпіць над студняй,
Адорвае вадою круглы год, —
Цяплом зямлі сагрэтаю у
студзені,
У ліпені халодную як лёд.
Над вёскай ціхай журавель
крыляе,
Як птах, якому вышыні стае, —
У небе ранкам сонца падымае,
Увечары прадонню аддае. <...>

Прываблівае тэматычная разнастайнасць твораў гэтага аўтара: тут і “Дрыбінскія шапавалы”, і “Амудар’я”, і “Лотасы ў дэльце Волгі”.

Валянцін Лукша, у адрозненне ад маладых паэтаў, не баіцца даваць творам канкрэтныя назвы. Калі ў Лукшы няма ніводнага “безназоўнага”, то ў дэбютнай падборцы Настассі Нарэйкі маюць назву толькі два вершы. Між тым, своеасаблівая назва не толькі дапамагае зразумець твор, але і спрыяе з’яўленню дадатковага сэнсу: кожны чытач па-свойму звязвае назву і змест, і чым больш шматгранная гэтая сувязь, чым больш магчымых асацыяцый, тым цікавей. Назва — галоўнае, што магла супрацьпаставіць паэтка гэткаму банальнаму ўспрыманню сваіх у прынцыпе арыгінальных твораў.

Вельмі прыгожым падаецца вобраз ліпы, што стаіць над безданню, да краёў поўнай неба, — верш “Калі думаць...” мог бы быць цудоўнай пярлінкай між твораў нумара, калі б не полісемантычнасць слова “край” і двухсэнсоўнасць сказа “Ёй не страшна...” (з кантэксту не зразумела, маецца на ўвазе ліпа ці бездань). А ўсе гэтыя “завусеніцы” моцна псуюць уражанне ад паэзіі... Разам з тым, аўтарка бясспрэчна мае адметнае светаадчуванне, дзякуючы якому вылучаюцца нават ейныя творы “інтымнай” лірыкі — што ўласціва далёка не кожнаму нашаму паэту. У гэтым галоўнае адрозненне вершаванай падборкі Настассі Нарэйкі ад твораў Валянціна Семянякі. Другое — ужо статыстычнае адрозненне — у колькасці дзеяслоўных рыфмаў. Калі ў Нарэйкі іх дзве на ўсю падборку, то ў вершах “Сустрэчы” і “У Камянцы” Семянякі амаль кожная другая рыфма — дзеяслоўная. Вершы нібыта і праніклівыя, і гучаць ладненька, але ўзровень паэзіі абавязкова вызначаецца яе тэхнічнасцю. Варта спадзявацца, што ён заўсёды будзе расці — як праз самаўдасканаленне сталых паэтаў, так і дзякуючы з’яўленню маладых таленавітых аўтараў.

# Фікус замест кахання?




**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

На вокладцы “Нёмана” — зялёныя дрэвы, кусты руж і далёкія вадаспады. “Сад любові“ Святланы Катковай. У аповесці Таццяны Няфёдавай “Выратаванне Ліліт” — таксама дрэвы (пераважна слівы), дагледжаныя ружы, люстраная прастора вады, бабулін сад. Праўда, на гэты раз — сад без любові, сад, дзе кусты руж — адзінае, пра што застаецца клапаціцца Танеччынай бабулі, якую даўно-даўно кінуў з маленькімі дачушкамі муж. Мама Танечкі таксама вырошчвае кветкі — мініяцюрныя пальмы і фікусы ў вазках, — яе таксама калісьці кінуў бацька Танечкі, і яна даўно ўжо яго не кахае. “Магчыма, гэта спадчыннае, і з часам у Танечкі таксама з’явіцца сваё дрэва ці куст”.

Танечка-маленькая і Таццяна-дарослая, якая невыпадкова схавалася за імем Ліля, — галоўныя гераіні аповесці. Танечка-маленькая — адзінаццацігадовая дзяўчынка, хворая на астму. Кволая, далікатная і ўражлівая, яна не можа жыць вясёлым дзіцячым жыццём і расце ўдумлівай, чулай, крыху замкнёнай і самазасяроджанай — зрэшты, хіба можа быць інакш, калі трэба ўвесь час прыслухоўвацца, ці не пачынаецца прыступ, і вызначаць, ці можаш ты перадолець удушша без інгалятара. Часам Танечка піша пра Лілю — выдумляе ейную гісторыю.

Ліля — дзяўчына, якая ўжо паспела расчаравацца ў каханні і спрабуе разабрацца ў сабе і ў навакольным свеце, дзе “Санта-Клаўс — гэта бог калядных распродажаў”, і тэлевізар пакрываецца лёдам ад “абяцанняў утульнасці і міру ад розных вытворцаў бязглуздых тавараў”. Жыццё халоднае, сэнс у ім вымярзае, Ліля мерзне і хварэе — “яна нават завяла гісторыю сваёй хваробы, куды запісвала сімптомы, развіццё і свае каментары…” У абліччы Танеччынага лекара яна разам з маленькай хворай гасцюе ў бабулі Жэні, п’е каву, піша-піша ў сваім сшытку, часам перакідваецца з дзяўчынкай тонкімі пытаннямі і спрабуе яе падтрымаць. Ліля з’яўляецца побач з Танечкай не ў выпадковы час: менавіта ў бабулі дзяўчынка ўпершыню ўсведамляе, што ейная маці няшчасная і адзінокая, бацькі не кахаюць адно аднаго, а замежныя яблыкі нічым не пахнуць — як у іх упырскваюць цукар, так, напэўна, і яе саму напампавалі паветрам з інгалятараў.

Ці вылечылася Ліліт праз гэтыя назіранні? І наогул, хто каго лечыць: Танечка Лілю, Ліля Танечку альбо іх абедзвюх — разумная, моцная бабуля Жэня, якая сцвярджае, што “слабасць не перамагчы лекамі — толькі сілай. Сілай Духу”… Зрэшты, з-за лёгкай заблытанасці твора нават крыху сумняваешся, што Яўгенія Макараўна і баба Жэня — гэта абсалютна адно і тое ж, а не зноў розныя іпастасі.

Як для дэбюту ў “Нёмане”, аповесць бясспрэчна добрая: па-першае, гераіня праз сваю хваробу адметная ад іншых адзінокіх і расчараваных, па-другое, усё крыху заблытана, але калі перачытаць, то вельмі нават зразумела, па-трэцяе — цікавая сістэма вобразаў, дзе па-свойму звязаныя і бацька-яблыкі-крэйда, і рыбка-кіты-чарапашка. Разам з тым, якія высновы зробіць чытач, які прагартаў “Всемирную литературу” в “Нёмане” і захацеў следам за Полем Валеры ацаніць твор “з пункту гледжання яго непаўторнасці”?

Безумоўна, ёсць у аповесці і астма, і Белфаст, і лыжы, але што новае адкрывае пісьменніца, чым арыгінальная ідэя твора? Кінутыя жанчыны, няўдалыя шлюбы, ружы і фікусы замест кахання… Праблема страчанай сям’і — чаму “тата любіў, але яго любові аказалася мала для міру ў сям’і”, чаму Ліля сцвярджае, што жанчыны ў іхняй сям’і “не ўмеюць любіць”, чаму дзеці задыхаюцца ў прыступах удушша, калі між бацькамі няма ладу — раскрываецца пісьменніцай толькі ў адным — апошнім, але вельмі істотным аспекце. Усё астатняе хаваецца за прыгожымі, але туманнымі апісаннямі аддаленасці і непаразумення, за банальнымі фразамі, што дзіўна чытаць у творы дзяўчыны, якая вывучала ў Белфасце псіхалогію і сацыялогію, а пасля атрымала навуковую ступень у школе пры Берлінскім універсітэце.

У краіне, дзе на 1000 шлюбаў 584 разводы абсалютна нармальна, што пісьменніцы часцяком ствараюць персанажаў з неўладкаваным асабістым жыццём. Гартаем гэты самы “Нёман”: “Прырода Алеся Жука — Наталля “без мужа, Паўлік без бацькі”, “Сон у руку” Анатоля Зэкава — муж Вольгі “паехаў на заробкі і, сышоўшыся з нейкай цацкай, не вярнуўся”. Праблема страчанай сям’і канстатуецца, але не раскрываецца — як на старонках гэтага нумара “Нёмана”, так і наогул у сучаснай беларускай літаратуры. І так хочацца, каб у нас у выніку шматлікіх апавяданняў пра “Наташу без мужа” і аповесцей пра адзіноту з’явіўся добры сямейны раман — сучасны, псіхалагічны, арыгінальны, дзе пісьменік паспрабаваў бы не толькі паказаць, але і прааналізаваць складанасці стасункаў у сённяшняй сям’і.

# Раман або асобныя фрэскі?




**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Раман “Папялішча” 25-гадовай Надзеі Статкевіч быў надрукаваны ў майскім — ліпеньскім нумарах “Маладосці”. Не сумняюся, не аднаго мяне здзівіла смеласць творцы ў выбары жанру, які патрабуе майстэрства і вялікага жыццёвага досведу. Таму амбіцыі і імпэт маладога аўтара, які адразу замахваецца на такую складаную форму, заслугоўваюць павагі.

Здавалася б, для гэтага ёсць пэўныя падставы, бо твор напісаны добрай мовай, а апісанні беларускіх краявідаў здольныя выклікаць захапленне прыгажосцю свайго краю. Цікавымі падаюцца асобныя эпізоды, кшталту лірычнай размовы паміж дзвюма скрыпкамі або з’яўлення прывідаў да аднаго з герояў. Упэўнены, усё вышэйадзначанае нядрэнна глядзелася б у меншых па памеры жанрах, дзе магло згладзіць пэўныя аўтарскія недахопы. Але раман, які з’яўляецца для любога творцы бегам на доўгую дыстанцыю, паказаў, што пры сваім несумненным патэнцыяле Н. Статкевіч яшчэ не ўзнялася да яго вышынь.

Галоўныя заўвагі да “Папялішча” тычацца кампазіцыі твора, выбранага тыпу рамана і характараў герояў. Перш за ўсё паспрабуем акрэсліць сюжэт. У “Папялішчы” прысутнічаюць чатыры асноўныя лініі: сяброў Феліцыяна і Якава, лёс якіх судакранаецца з Нясвіжам і асобай Караля Станіслава Радзівіла; Катажыны Нямцэвіч, якую бацька няўдала аддае замуж за Станіслава Жывіцкага; сялянскай дзяўчыны Улляны, што трапляе на службу ў палац да пана Незабытоўскага; Зулісі, што жыве ў вёсцы, але з’яўляецца вольнай. Якія паміж імі праглядаюцца сувязі? Феліцыян кахае Зулісю, якая адказвае яму ўзаемнасцю, Катажына таксама неабыякавая да Феліцыяна, а Зуліся і Улляна родам з адной вёскі. Але ў творы мы сустрэнем толькі некалькі дыялогаў паміж закаханай парай, пра ўсе астатнія сувязі чытачу проста паведамляецца. Паралельныя сюжэты ніяк не ўплываюць адзін на адзін і не развіваюць дзеянне. Тое самае можна сказаць і пра асобныя адгалінаванні “Папялішча”. Дзеля чаго бацька забірае малога Марціна Нямцэвіча з езуіцкага калегіума? Які сэнс акрамя пералічэння гістарычных падзей бачыцца ва ўвядзенні ў дзеянне шляхціца Адама Пратасевіча? На жаль, аўтар не змагла абгрунтаваць мэтазгоднасць менавіта такой пабудовы твора, таму канструкцыя выглядае штучнай.

Незразумела, які тып рамана імкнулася ўвасобіць Н. Статкевіч. Магчыма, твор пісаўся як гістарычны? Але сярод рэальных асоб паказаны толькі Пане Каханку. Грамадска-палітычныя падзеі ніяк не разглядаюцца, а мільгаюць дзесьці на другім-трэцім плане ў дыялогах герояў. Разабрацца без вышэйшай гістарычнай адукацыі ў іх паслядоўнасці і логіцы проста немагчыма.

Можа, раман з’яўляецца прыгодніцкім? Але тады дзеянне павінна развівацца дастаткова хутка і трымаць увагу чытачоў. У рэальнасці мы бачым размовы з мноствам бытавых падрабязнасцей. Ці варта пашукаць у творы псіхалагічныя моматны? Але, на жаль, індывідуальнасць герояў праглядаецца вельмі слаба. Што датычыцца маладых паноў і паненак, дык адзіным выключэннем з’яўляюцца сяброўкі Катажына і Багдана, якія паказаныя кантрасна. Першая з іх далікатная, чулая, але з цвёрдым характарам прыгажуня. Другая — больш катэгарычная і балбатлівая дзяўчына, якая “нагадвала ляльку: невысокага росту, з караценькімі пухленькімі ручкамі і круглым тварам, абсыпаны рабаціннем носік”. Але астатнія героі да такой ступені падобныя адзін да аднаго, што адрозніць іх немагчыма. Амаль кожная рэпліка пэўнага героя можа быць лёгка перададзена іншай асобе. Бадай, тое ж можна сказаць і пра сялян. Часам складвалася ўражанне, што ў кожнай хаце знаходзіўся слоўнік фразеалагізмаў, прыказак і прымавак, таму мова вяскоўцаў на дзіва падобная.

Прыведзеныя характарыстыкі твору даюць падставу разглядаць “Папялішча” не як раман, а толькі як фрэскі, мініяцюры з жыцця XVIII стагоддзя. Вельмі не хацелася б, каб чытачы ўспрымалі дадзеную рэцэнзію выключна як бязлітасную катэгарычную крытыку. Літаратурныя здольнасці ў Н. Статкевіч сапраўды ёсць. Але раман патрабуе сур’ёзнай перапрацоўкі. Спадзяюся, гэта разумее і сам аўтар.

# Паэзія



Анатоль Зэкаў

## У Бабчыне

*Міколу Мятліцкаму*

*У Бабчын некалі пад вечар —*
*я помню той шчымлівы міг —*
*з радзіннай вёскай на сустрэчу*
*прывёз ты нас, сяброў сваіх.*

*Наварыч, Аляксей Чарота*
*і я з табой — то ж бачыў Бог! —*
*дзялілі даўкую гаркоту*
*тваю*
*тады на чатырох.*

*На небе зіхацелі зоркі,*
*нібы адно й чакалі нас.*
*І адчувалі мы, як горка*
*было табе у гэты час*

*ля затравелых росных сцежак,*
*дзе бегаў у маленстве ты,*
*у роднай вёсцы, што не цешыць*
*маўчаннем скрушным хат пустых.*

*І слова ўжо не акрыляла,*
*і быў азмрочаны настрой,*
*і нам суседзяў не ставала,*
*калі пілі за Бабчын твой.*

*Стаялі мы, і кожны бачыў*
*ля хат адчужана-пустых,*
*як да цябе хінецца Бабчын,*
*як да яго хінешся ты...*

## Толік Сыс

*З акна ты выйшаў на карніз*
*і, стаўшы на яго, смяешся.*
*Усё блазнуеш, Толік Сыс?*
*Ой, не блазнуй,*
*а то сарвешся!*

*Глядзіш на нас ты зверху ўніз*
*і там, высока на карнізе,*
*ты адчуваеш, Толік Сыс,*
*што нам нашмат страшней унізе.*
*Аднак не трэба нас вініць,*
*што зразумець твой жэст не шчасціць:*
*той не баіцца вышыні,*
*хто не баіцца долу ўпасці.*

## Дзед Антон

*На лаўцы з карабатых дошак*
*сядзіць сусед мой дзед Антон*
*і корміць камароў і мошак,*
*якіх аж плойма тут спакон.*

*Глядзіць удалячынь з маркотай*
*і надназолай дзейсніць суд.*
*Балота ёсць, аднак, балота,*
*Хаця балота — родны кут.*

*І не ўцячэш адсюль, не з'едзеш,*
*ды ўжо на старасці — куды.*
*У горад, праўда, клічуць дзеці…*
*Ды што Антону гарады?!*

*Навошта Мінск яму і Гомель,*
*шматлюднасць іх і вечны тлум?*
*У вёсцы ціха і спакойна,*
*і воля — для сялянскіх дум.*

*То пройдзеш па траве мурожнай,*
*то падапрэш на лаўцы плот.*
*А што да камароў і мошак,*
*яны ўсё ж тут не круглы год.*

## Бацькаў сад

*На яблыкі ўрадзіў наш сад,*
*ды бацька гэтаму не рады,*
*бо яблыкаў тых столькі шмат,*
*што ён адзін не дасць ім рады.*

*Раней скарміў бы хоць свінням,*
*ды сіл няма цяпер трымаць іх,*
*а іншых едакоў няма —*
*і так маркотна ўвосень бацьку.*

*Старэе ён, старэе сад,*
*і хіба бацька вінаваты,*
*што не вярнуць гадоў назад,*
*як і дзяцей да роднай хаты.*

## Дождж

*Барабаніць дождж па шкле,*
*быццам хоча дагукацца*
*да маёй душы, але*
*не хачу з дажджом я знацца.*

*Ён стараецца, ды ўсё ж*
*не праб'е ў душу ваконца.*
*Не мая стыхія — дождж.*
*Я люблю, як свеціць сонца.*

* * *

*Асіннік быў сіні,*
*і ў ім кожны вечар*
*збіралі асіны*
*птушынае веча.*

*І гоман птушыны*
*пужаў камарэчу*
*ў асінніку сінім*
*пад небнай сінечай.*

* * *

*Бывае так падчас, прызнацца,*
*калі ў душы — як нейкі верад.*
*І ўжо не хочацца наперад.*
*І ўжо не хочацца вяртацца.*

*Ісці наперад ці вярнуцца?*
*Стаю і зіркаю наўкола.*
*А доля хіліць долу голаў,*
*і з ёй наўрад ці размінуцца...*



Фота Паўла САПОЦЬКІ



Марыя Кобец

* * *

*Згасла зорачка мая,*
*Знікла між сузор'яў.*
*Палыном цяпер мой лёс,*
*Гаркатой-назолай.*

*Прыхаваўся й месяц мой,*
*Больш ужо не свеціць.*
*І раптоўна шлях дамоў*
*Знікнуў у Сусвеце.*

*Ды між безлічы выяў,*
*Сярод будняў чорных*
*У нябёсах зноўку я*
*Бляск шукаю зорны.*

*Побач быльнік ды бур'ян,*
*Палыну гаркота...*
*Дзе ж ты, зорачка мая,*
*Гіну я употай!*

* * *

*На выстылы восеньскі брук*
*Кладуцца два доўгія цені.*
*Спляценні і целаў, і рук,*
*І сэрцаў юнацкіх сляценні.*

*А сівер сцюдзёны наскрозь*
*Пранізвае, бо не шкадуе.*
*Кастрычніцкі ранні мароз*
*Каханне нібыта гартуе.*

*Яны б так ішлі ды ішлі*
*Насустрач усім перашкодам.*
*Дай Бог, каб пачуццяў яны*
*Не страцілі ўсё ж год за годам.*

*І каб паміж думаў і мук,*
*Будзённасці звыклай сляценняў*
*На выстылы восеньскі брук*
*Зноў клаліся доўгія цені.*

* * *

*Пякельным болем адгукнуцца*
*Аскепкі страчаных пачуццяў...*
*Хапіла сіл не азірнуцца,*
*А так хацелася вярнуцца!*

*Пякло ў вачах, і так імкліва*
*Трымцелі слёзы на павеках.*
*Хавала твар свой сарамліва,*
*Апалены знянацку здзекам.*

*Хапіла сіл змаўчаць, а сэрца*
*Крычала, рвалася ў пакутах.*
*К табе зачынены ўсе дзверцы.*
*Твае адказы — як атрута.*

*Пякельным болем адгукнуцца*
*Ўсе словы, сказаныя колісь.*
*Мо лепш было нам размінуцца*
*І не трываць пачуццяў болю?*

* * *

*Горкае асеннае каханне*
*Не спатоліць сэрца даўкай смагай,*
*І над зжоўклай безданю расстання*
*Крылам стомленым не дасць адвагі.*

*Позняе і горкае каханне,*
*Нібы келіх спелага напою.*
*Нібы адгалосак сноў яднання...*
*Летуценні... З болем і журбою.*

*Ды між будняў, у цішы барвовай,*
*Згорклыя адкіну сум і слоту!*
*...Сэрца прагне радасці вясновай,*
*Лебядзінай песні і палёту!*

* * *

*Клубіцца дым у камінах.*
*Імжыць па сцежках завіруха.*
*Насупраць злу і цяжкім скрухам*
*Ляціць душа — падбіты птах.*

*Ляціць і туліцца пад дах,*
*Дзе прыйдзе одум спавядальны.*
*Шукае рады ў час апальны*
*Мая душа — падбіты птах.*

*Не дай сарвацца ў хісткі прах*
*Майму натомленаму целу...*
*Скарыцца ў жорсткім свеце белым,*
*Мая душа — падбіты птах.*

## Валошкі

*Між збажыны і траў,*
*Прытоеныя трошкі,*
*Каб хтосьці не сарваў,*
*Цвітуць, цвітуць валошкі!*

*І ў небе жаўрукі,*
*І вецер гаманлівы,*
*І плынь сярод ракі —*
*Спявае ўсё гулліва.*

*Напоены расой*
*Жытнёвыя абмежкі,*
*Блакітнай паласой —*
*Валошкі каля сцежкі.*

*Як глыбіня азёр,*
*Нібы дзіцячы вочкі,*
*Маёй Радзімы ўзор —*
*Цвітуць, цвітуць валошкі!*



Юлія Новік

**Вершы Юліі Новік своеасаблівыя па форме, вельмі сучасныя. Паэтэса нарадзілася ў 1985 годзе ў Салігорску, скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, факультэт міжкультурных камунікацый. Працуе перакладчыкам. Аўтар кнігі паэзіі "Сонца за тэрыконамі".**

* * *

*Стварэнне твайго агню*
*Прайшло праз мяне.*
*Пустую зямлю праглыну —*
*Што засталося ад нашага сну.*
*З аскепкаў лета зляпіць бы вясну —*
*Хаця б на адно прачытанне*
*Верша, якім яна стане.*
*Мроі-старонкі бягуць шпарчэй —*
*Дзіўная кроў цячэ.*
*Воблака будучых слёз*
*Грэецца на далоні.*
*Агонь сышоў — усур'ёз.*
*А дым ад яго ўеўся ў скроні.*

* * *

*Мне Мінск — гэта*
*Дождж з пахам хлеба,*
*Трамваі, што паўзуць па целе горада,*
*Шэра-ружовае неба з усіх вокнаў.*
*Холадна.*
*Словы на паперы мокнуць…*

## Метро

*Прачытваю платформы*
*хутка крокамі.*
*Штохвілі тут імкне, нясе віхура.*
*Парэнчы падаюцца пенна-мокрымі,*
*Сто пагляда́ў — адбіткамі на скуры.*

*Да жыццядайнай вышыні —*
*Праз цьмяны рух і сонны дым.*
*Мы помнім сонечны абдым.*
*Мы глыбінёй яго жывём.*

* * *

*Мне вочы твае прысніліся —*
*Дажджыстая сіняя Вілія;*
*Агністай усмешкай поўныя;*
*Маркотныя шэра-зялёныя;*
*Раўнівыя чорна-вішнёвыя,*
*Глыбокія Бугам і Нёманам;*
*Паўднёвыя і паўночныя,*
*Але ніколі не змрочныя,*
*Пад сонцам душы захмеленыя —*
*Вочы твае вясельныя.*

* * *

*Не трапіць бы ў адчаю сеткі,*
*Бо там — туман.*
*А вершы — сведкі*
*Барацьбы.*
*Вясну — пражыць.*
*Вясной прымаюцца рашэнні —*
*Штоцені*
*Штодня пужаюць на шашы.*
*Заменім*
*Колераў адценні —*
*Зрэшты, шэры.*
*Спагада выбівае дзверы,*
*Ды мае "гада" ў сабе.*
*Лязом нарэзаныя вершы*
*Ірвуць паперу на душы.*
*Давай мяняцца.*
*Нашы жыцці будуць разам.*
*І незакончаныя сказы*
*Ты толькі мне скажы.*

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара**

# Куфэрак, поўны старадрукаў

**Звычайны школьны клас, але з зацемненымі вокнамі і спецыяльнымі вітрынамі — так выглядае Музей кнігі і друку, што месціцца ў сярэдняй школе № 3 горада Мёры. Яго асноўны фонд — у памяшканні класа, дапаможны — сімвалічны куфар, поўны старых кніг. Гэты музей — плён шматгадовай працы па збіранні даўніны, сярод якой часта трапляюцца і кнігі. Яго стваральнік Вітольд Ермалёнак гасцінна адчыняе дзверы і запрашае на "скарочаную" экскурсію. Скарочаную, бо расповед пра ўсё можа заняць не адну гадзіну.**

## З чаго ўсё пачыналася

Музей гісторыі кнігі і друку распачаў працу ў мёрскай школе ў студзені 2009 года. Але, як сцвярджае Вітольд Ёрмалёнак, ён мог быць створаны яшчэ чвэрць стагоддзя таму.

— Мы ўжо тады мелі дастаткова прадметаў, ды ў школе не было спецыяльнага памяшкання. Стварэнне ж музея ў непрыстасаваным для гэтага пакоі, без зацемненых вокнаў — усё адно што страта экспанатаў, тым больш калі гэта друкаваныя выданні. Але з-за змяншэння колькасці вучняў у школе сталі з'яўляцца вольныя пакоі, яны могуць быць прыстасаваны для музея. Пасля ўзніклі варыянты, які музей стварыць. У нас было дастаткова экспанатаў для музея нумізматыкі, археалогіі, Вялікай Айчыннай вайны. Выбар прыйшоўся на кнігі і гісторыю кнігавыдання. Чаму? Бо ў дзяцей знікла цікавасць да кнігі, а музей, паказваючы новы для вучняў аспект гэтай справы, можа паспрыяць хоць частковаму яе аднаўленню.

## «Крывёю і потам»

Калі бачыш вялікую калекцыю выданняў розных часоў — ад старажытнасці да нашых дзён, сабраную не бібліятэкай ці навуковай установай, а складзеную толькі на "мясцовым матэрыяле", адразу ўзнікаюць пытанні пра паходжанне прадметаў. Вітольд Ермалёнак, краязнаўца і па сумяшчальніцтве бібліяфіл, на такі выпадак мае два адказы: "гарышчы, гарышчы, гарышчы" (калі справа датычыць кніг, выпадкова знойдзеных пад дахамі старых дамоў пры іх разборы ці падчас уборкі) і "я іх зарабіў крывёю і потам. У прамым сэнсе". Заробленыя потам — кнігі, для атрымання якіх Вітольду Антонавічу давялося дапамагчы па гаспадарцы ўладальнікам скарбаў ці іх нашчадкам.

А пра кроў ён распавядае іншую гісторыю: "Я родам з Браслаўскага раёна. І раней кожныя выхадныя ездзіў туды да маці. Зазвычай ехаў аўтобусам з Мёраў праз Друю. У перапынку паміж аўтобусамі хадзіў па Друі, шукаў старое. І вось аднойчы іду я па вуліцы, гляджу — гарыць стос кніг, а побач стаіць стары і варушыць іх палкай. У вогнішчы гарэла больш як сто розных выданняў. Нельга было марудзіць, я адразу ж пачаў выхопліваць тоненькія асобнікі. І, аказалася, недарэмна. Стары напачатку здзівіўся, шырока раскрыў вочы, а потым і сам стаў дапамагаць. Я разгледзеў, што ў кучы гарэлі ў асноўным падручнікі, ды іх не было шкада, бо ўжо тады ў калекцыі назбіралася шмат падобных выданняў. Але сярод выхапленых тоненькіх кніжачак знайшоўся сапраўдны рарытэт — "Новая тэорыя земляробства, заснаваная на ўгнаенні паветра" Аўгуста Адлера, выдадзеная ў Маскве ў 1913 годзе. На выданні ўказаны адрас аўтара: Друя. Такім чынам стала зразумела, што ён за свой кошт выдаваў кнігі па сельскай гаспадарцы. Пазней я даведаўся, што Адлер працаваў у аптэцы, але цікавіўся батанікай, сацыялогіяй, гісторыяй, медыцынай. Перапісваўся з вялікімі людзьмі свайго часу. Ёсць у нас у калекцыі і іншая яго праца "Аповесць пра трох герояў сацыёлагаў і гравітацыёлагаў". Кнігі я тады выратаваў, але рукі добра апёк.



## Рарытэты для бібліяфілаў

Паводле меркавання Вітольда Антонавіча, кожны прадмет у музеі павінен не проста быць разгледжаны ў асобных публікацыях, прадстаўлены ў экспазіцыі, але перш за ўсё працаваць на карысць адукацыйнага працэсу. Таму музей кнігі і друку арганізаваны такім чынам, што тут можна праводзіць урокі як па гісторыі, так і па літаратуры. Ды і рарытэтаў дастаткова, каб не толькі недасведчаных вучняў захапіць, але і сапраўдных прафесіяналаў уразіць. Першы раздзел музея прысвечаны ўзнікненню пісьменства і вынаходніцтву розных матэрыялаў для пісьма. Іерогліфы на шоўку з Кітая, папірус з Егіпта, пергамент, ужо нашы — прасліца XII ст. з не расшыфраванымі пакуль рунамі (знойдзена ля вёскі Пруднікі, што на Мёршчыне), літары іўрыту, што калісьці ўпрыгожвалі галоўную сінагогу ў Гародні, выявы Барысавых камянёў.

Затым прадстаўлены рукапісныя кнігі. Большасць з іх — перапісаныя староверамі ў XVIII —XIX ст. Падчас праследавання іх у Расіі яны ратаваліся ў Рэчы Паспалітай, у тым ліку сяліліся і на тэрыторыі Мёрскага раёна. Самай старой рукапіснай кнігай музея лічыцца "Месяцаслоў" сярэдзіны XVIII ст. Кніга неаднойчы дапаўнялася і дапісвалася рознымі перапісчыкамі, апошні запіс датуецца 1846 годам. Ёсць тут "Цветнік", перапісаны ў XVIII — пачатку XX стст. з арыгінала выдання з Пачаеўскай лаўры, зборнік песнапенняў "Обіход" канца XVIII ст., "Номаканон" з дапаўненнямі XX ст., што цікава, напісанымі часта на вокладках польскіх кніг або ў звычайных вучнёўскіх сшытках, дакументах, нават на старых лістах.

У раздзеле старадрукаў — свае ўнікаты. Гэта рэпрынт "Часоўніка" маскоўскай сінадальнай тыпаграфіі 1640 года, кніга на лацінскай мове "Рымскі імшал 1751 года". Сапраўдны рарытэт — "Каляндар бенедзікцінскі, частка 1-2" на польскай мове — ён змяшчае апісанне жыцця святых і благаславёных манахаў бенедзікцінскага ордэна (самага старога з каталіцкіх) на кожны месяц і кожны дзень.

Калі з выданнямі рэлігійнымі ўсё больш-менш лагічна — святары, як каталіцкія, так і праваслаўныя, ва ўсе часы былі адукаванымі людзьмі, і кнігі складалі частку іх прафесійнага абавязку, былі неабходным складнікам набажэнстваў. Іх наяўнасць у музеі — заканамерная. А вось з кнігамі свецкімі ўсё зусім па-іншаму. Яны сведчаць найперш пра распаўсюджанне асветы на нашых землях, пра інтарэсы продкаў, пра іх узровень валодання замежнымі мовамі. І, гледзячы на ўсе гэтыя выданні, можна сцвярджаць, што продкі нашы былі надзвычай адукаванымі, бо чыталі сачыненні Жан-Жака Русо па-французску (выдадзена ў Швейцарыі, Базель, 1795 г.), "Пачаткі архітэктуры" на польскай мове (Вільня, 1828 г.), астранамічныя даследаванні на нямецкай мове, надрукаваныя гатычным (!) шрыфтам (Кёнігсберг, 1841 г.).

## Згадкі пра бібліятэкі-здані

У асобным раздзеле экспазіцыі прадстаўлены выданні на беларускай мове пачатку XX ст. — "Кароткая гісторыя Беларусі" Власта, "Якім Бяздольны" Пётры Беларуса, выданні твораў Алеся Гаруна, "Першае чытанне для дзетак беларусаў" Якуба Коласа і іншыя. Знойдуцца і кнігі са школьных бібліятэк-зданяў. Чаму зданяў? Ды таму, што і школ тых ужо няма, нават вёскі зніклі, а кніга са штампам бібліятэкі — ёсць. У раздзеле старых падручнікаў — кнігі, што выкарыстоўваліся падчас вучобы ў царкоўна-прыхадскіх школах граматы, народных вучылішчах і няпоўных гімназіях (на тэрыторыі сучаснай Мёршчыны працавалі навучальныя ўстановы толькі такога ўзроўню), выданні Маскоўскага ўніверсітэта, падручнікі для тэхнічных універсітэтаў па фізіцы, хіміі, кнігі для рэальных вучылішч на польскай, французскай, лацінскай мове.

У раздзеле "Савецкія падручнікі" Вітольд Антонавіч спыняецца на рускім "Рабоча-сялянскім буквары для дарослых" 1920 года. Такога выдання няма нават у аддзеле рэдкіх кніг Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Здарылася так, што як толькі "саветы" прывезлі сюды новыя падручнікі, гэтыя землі адышлі палякам, і кнігі за непатрэбнасцю былі закінутыя на гарышча, дзе праляжалі да нядаўняга часу. З усёй звязкі ў добрым стане захавалася толькі два асобнікі. Адзін — у школьным музеі кнігі і друку, другі — у раённым краязнаўчым музеі.

Асобна прадстаўлены раздзел "Мёршчына літаратурная", дзе змешчаны творы знакамітых ураджэнцаў рэгіёна. Спадзяюся, не толькі гэты раздзел, але і ўвесь музей паспрыяе таму, што яго паліца будзе папаўняцца і папаўняцца новымі выданнямі — плёнам працы маладых творцаў.

***На здымку: Вітольд Ермалёнак дэманструе "рэзервовы" фонд Музея кнігі і друку.***

*З нагоды*

**Юзэфа ВОЎК**

# Месца сустрэчы — выстаўка

**У сталіцы Кітая завяршыла работу XVIII Пекінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Гэты форум з'яўляецца адным з самых уплывовых у свеце кніжных кірмашоў. Сёлета ў ім узяло ўдзел больш як 2 тысячы выдавецкіх установаў з 60 краін і рэгіёнаў свету, якія прадставілі каля 200 тысяч выданняў. Асаблівая ўвага ўдзельнікаў форуму была звернута на праграму па выдавецкім, пісьменніцкім і культурным абмене вопытам ад краіны-ганаровага госця, якой у гэтым годзе стала Галандыя. У цэлым жа ў межах кірмашу праведзена каля тысячы імпрэз.**

Начальнік Галоўнага Упраўлення па справах друку і выдавецтва КНР Лю Біньцзэ на цырымоніі адкрыцця форуму адзначыў, што цягам мінулага года выдавецкая справа ў Кітаі атрымала новае развіццё і дасягнула бліскучых поспехаў. Так, выпушчана 320 тысяч найменняў кніг агульным тыражом 3,2 мільярда асобнікаў. Кніжная індустрыя стала эпіцэнтрам папулярызацыі культуры, галоўным рухавіком яе развіцця.

У гэтым годзе форум у Пекіне меў некалькі адметнасцей. Акрамя пашырэння і ўдасканалення зоны традыцыйнага кнігавыдання на кірмашы былі спецыяльна арганізаваны зона электроннага кнігавыдання і зона камплектавання бібліятэк. Дарэчы, арганізатары вырашылі працягнуць працу па правядзенні шоу дзіцячай кнігі, абсталяваць зону мультфільмаў і анімацыі, перыядычных выданняў, зону "print-on-demand" (друку кнігі па замове) і цэнтр аўтарскага права.

У Кітаі выдаўцы ўсведамляюць, што лічбавая хваля зменіць традыцыйны працэс кнігавыдання ў сусветнай індустрыі. Некаторыя эксперты сцвярджаюць: рэвалюцыйная эра для выдавецкіх тэхналогій ужо пачалася. Таму адным з ключавых момантаў для абмеркавання стала тэма "Кірунак міжнароднага кнігавыдання ў лічбавую эпоху".

Афармленне — адзін з асноўных складнікаў добрай кнігі. Кніжны дызайн у Кітаі мае доўгую і яркую гісторыю. Для паказу ўсяго багацця форм і метадаў афармлення кнігі была спецыяльна створана зона сучаснага кітайскага кніжнага дызайну, дзе размясціліся лепшыя па аздабленні кнігі, уключаючы выданні міжнароднага класа, пераможцаў конкурсаў дызайну, работы знакамітых дызайнераў і ілюстратараў. Гэтая зона створана спецыяльна з мэтай развіцця супрацоўніцтва паміж мастакамі і выдаўцамі.

*У падтрымку чытання*

## Паліна Сыркіна, актрыса кіно:

# Вельмі люблю п'есы



**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Віктара Зайкоўскага**

— У дзяцінстве мяне займаў Рэй Брэдберы. Калі падрасла, захапілася класікай. З вялікім задавальненнем зачытвалася апавяданнямі Чэхава. Пазней стала разумець Дастаеўскага. Яшчэ да інстытута перачытала вялікую колькасць драматургіі — рускай і замежнай. Дасюль вельмі люблю п'есы. Сёння чытаю мала: час на чытанне запаўняюць сцэнарыі. А іх прыходзіцца чытаць зашмат. Калі засумую па "пище духовной", магу на ноч пачытаць паэзію, да якой заўсёды ставілася з трапятаннем: Пушкін, Цвятаева, Ахматава, Галіч…

Мастак і кніга

# Валянцін Губараў:
# «Не прэтэндую на тое, каб усім падабацца»



**Кніга пра Валянціна Аляксеевіча рыхтуецца ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". На пытанне, як ставіцца да гэтага "партрэта", адказвае: "Калі шчыра, мастаку важна, каб яго карціны надрукавалі. А як напішуць, гэта ўжо не зусім істотна. Мастацтвазнаўца Наталля Шаранговіч убачыць мяне так, Таццяна Цюрына напіша па-іншаму, Ларыса Бортнік яшчэ інакш. Усё роўна гэта буду я. Галоўнае, каб ілюстрацыі выглядалі дастойна. Шкада, што кніга не паспее да выстаўкі, якая рыхтуецца ў Францыі, і той, што адбудзецца ў галерэі "ЛаСандр-арт" 16 верасня".**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Сёння ён малюе карціны, жанр якіх мастацтвазнаўцы называюць сінтэтычным, а створаны мастаком свет "загадкава-спакуслівым і напаўрэальным, поўным гумару, настальгіі, хітраватай прастадушнасці і пяшчотнага смутку".

Мастак кажа: "Калі гляджу кіно, то не ўсё запар, выбіраю пэўны жанр — андэграўнд, напрыклад. Не прэтэндую, што працую для абранай публікі, але шырпатрэбам, які ўсім падабаецца, як які-небудзь прас, не хацелася б быць у сваёй творчасці".

Яго лёс шмат гадоў звязаны з беларускай кніжнай графікай. Як мастак і мастацкі рэдактар мае 35 дыпломаў конкурсу "Мастацтва кнігі" (у тым ліку ўсесаюзных): за альбомы "Пад шчаслівай зоркай" (Мінск: "Беларусь", 1982, з прадмовай І. Шамякіна); "Пакланіся прыродзе" (Мінск: "Беларусь", 1984); "Мінск: учора і сёння" (Мінск: "Беларусь", 1989) і інш.

## "Коней я дасюль малюю па памяці"

"Я кнігачэй з самага дзяцінства. Да школы ўжо мог чытаць. Кніга прайшла праз усё маё дзяцінства і юнацтва. Куды б ні трапіў, перш за ўсё запісваўся ў бібліятэку. Дома ўсе клаліся спаць, а я кідаў нешта на падлогу ў калідоры аднапакаёўкі, дзе святло не перашкаджала б спаць астатнім, і чытаў: казкі, кнігі пра смелых і ўмелых, усе творы Фенімора Купера, Майн Рыда. Нават пазней "на бульбе", калі разгадвалі красворды, адзіны ведаў, што рака ў паўночнай Амерыцы — Паматак. ("Валька, ты нездарма чытаў Фенімора Купера!")".

Калі бацькі прывялі яго ў ізастудыю Дома піянераў, у хлопчыка было салідное "партфоліа" — копіі ілюстрацый старажытнай кнігі пра вайну з Напалеонам. Дзядуля быў урач царскай арміі, ад яго засталося ў спадчыну шмат кніг. У тым ліку — пра вайну 1812 года з масай шыкоўных гравюр.

"Коней я дасюль малюю па памяці — у той вайне героі былі коннымі. Так з сямі гадоў і працягваю. У садку малявалі дыванкі: буйная кветка — у цэнтры, дробныя — сіметрычна па баках; а дома — з кніжкі. Гэты занятак не толькі фарміраваў мяне як мастака, ілюстрацыі дапамагалі вывучаць гісторыю. З дзяцінства запомніў імёны мастакоў, якія падабаліся — Шмарынаў, Вярэйскі, Гараеў. (Нават у часопісе "Крокодил" адрозніваў почырк мастакоў).



Пазней чытаў класіку — Талстога, Купрына, Буніна, спатыкнуўся на Дастаеўскім. Лісты Чэхава мяне супакоілі. У адным з іх Антон Паўлавіч піша, што ён Дастаеўскага таксама адклаў. Канечне, Набокаў і Дастаеўскі — зусім розныя мовы. Адна — нібыта павольна плывеш на лодцы, а другая — пешшу па шпалах трэба прайсці.

Пасля Дома піянераў была ізастудыя Палаца культуры. Тата лічыў, што трэба мець і сур'ёзную прафесію — рабочую. Таму прывёў мяне ў райана і папрасіў параіць, куды ўладкаваць. Там мяне спыталі, да чаго я больш схільны — працаваць з металам, дрэвам ці хачу быць аконным майстрам… А я больш люблю маляваць. Параілі мастацкае вучылішча. Суцешылі бацьку: не атрымаецца — дамо накіраванне ў будаўнічы тэхнікум.

Дакладна ведаю, з любой галіны дзейнасці я б вярнуўся да малюнка. Паступіў у Горкаўскае мастацкае вучылішча. На грошы, што давалі на прысмакі, купляў наборы паштовак — рэпрадукцыі карцін вядомых мастакоў. Куінджы, Грабар, Паленаў… Мастак існуе асобна, ён свабодны. (Мне гэта вельмі падабалася, бо ўвогуле не люблю залежаць. Апрача любві — залежнасці, якой можна не супраціўляцца).

У кіно і ў кніжнай справе такой свабоды няма: мастака можна не заўважыць у тытрах і выходных даных. Так што ВПК адпаў адразу. Але залежнасці ўсё ж паддаўся — за кампаніяй паехаў у Маскоўскі паліграфічны, хаця быў упэўнены, што гэта тэхнічная ВНУ. Самае смешнае, што з усёй кампаніі паступіў толькі я.

Дзякуючы выкладчыкам — асабліва Беніяміну Басаву, які мяне адразу вылучыў (і шмат мне дазваляў, нават іншым выкладчыкам не даваў заўваг рабіць), праз месяцы чатыры я ў гэта ўвайшоў, зразумеў, палюбіў. Быў нібыта губка — успрымальны. Але цікавіла толькі мастацтва малюнка. Тэхналагічны бок не хваляваў. Але калі ў інтэрнаце ўсе клаліся спаць, маляваў да ранку. Не было праходных работ, абы здаць. На прагляд маіх малюнкаў хадзілі ўсе — і старшакурснікі, і выкладчыкі. Мне хацелася маляваць. Задавалі адну, я рабіў дваццаць пяць.

Ужо на першым курсе супрацоўнічаў з часопісам "Юность". І ў тых ілюстрацыях мой сённяшні почырк ужо можна пазнаць.

Ездзіў у будатрады. Тарцовая сцяна трохпавярховага дома — мазаікі. Яны зроблены па маіх эскізах. Смальты было столькі, што аздаблялі нават транспартныя прыпынкі. Уяўляеце, будуць некалі раскопкі Падмаскоўя, а там нават прыпынкі абкладзены крымскай смальтай! Як у Пампеі. Толькі што тэрм не знойдуць.

Адзінае, пра што шкадую, — больш дбайнасці падчас вучобы. Парады выкладчыкаў, натура, аўдыторыі, бібліятэка — гэтага шкада. Вучыўся з асалодай.

Прапаноўвалі работу ў АПН, ТАСС. Але я марыў пра адно — маляваць. Таму выбраў кніжныя выдавецтвы. Жонка родам з Мінска. Так апынуўся ў Беларусі".

## Наканаванне

"Жылі ў Аляхновічах, ездзіў у выдавецтва на электрычцы. Будавалі кааператыўную кватэру. Не адмаўляўся ад любых заказаў: ілюстраваў і "Чыпаліна", і фантастыку. Сёння — казкі, заўтра — вершы Леаніда Дранько-Майсюка, паслязаўтра — навукова-папулярнае выданне. Працаваў у выдавецтвах "Беларусь", "Мастацкая літаратура", потым у прыватным выдавецтве. А марыў пра карціны. Ды на гэта час толькі вечарамі, калі ты стаміўся і ўжо неахвота. Ці ў выхадныя, якія таксама запоўнены рознымі іншымі справамі…

І аднойчы зразумеў — усё. Сёння вольны мастак. Але кніга далёка не адпускае — я нязменны член журы конкурсу "Мастацтва кнігі".

***Візітка:***
***Валянцін Губараў нарадзіўся ў 1948 годзе ў г. Горкім (сённяшнім Ніжнім Ноўгарадзе). Скончыў Маскоўскі паліграфічны інстытут. Член Беларускага саюза мастакоў з 1972 года. З 1991 года ўдзельнічае ў выстаўках. Яго творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, музеі "Zimmerly Art Museum" (ЗША), галерэях і прыватных зборах Расіі, ЗША, Вялікабрытаніі, Японіі, Іспаніі, Ізраіля, Германіі, Францыі, Аўстрыі, Бельгіі, Польшчы і Турцыі.***

На пытанне, ці зможа адрадзіцца "залаты век" беларускай кніжнай графікі, Валянцін Губараў адказвае: "На яе росквіт у 1970-я гады ўплывалі суб'ектыўныя і аб'ектыўныя фактары. Сярод іх тое, што быў рэзкі прыток кадраў з Маскоўскага і Львоўскага інстытутаў — М. Казлоў, Т. Мельянец, Н. Сустава, А. Ружо, А. Цароў. Чаму там не было выпадковых людзей? Каб былі неразумныя — яны не паступілі б. Ці іх выгналі з другога-трэцяга курса, што бывала, калі не цягнуць. Не запрасілі б на працу, не далі добрыя рэкамендацыі. Гэта ж былі рэкамендацыі выкладчыкаў! ("Ён вам не толькі падцягне, ён іншы ўзровень створыць".) Цяпер чалавек можа перакваліфікавацца ў мастака з тэхнічнага рэдактара ці сумяшчае гэтыя пасады. Лічыцца: а што, у гэтым трэба нешта разумець? Прыватныя выдавецтвы — там кіраўніцтва без мастацкай адукацыі ведае, як і што павінен мастак рабіць. Пры такіх адносінах…

Грошы шмат уплываюць. Не хапае на добрую паперу — а як ты абыдзеш такі жорсткі параметр? І навошта плаціць гэтаму дызайнеру кнігі, калі іншы — таксама дызайнер — бярэ ўдвая менш?

Мода была на кнігу. Людзі хацелі трымаць на палічках выданні, як трымалі некалі крышталь.

Адраджэнне ў кніжнай графіцы павінна быць не лакальным, не рэгіянальным — паўсюдным: адчувацца на ўсёй прадукцыі, пачынаючы ад вучнёўскіх сшыткаў. Гэта мы назіраем сёння ў суседняй Прыбалтыцы. Спадзяюся, добры прыклад заразлівы. І хутка беларускае кнігавыданне чакае новы віток і росквіт".

**Ілюстрацыі да кнігі "Афганскія прыказкі і прымаўкі".**

Пад вокладкай

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**



**Лучнасць: Пераклады Міколы Мятліцкага: з паэзіі народаў свету / уклад. і пер. на беларус. мову Міколы Мятліцкага. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 240 с.**

Пераклад паэзіі хтосьці даўно і вельмі трапна параўнаў з "пацалункам праз шкло". І цалкам зразумела, чаму. Адна памылка — і губляецца арыгінальнае гучанне, ідэя, вобразнасць, нацыянальны каларыт, адметнасці аўтарскай мовы. Асоба перакладчыка "заглушае" асобу аўтара… Але ж, з іншага боку, як тады спазнаць творчасць паэтаў з розных краін свету, хаця б праз шкло — нібы ў музеі. Гэта нам і дапамагае зрабіць Мікола Мятліцкі. У новым зборніку прадстаўлены пераклады вершаў паэтаў з розных эпох і розных краін — блізкіх і далёкіх: Расіі, Украіны, Індыі, Іспаніі, Кітая, Канады і іншых.



**Мароз, К. Тайна Несвижского замка: Воспоминания шляхтича Кшиштофа Яминского, близкого друга и боевого товарища князя Доминика, последнего прямого потомка великого рода Радзивиллов / Канстанцін Мароз. — Минск, Народная асвета, 2011. — 159 с.**

Аўтар, умела распачынаючы інтрыгу, паведамляе чытачу, як трапіў да яго старажытны рукапіс чалавека, які прымаў удзел у вайне 1812 года. Ад яго імя і пойдзе размова пра дзяцінства і юнацтва Дамініка Радзівіла, падзеі канца XVIII — першай трэці XIX стагоддзя на тэрыторыі, якая далучылася да Расійскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай, загадкавае знікненне скарбніцы Нясвіжскага замка.



**Завальнюк, В. Не единым хлебом / Владислав Завальнюк. — Минск: Римско-Католический приход св. Симона и св. Елены, 2011. — 524 с.**

У чым прычына хвароб? Як не захварэць ні на прастуду, ні на грып? Якія прадукты карысна ўжываць у ежу? Здавалася б, гэтыя пытанні ніяк не суадносяцца з асобай і дзейнасцю вядомага ў краіне ксяндза-магістра, які працуе ў Чырвоным касцёле. Але ж айцец Уладзіслаў са свайго ўласнага вопыту дае парады, як правільна харчавацца, праводзіць аздараўленчы пост (галаданне), каб не хварэць, ачышчаць і арганізм, і духоўны складнік асобы. Гэта трэцяе выданне кнігі святара, што пацвярджае яе актуальнасць у наш час.



**Гришковец, Е. Сатисфакция / Евгений Гришковец. — Москва: Махаон, Азбука-Аттикус, 2011. — 400 с.**

Новы падарунак для аматараў творчасці Грышкаўца — кніга, у якую ўвайшлі творы "не для выдання". Тут суседнічаюць розныя жанры: сцэнарый кінафільма "Сатысфакцыя" (дарэчы, фільм ужо выйшаў), маналог са спектакля "+1", новая рэдакцыя маналога "Адначасова", нарэшце запісаны рарытэт — п'еса "Асада" і зусім новы твор "Дом". А яшчэ — шмат лірыкі. Гэта тэксты песень, запісаных сумесна з гуртом "Бігудзі". Лірыка Грышкаўца (у прынцыпе, як і ўся яго творчасць) — на аматара, але яркія, нечаканыя вобразы ў ёй знайсці можна. Не ведаю, як вы, а я гэта ў паэзіі цаню найбольш.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# Двое ў перадпавагоднім тумане

## Урывак з аповесці "Ева, вярні рабро!"

**"Адчуваючы, мы знікаем, выдыхаем самі сябе..." Так можна (і трэба!) сцвярджаць у залатую пару кахання, калі неабазнанае сэрца яшчэ без пісягоў і шнараў, а вочы ўпадабанай прыгажуні яснейшыя за летнія зоры... Усе мы некалі праходзім па гэтай сцяжыне спазнання, адкрываем даўно адкрытае іншымі і выдыхаем самі сябе. Сёння чытачам "ЛіМа" прапануем урывак з аповесці Валерыя Ліпневіча "Ева, вярні рабро!". У творы аўтар змог сакавіта, рэльефна і напоўнена перадаць раздарожанасць маладой душы ў светлую пару закаханасці. Варта, відаць, перафразаваць выказванне, няхай яно гучыць так: адчуваючы, мы ўзлятаем, спазнаём самі сябе. Чытаючы аповесці В. Ліпневіча, сапраўды, шмат у чым пазнаеш сябе і спазнаеш наноў свае адчуванні, перакананні і... перамогі. Поўнасцю аповесць "Ева, вярні рабро!" чытайце ў № 9 часопіса "Маладосць".**

**Анатоль Казлоў**




*Валерый ЛІПНЕВІЧ нарадзіўся ў 1947 годзе ў Мінску. Скончыў філфак БДУ (1973). Працаваў літсупрацоўнікам газет "Чырвоная змена", "Сельская газета" і інш. Друкуецца з 1970 года. Аўтар кніг паэзіі "Дрэва і рака", "Цішыня" ды інш. Член Саюза пісьменнікаў Масквы. Лаўрэат прэміі часопіса "Нёман".*

Віктар чакае яе ўжо звонку, на прыступках бібліятэкі. Ён узбуджаны, як перад выхадам на памост, да рэкордный вагі. Ці перад іспытам па дыямаце. Вось яна з'яўляецца за шклянымі дзвярыма. З цяжкасцю штурхае іх. Прачыніўшы, азіраецца, быццам нехта мусіць быць за ёю. Апошнія секунды чакання. Віктар з цяжкасцю стрымлівае хваляванне. Вось яна ўжо праходзіць паўз яго, ледзь нахіліўшы галаву.

— Прабачце, — Віктар робіць крок да яе, — але мы калісьці былі знаёмыя.

— Так, — проста сказала яна.

— І тады вас клікалі Галінай.

— І цяпер таксама, нічога не змянілася.

— Што вы! Я нават не пазнаў вас адразу.

— Я заўважыла, вы так глядзелі...

— Цяпер вы падаеце сябе ў іншай манеры, у іншым колеры.

— Старая стала, трэці дзясятак пайшоў.

— Жанчыны сядзяць ці ходзяць туды і сюды, маладыя і старыя; маладыя прыгожыя, але старыя куды прыгажэйшыя.

— Не, я пакуль не "куды".

— І ў вопратцы пераважае зялёнае — колер жыцця, сталасці, мудрасці, калі заўгодна. Вы сталі нейк — ну, я толькі фантазірую на вашу тэму — сталі больш мяккай, уважлівай і, зноў жа, мудрай. Што, канечне, у жанчын найперш заўважна па вопратцы.

— Аднак...

— Чаму — "аднак"?

— Так, наогул, — яна з цікаўнасцю паглядзела на яго. Яе спачатку зачапіла ягонае "падаеце" — не рыба ж яна заліўная, — але стрымалася і цяпер парадавалася з гэтага.

— А што — вы не пагодзіцеся, — працягваў Віктар з энтузіязмам, — калі жанчына мае магчымасць апранацца так, як яна хоча, па стылі яе вопраткі ЭВМ вылічыць філасофію яе жыцця?

— Адразу і філасофію...

— А навошта марудзіць?

— Падазраю, вы абыдзецеся і без ЭВМ, — усміхнулася яна і падумала, што трэба патэлефанаваць — яны якраз міналі таксафон — і сказаць, што не прыйдзе.

— Калі вы будзеце дастаткова паблажлівы, я б паспрабаваў.

— Рызыкніце! — прамовіла яна і падбадзёрыла яго позіркам.

— Што ж? Збаяліся?

— Не-не. Паўза па тэхнічных прычынах.

— А вы што — робат?

— А як вы здагадаліся? Так, апошняя мадэль, на выпрабаванні. Калі перагару — нешта сёння ўсё нейкае напружанне, — адрас завода-вытворцы весь тут, — ён прыклаў руку да сэрца. — Там два вінцікі, калупнеце — і гатова. Ну і напішаце, як усё было.

— Зразумела. Хоць раней я, па шчырасці, нейк з робатамі не сутыкалася.

— Ды няўжо! Азірніцеся навокал. Яны проста не прызнаюцца. Проста партыя без блока самасвядомасці.

— Нейкі вы занадта строгі. Дык што там пра філасофію?

— Пачнём. Практычнасць, спартыўнасць вашага стылю адзення сведчыць пра рацыянальнасць, мэтанакіраванасць, — пачаў Віктар тонам спартыўнага каментатара. — А калі ўзгадаць вашу хаду, можна сказаць, што вы дзяўчына валявая і энергічная. І ваша мара, верагодна, зрабіць кар'еру — ну, калі вам не падабаецца гэта слова, — папярэдзіў ён яе рэпліку, — дасягнуць поспеху ў галіне мужчынскай дзейнасці. Гэта значыць разумова.

— А раптам я мару разгружаць вагоны?

— "Сквозь эти женские лопаты, как сквозь шпицрутены, иду!" Гэта, як сцвярджае паэт, сфера ўжо чыста жаночай дзейнасці. Спазніліся. Тое, што вы носіце футра, а не паліто, якое хутка выходзіць з моды, таксама сведчыць пра ваш рацыяналізм і практычнасць.

— Аналіз комплексаў таксама будзе? — спытала яна з лёгкай іроніяй.

— Не ўсё адразу. Я назіраў, як вы апраналіся перад люстэркам, як старанна павязвалі хусцінку, усё любаваліся яе колерам, яна так нечакана перагукаецца з вашай блакітнай шапачкай — самі вязалі?

— Сама.

— Дык вось, ваша хусцінка... Яна шапнула мне, што вы любіце... Нават страшна вымавіць...

— Вы не выглядаеце на надта палахлівага чалавека...

— У мяне зманлівая знешнасць. Ведаеце, якія бываюць людзі?

— Не ўхіляйцеся. Што вам шапнула мая хусцінка?

— Асцярожна! — ён прытрымаў яе за локаць. — Хай гэтая машына праедзе. Плаціць са стыпендыі за рамонт чыёйсьці "Волгі"...

— Канечне, калі яна з вамі сутыкнецца, дык пацерпіць. А я ўсё ж такі жывая істота. Не забывайцеся.

— Магчыма, — ён нахіліўся да яе і ўважліва паглядзеў у вочы.

— Не блазнуйце.

— І не толькі хусцінка, але і сумачка таксама. Яны кажуць...

— Мая сумка! Яна ў змове са здрадніцай хусцінкай! Скажыце хутчэй, што мне выкінуць?

— Так, — працягваў Віктар, — галоўны змоўшчык — гэта вы. І хаваеце разам з пералічанымі страшную таямніцу. Якую... Вы насілі завушніцы?

— Так. І цяпер нашу.

— Якую хусцінка, сумка і вось гэтая дзірачка ў вуху ўзялі дый выдалі.

— Вы мяне амаль зацікавілі.

— "Амаль!" Вось так, значыцца! — Віктар спыніўся на скрыжаванні. — Тады я скажу вам...

— Скажаце, калі вас не адправяць на пераплаўку. Асцярожна! — яна хіснулася да яго. — Машына!

— Галіна! Вы ўратавалі маё жыццё! — урачыста прамовіў Віктар. — І за гэта я адкрыю вам страшную таямніцу.

— Вы ўжо спекулюеце на сваёй таямніцы, — Галіна вызваліла сваю руку ў рукавічцы, якой паспеў завалодаць Віктар, і абышла яго.

— Я мяркую, ёсць на чым спекуляваць, — сказаў Віктар, ідучы з ёю нага ў нагу.

— Кіньце хуліганіць, — яна спынілася і павярнулася да яго.

— Ой! — ён зрабіў выгляд, што ледзь не ўпаў, і захістаўся на месцы.

Яна моўчкі глядзела на яго. Ён адчуў, што крыху перабраў.

— Дарэчы, гэта ваша таямніца, а не мая.

— Кіньце мяне мучыць, — сур'ёзна папрасіла яна, — а то я раптам памру, так і не дачакаўшыся гэтай таямніцы. А можа, яна б уратавала мне жыццё? Што мы стаім, хадземце.

— Так... Вы любіце... Ну, дапамажыце ж мне!

— Каго?

— Не каго, а што. Вы любіце папесціць...

— Каго? — усміхнулася яна.

— Сябе! — выдаў ён пракурорскім голасам.

— Чым? — спытала яна насцярожана.

— Пачуццямі, — сказаў ён сур'ёзна і дадаў з падкрэсленай прастадушнасцю: — Як марожаным у спякотны дзень.

— А вы — цынік, — выдыхнула яна нечакана холадна, гледзячы проста перад сабой.

— Мне трэба патэлефанаваць. Вы мяне забалбаталі.

— Меднік я... — дурасліва панурыў вочы Віктар.

— Зноў інтрыгуеце.

— Мяняю золата на медзь...

— Не разумею.

— Гэта вельмі проста: запасы дзяцінства і юнацтва — вось наша золата. А жыць — гэта ўмець золата на медзь размяняць. Каб не давялося з голаду паміраць.

— Ці збяднець... Вы пачалі ўжо казаць у рыфму... Рэшта знойдзецца не ў кожнага...

Гэтая думка падалася ёй цікавай і вельмі блізкай.

— Разумееце, — загарэўся Віктар, — гэта ўсё ўсведамляецца, усё гэта так: жыццё — разменны пункт нашых залатых запасаў. Але не хочацца, разумееце, не хочацца адчуваць уцечку, хочацца, наадварот, рабіцца багацейшым, пераліваць усю гэтую будзённасць, гэтую медзь, ці што...

— Ах, вы, алхімік! — ласкава зірнула на яго Галіна. — Не перажывайце. Вось перастануць вас мама з татам карміць, навучыцеся. А насамрэч вы, па-мойму, філолаг?

— Філолух, — Віктар дурасліва панурыў вочы.

— Па знешнасці не скажаш, — яна спынілася, паглядзела направа, налева.

— Куды вам? — спытаў ён.

— А вам куды?

— Мне з вамі, — прамовіў ён сур'ёзна і зазірнуў ёй у вочы.

Яна адвяла позірк і прамаўчала.

— Як вам Новы год без снегу? — зрабіў ён неабходны заход.

— Нават падабаецца. Крыху незвыкла. Усё ў такім тумане, такое няяснае, незвыклае. Звычайна я сустракаю Новы год у лесе. Сёлета не атрымаецца. Шкада...

— Гэта стала модна — сустракаць Новы год у лесе.

— Я сустракаю яго так з дзяцінства... Вы да мяне несур'ёзна ставіцеся, — нечакана заявіла Галіна.

— Няма нічога больш сур'ёзнага за несур'ёзнасць...

Бадай, ён гаварыў замнога. Радасць, што перапаўняла яго, прысьпешвала і скарачала фразы. Некалькі разоў яны не зразумелі адно аднаго. Выявілася, што ўжо хвілін пяць яны казалі пра рознае і — што самае дзіўнае — іх меркаванні супадалі. Магчыма, каб ніколі не спрачацца, трэба заўсёды гаварыць пра розныя рэчы, тады ў суразмоўцаў не будзе агульнай падставы для спрэчкі. Непаразуменне пайшло ім толькі на карысць. Яны спачатку рассмяяліся, а пасля паразмаўлялі пра складанасці зносін, пра тое, што самае цяжкае — у яе гэта прагучала з адценнем асабістага, — калі цябе не разумеюць. Пакуль чакалі тралейбус, ён прапанаваў пайсці пешшу.

— Хадзем, — пагадзілася яна проста. — Стамілася сёння... Наогул стамілася, — яна вымавіла гэта такім тонам, быццам ужо гадоў дзесяць яны муж і жонка. Гэта яму не спадабалася. Хацелася пакуль што заставацца ў рамках лёгкай размовы, не абцяжаранай узаемнымі абавязкамі. Віктар не быў гатовы да пераходу ў іншую танальнасць. Дый у яе гэтая інтанацыя вырвалася выпадкова і павісла ў паветры.

— Аказваецца, апроч алкашоў ёсць яшчэ і алкошы. Праўда, цяжка здагадацца, што тут купляюць звычайнае малако? — Віктар кіўнуў на літары, што засталіся на шыльдзе крамы: АЛ КО. — Малака вам не трэба?

— Дзіўна, вы так спыталі, быццам у мяне малое дзіця...

— Гэта вы так пачулі.

Ён падумаў, што ў яе сапраўды можа быць дзіця. Але гэтая думка яго не збянтэжыла. Ён не мог уявіць яе, сённяшнюю, з дзіцем. Для гэтага ёй нечага не ставала. Мабыць, дзіцяці. Віктар супакоіўся, недзе ў глыбіні ўпэўнены, што нешта прыходзіць да нас толькі тады, калі мы ў стане яго прыняць. Хоць, праўдзівей, мы вымушаны прымаць тое, што гатова прыйсці да нас.

— А ў гэтым доме, — кіўнула Галіна, — жыве сястра Марата Казея. Вельмі цікавая жанчына. Калі ў мяне будзе сын, я назаву яго Маратам.

— Кожнаму чалавеку трэба даваць ягонае ўласнае імя.

— Я ўсё адно назаву Маратам, — упарта паўтарыла яна і нечакана дадала: — Калі будзе...

І зноў яго зачапіла яе інтымная, нейкая празмерна даверальная інтанацыя. Было ў ёй штосьці, што магло сапсаваць сённяшняе свята, і ён інстынктыўна не заўважаў гэтых інтанацый, прапускаючы іх, замоўчваючы.

Некаторы час яны ішлі моўчкі. Маўчанне не прыгнятала. Яно было натуральнае ў доўгай размове — як прывалы ў гарах, калі, адпачыўшы, робіш яшчэ кідок — далей і ўверх. Маўчанне было як нерашучасць на ростанях, калі адна дарога вядзе ўглыб краіны, да яе сталіцы, а другая — агінае межы дзяржавы і сама ёсць мяжа. Па гэтай дарозе, збянтэжаныя развілкамі, што вялі да сэрца, павольна ішлі яны, знаёмячы адно аднаго з абшарамі і багаццем уладанняў. Гэта было падобна да экскурсіі па краіне, калі бачыш яе з акна цягніка ці самалёта.

— А вас размеркаванне не палохае? — лёгка парушыў ён доўгае маўчанне.

— Ведаеце, — пачала яна зноў з той самай інтанацыі, што так трывожыла яго, — раней я ўсіх шакіравала, калі казала, што хачу працаваць у раённай газеце. Цяпер, пабыўшы на практыцы, я ўжо не рвуся туды. Хоць, канечне, працаваць паўсюль можна.

— А застацца ў сталіцы ў вас ніякіх шанцаў?

— Я не шукаю іх.

— Лічыце, яны самі вас знойдуць?

— Нічога я не лічу, — холадна зірнула на яго.

— Мужа са сталічнай прапіскай таксама не шукаеце? — працягваў ён дражніць дзяўчыну.

— У паловы маіх замужніх аднакурсніц гэта было вырашальным. А я лічу, гэта амаральна, — сказала яна цвёрда.

— Ах, якія мы! — крыху жорстка ўсміхнуўся Віктар. Ягоная жорсткасць быццам ураўнаважвала яе недаравальна-даверальную мяккасць і ўсё пакідала на сваіх месцах.

— Так, такія, — спакойна прагаварыла Галіна. — Ну, вось і прыйшла. Гэта мой дом, — збочыла яна на дарожку да пад'езда. — Дзякуй за прагулку, — яна павярнулася да яго тварам. — Вы мяне так загаварылі, што я забыла патэлефанаваць. А цяпер позна ўжо. Да пабачэння.

— Гэта ўсё? — па-дзелавому ўдакладніў Віктар.

— Так, канечне, — спакойна адказала яна. Зняла рукавічку і працягнула яму вузкую далонь. Ён злёгку паціснуў яе і, не адрываючы вачэй ад твару, падумаў, што жанчына можа дапусціць нашы заляцанні да пэўнай мяжы і разам з тым паказаць, што мы зусім непрыемныя ёй. Гэтая думка Мантэня яго суцешыла. Крыху збянтэжаны сваёй апошняй рэплікай, дакладней, тонам адказу на яе, простым і ясным, які толькі падкрэсліў усю яе недарэчнасць, Віктар прамармытаў абрывак нейкай стандартна-ветлівай фразы і, узбуджаны, нечакана-лёгкі, павярнуў назад, нават не дачакаўшыся, — гэта яе крыху пакрыўдзіла — пакуль яна дойдзе да пад'езда. Якраз стаяла таксі. Развітанне з апошнім рублём яго не трывожыла. Машына яшчэ ўзмацніла гэтае адчуванне лёгкасці, што суправаджала яго ўвесь вечар. Неяк вельмі проста завязалася размова з пажылым кіроўцам. Віктар падумаў, што цяпер ён мог бы ўсталяваць кантакт з кім заўгодна, нават з жыхарамі іншай галактыкі.

**Пераклад з рускай мовы**
**Вольгі Блажэвіч**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва
і з сайта www.mgazeta.by



# Мулявін плюс...

**Наўздагон XI Нацыянальнаму фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, прысвечанаму 70-годдзю з дня нараджэння вялікага артыста, музыканта-песняра Уладзіміра Мулявіна.**

## Горад

На фармат чарговага Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі заўважна паўплывала падрыхтоўка Маладзечна да свята працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2011". З-за грандыёзных будаўнічых работ у горадзе тэрмін правядзення песеннага фэсту з традыцыйнага (чэрвень) перамясціўся на канец жніўня, калі ў рэканструяваным парку паўстаў Летні амфітэатр. Тут і адбыліся гала-канцэрты адкрыцця ды ўрачыстага завяршэння фестывалю, якія раней праходзілі на Цэнтральнай плошчы, дзе ўсталёўвалася сучасная мабільная сцэна. Зрэшты, колішняя галоўная канцэртная пляцоўка дзейнічала і сёлета, даўшы многім, у прыватнасці, аматарскім, калектывам магчымасць паказаць свае праграмы самаму шырокаму колу гледачоў. А ім хацелася не толькі патрапіць на фестывальныя імпрэзы, але і агледзець сам горад: абноўлены, памаладзелы.

Архітэктурна-ландшафтнае аблічча фестывальнай сталіцы змянілася заўважна. Пры ўездзе ў Маладзечна паўстаў манументальны сімвал горада — кампазіцыя "Пакроў Прасвятой Багародзіцы" з бронзавай выявай Маці Божай (скульптар А. Фінскі, архітэктар А. Сардараў). У прывакзальным натоўпе ля чыгуначнай станцыі абавязкова ўгледзіш высокую імклівую "Пасажырку" з багажом і незвычайным спадарожнікам — кацянём на чамадане (стварыў гэтую бронзавую скульптуру В. Мацкевіч). Вуліца Прытыцкага зачаруе ўтульным бульварам. А сквер на Цэнтральнай плошчы, дзе з'явіўся прыгожы фантан са скульптурнай кампазіцыяй "Купалле" (аўтар У. Жбанаў), прывабіць рамантычнай, загадкавай і вечнай мелодыяй радасці жыцця, яго працягу і няспыннага абнаўлення.

## Кантэкст

Як і раней (за выключэннем сумна вядомага фэсту 2009 года, праграма якога была ўціснутая ў межы адной, да таго ж, непагоднай, чэрвеньскай суботы) сёлетні Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі доўжыўся тры дні. Арганізатары — Міністэрства культуры краіны, Мінскі аблвыканкам, Маладзечанскі райвыканкам, Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь — парупіліся пра тое, каб падтрымаць закладзеную ў ім тэндэнцыю ўсебаковага паказу традыцый нашай каранёвай нацыянальнай культуры. Як і раней, удзельнікамі свята былі маладзечанскія артысты: Мінскі абласны драматычны тэатр паказаў спектакль "Вечар" паводле п'есы А. Дударава, Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" — інсцэніроўку паэмы Янкі Купалы "Яна і я". Як і раней, працавала некалькі канцэртных пляцовак, ладзіліся творчыя сустрэчы з літаратарамі, кампазітарамі. А ўпершыню за ўсю гісторыю свята беларускай песні і паэзіі яго гасцей прымаў музычна-паэтычны падворак. Размясціўся ён на ўнутраным двары Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага і стаўся пляцоўкай для паэтычнага марафону "Музыка роднай мовы", да якога спрычыніліся нават паэты-аматары, барды і юныя вершатворцы. Дарэчы, творчасць самых маладых была годна прадстаўлена ў канцэрце пераможцаў абласнога злёту "Юныя таленты Міншчыны".

Імпрэзы фестывалю, нязменным арганізатарам і ўдзельнікам якога з'яўляецца Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, вызначаліся шматпланавасцю і разнажанравасцю. Адна з праграм была падрыхтаваная камернымі калектывамі, што працуюць у складзе гэтага вялікага аркестра, і сімфанічным аркестрам Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага пад кіраўніцтвам знанага музыканта Рыгора Сарокі.

Гучала беларуская класіка XX стагоддзя — творы А. Туранкова, П. Падкавырава, Д. Лукаса і Р. Пукста. Канцэрт адбываўся ў гарадскім Палацы культуры ў разгар летняга выхаднога дня, а тым не менш — сабраў аншлаг. Шматлікіх прыхільнікаў прывабіў і начны джазавы праект, які наладзілі музыканты на чале з маэстра М. Фінбергам.

А яшчэ быў упершыню праведзены "круглы стол" на тэму "Беларуская песня: сучасны фармат" з удзелам творцаў, выканаўцаў, прадзюсараў. Удзельнікі дыскусіі, абмяркоўваючы набалелую праблему: як зрабіць нашы сучасныя здабыткі ў гэтым жанры запатрабаванымі, нават моднымі, — рабілі выснову, што менавіта беларускамоўная эстрадная песня вымагае асаблівай, большай увагі. Як неаднойчы зазначаў прафесар М. Фінберг, наша праблема ў тым, што ў эфіры, дзе культывуецца замежная эстрада, мы практычна не чуем такіх песень, хаця яны нічым не горшыя за тыя ж расійскія; мала ўвагі надаецца прафесійным аўтарам і музычна адукаваным выканаўцам. Ці не таму новых песень на беларускай эстрадзе з'яўляецца ўсё меней, а добрых — зусім мала? Вось і конкурсную праграму сёлета было даволі складана сабраць. На думку маэстра, каб жыла беларускамоўная эстрадная песня, трэба чытаць, ведаць, любіць нашу паэзію. І трэба адрадзіць у краіне прафесійны конкурс на лепшую песню, які б ацэньвалі прафесіяналы.

## Спадкаемцы

З лепшых нашых вядомых песень і новых беларускамоўных кампазіцый складалася праграма заключнага гала-канцэрта "Я песняй услаўляю Беларусь", у якім выступілі практычна ўсе папулярныя сёння выканаўцы айчыннай эстрады. Гучалі беларуская песенныя набыткі і пад фанаграму "мінус 1" на першым туры рэспубліканскага конкурсу маладых выканаўцаў "Прысвячэнне У. Мулявіну". На другім туры, падрыхтоўка да якога сталася для іх сапраўдным майстар-класам, спаборнікі спявалі пад жывое гучанне аркестра пад кіраўніцтвам М. Фінберга адну з песень, створаных Уладзімірам Мулявіным. Асаблівай цяжкасцю было знайсці індывідуальны выканальніцкі падыход, пераадолець спакусу простага перайманне мулявінскай спеўнай манеры. Рашэнне журы? Гран-пры не ўручаць. Лаўрэатам І прэміі стала Кацярына Худзінец з Жодзіна, на другім месцы — Дзяніс Пацэвіч (Маладзечна) і Дар'я Кудрыцкая з Гродзеншчыны, трэцяе месца падзялілі Яўген Доліч (Чэрвень), Андрэй Коласаў з Гомельшчыны ды мінчанка Радміла Сямёнава. Узнагароду Кацярыне Худзінец уручылі падчас цырымоніі адкрыцця фестывалю "Маладзечна-2011", і тамсама, на сцэне Летняга амфітэатра, яна ўпершыню спявала перад вялікай і прадстаўнічай аўдыторыяй.

У той вечар на фестывальнай сцэне ў прысутнасці губернатара Міншчыны Барыса Батуры ды міністра культуры краіны Паўла Латушкі ўшаноўвалі тых, хто ў рэкордны тэрмін збудаваў Летні амфітэатр, і тых, хто апякуецца беларускай музычна-паэтычнай творчасцю, прапагандай нашай культуры: Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга. Ды і самы дарагі фестывальны прыз, які носіць імя Уладзіміра Мулявіна, быў уручаны гэтаму заслужанаму калектыву. Чаму? Адказам сталася сама праграма, прадстаўленая аркестрам і яго салістамі.

А складалася праграма гала-канцэрта "Лепшыя беларускія песні XX стагоддзя. Уладзімір Мулявін" з аўтарскіх твораў незабыўнага песняра і аранжыраваных ім народных песень. Дзякуючы сцэнарыю, напісанаму Алесем Бадаком, вядучай Алене Спірыдовіч, салістам-спевакам, інструменталістам, бэк-вакалістам, аранжыроўшчыкам, удзельнікам трапных "падтанцовак", энергіі маэстра Фінберга перад публікай паўстаў-прагучаў жывы творчы партрэт Мулявіна. Было мноства кранальных эпізодаў: вось разносіцца хрэстаматыйны запіс "Малітвы" А. Молчана — Янкі Купалы, і мулявінскі голас у наступным яе куплеце падхоплівае Мікалай Скорыкаў; вось паэт Алесь Бадак чытае народжаныя ў сэрцы строфы пра незабыўны вобраз Мулявіна, пра яго спеў і пра хатнюю кружэлку, што шчымліва "буксуе" на абарваным радку: "Ой, рана... ой, рана..."; вось няструмным каскадам эмоцый працінаюць душу віртуозныя сола гітарыстаў Сяргея Анцішына, Аляксандра Калінoўскага, саксафаніста (і майстра грання на беларускай дудачцы) Андрэя Кляшчова; вось Юрый Селязнёў заўзята "калядуе" ў кампаніі гарэзлівых пераапранутых...

Пра добрыя ўражанні можна распавядаць і распавядаць. Як і пра набалелыя праблемы існавання беларускамоўнай песні, жывога слова беларускага. Я не змагла патлумачыць сваім знаёмым, якія хацелі паглядзець трансляцыю гала-канцэрта з Маладзечна, чаму ў той вечар на галоўным тэлеканале краіны пра наш фэст маўчалі нават інфармацыйныя праграмы, а што да трансляцыі, дык у эфіры быў крымскі конкурс "Песні мора", дзе рэй вёў Сяргей Звераў. Не-не, два галоўныя маладзечанскія канцэрты па БТ паказалі, ды толькі праз тыдзень. Затое роднае радыё і дырэкцыя музычнага вяшчання на чале з Тацянай Якушавай былі на вышыні: аператыўная інфармацыя, прамыя ўключэнні ў выпускі навін... На 1-м канале Беларускага радыё ладзілася і жывая трансляцыя адкрыцця фэсту.

Што ж, будзем сачыць за яго далейшым лёсам.



***На здымках:** заслужаны аматарскі калектыў сімфанічны аркестр Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага пад кіраўніцтвам Рыгора Сарокі; старшыня журы рэспубліканскага конкурсу маладых выканаўцаў "Памяці У. Мулявіна" народны артыст Беларусі, прафесар Міхаіл Фінберг з лаўрэатамі Кацярынай Худзінец (1-я прэмія) і Яўгенам Долічам (3-я прэмія).*

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота аўтара

Заўтра адкрые канцэртны сезон Беларуская дзяржаўная філармонія. У Вялікай зале выступіць Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам А. Анісімава. У праграме, якая складаецца з "Варыяцый на тэму ракако" П. Чайкоўскага і Сімфоніі № 2 Г. Малера, бяруць удзел Каўнаскі дзяржаўны хор пад кіраўніцтвам П. Бінгеліса (Літва) і выбітныя салісты: спявачкі з Расіі Ірына Крыкунова (сапрана) ды Надзея Бабінцава (меццa-сапрана) і беларускі віяланчэліст Іван Карызна. Унук шаноўнага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзіміра Карызны, — пераможца многіх выканальніцкіх конкурсаў. А гэтым летам 19-гадовы Іван стаў лаўрэатам трэцяй прэміі XIV Міжнароднага конкурсу імя П.Чайкоўскага: гэта выключная, сапраўды гістарычная падзея ў беларускай культуры.

Злета галоўнае фае НАВТ оперы і балета Беларусі пачалі абжываць... не героі спектакляў, не іх здані, а, скажам так, — сцэнічныя вобразы. Гонару пераўвасобіцца ў іх спадобіліся адмысловa зробленыя манекены: кожны з індывідуальнай паставай, са сваім характарам, а галоўнае — у непаўторным уборы. Гэта сапраўдныя аўтарскія



сцэнічныя касцюмы персанажаў, якіх мы бачылі на сцэне ў спектаклях "Барыс Гадуноў", "Жар-птушка", "Сон у летнюю ноч", "Дон Жуан"... Пасля рэканструкцыі тэатра, мадэрнізацыі сцэны многія пастаноўкі сышлі з рэпертуару. Але зусім няма ўжо старыя касцюмы засталіся "на службе": ствараюць у фае візуальныя акцэнты, дадаюць тэатральнага настрою публіцы, нясуць у сабе невытлумачальны дух таго, што было ў мінулых сезонах...

Імя кампазітара Мікалая Набокава "ЛіМ" адкрыў чытачам некалькі гадоў таму. А нядаўна па ініцыятыве Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА і Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі на Гродзеншчыне ўпершыню прайшоў фестываль, прысвечаны яго памяці. На працягу дня ў замкавым комплексе "Мір" і мястэчку Любча ладзіліся канцэрты з твораў М. Набокава ў выкананні нашых музыкантаў. Мікалай, стрыечны брат славутага пісьменніка Уладзіміра Набокава, нарадзіўся менавіта на беларускай зямлі — у Любчы, у 1903 г., памёр у 1978-м у Нью-Ёрку. Ён быў родзічам Святаполк-Мірскіх, апошніх уладальнікаў знакамітага замка. Ці можна лічыць М. Набокава класікам амерыканскай музыкі XX ст. і называць стваральнікам першага амерыканскага балета? Пытанне досыць спрэчнае. Але адкрываць новую для сябе музыку заўсёды цікава. У якасці ганаровых гасцей на імпрэзу былі запрошаныя замежныя нашчадкі роду Святаполк-Мірскіх.

***На здымку:** старшы захавальнік экспанатаў музея НАВТ оперы і балета Беларусі Ганна Жукава рыхтуе да "выхаду ў свет" манекен у касцюме Марыны Мнішак (опера "Барыс Гадуноў", пастаноўка 2001 года, мастак па касцюмах Элеанора Грыгарук).*

# Пра што шкадаваў Тарыч?

**Сёлета спаўняецца 85 гадоў з часу стварэння першай беларускай мастацкай кінастужкі. Нямы чорна-белы фільм "Лясная быль" (іншыя назвы "Свінапас", "Грышка-свінапас"), які выйшаў на экран 25 снежня 1926 г., стаўся з'явай, знакавай для нашай нацыянальнай культуры. І не толькі таму, што распачаў летапіс беларускага ігравога кінематографа. Напэўна, можна лічыць, што стваральнікі "Лясной былі" запачаткавалі асновы экранізацыі беларускай літаратуры (сцэнарый фільма напісаны паводле аповесці Міхася Чарота "Свінапас", якая, між іншым, убачыла свет за два гады да з'яўлення стужкі — вось дык аператыўнасць тагачасных кінематаграфістаў!). "Лясная быль" запачаткавала ў айчынным кіно і героіка-прыгодніцкі жанр. А яшчэ — распачала новую старонку ў творчай біяграфіі Юрыя Тарыча, які ўвайшоў у гісторыю як заснавальнік і класік беларускага кіно. Пра свайго земляка Юрыя Тарыча (дарэчы, з дня яго нараджэння летась мінула 125 гадоў) распавядае палачанка Валянціна Сопікава.**



***Святлана Берасцень, рэдактар аддзела мастацтваў***

**Валянціна СОПІКАВА, г. Полацк**

Выдатны кінадраматург, рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР Юрый Тарыч (Аляксееў) — ураджэнец горада Полацка. Разам з Уладзімірам Гардзіным ён стаяў ля вытокаў кінематаграфіі Беларусі. Каб "запусціць механізм" вытворчасці беларускіх фільмаў, Тарыча запрасілі ў Белдзяржкіно з Масквы, з 3-й Дзяржкінафабрыкі, дзе ён незадоўга да гэтага зняў гістарычную карціну "Крылы халопа". Яна атрымала значны рэзананс не толькі ў Савецкім Саюзе, але і за мяжой. А па касавым зборы апярэджвала нават такі шэдэўр сусветнага кіно, як "Браняносец «Пацёмкін»" Сяргея Эйзенштэйна. Не апошнюю ролю ў запрашэнні адыграла, відаць, і тое, што Тарыча ведалі як ураджэнца Беларусі, чый жыццёвы шлях пачынаўся ў Полацку.

Біяграфія Тарыча, выхадца з сям'і вайскоўца, увабрала ў сябе многае з таго, чым характарызаваўся ў Расійскай імперыі пачатак стагоддзя. Пасля заканчэння гімназіі вучыўся на юрыдычным факультэце Маскоўскага ўніверсітэта. У 1904 г., падчас руска-японскай вайны, працаваў на Далёкім Усходзе санітарам палявога шпіталя, выступаў у друку (у газеце "Варшавский дневник" і інш.) з публікацыямі пра ваенныя падзеі, сведкам якіх яму давялося быць. У 1905-м будучы кінарэжысёр удзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях у Варшаве, як член ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі РСДРП быў арыштаваны і зняволены ў крэпасці, а праз год адпраўлены па этапе ў Сібір, у Табольскую губерню. У Табольску, у пошуках заробку, уладкаваўся ў мясцовы тэатр на эпізадычныя ролі. Часовая праца ў тэатры і вызначыла яго творчы лёс. Артыстычныя здольнасці ссыльнага студэнта былі відавочныя, і неўзабаве ён становіцца вядучым акцёрам тэатра. Месца пражывання ссыльнага — сяло Тара — і дало яму, Юрыю Аляксееву, акцёрскае імя: Тарыч. З гэтым імем ён і ўвайшоў у мастацтва.

На правінцыйнай сцэне Тарыч сыграў шмат роляў класічнага рэпертуару. З кінематографам упершыню сутыкнуўся ў 1914 г., калі для кінафірмы яраслаўскага прадпрымальніка Г. Лібкена напісаў сцэнарый фільма "Трагедыя сям'і Набатавых", пазней сыграў адну з роляў у фільме вядомага прадпрымальніка А. Талдыкіна "Пяць паверхаў". У час Першай сусветнай вайны быў у дзеючай арміі, дзе даслужыўся да звання паручніка. З 1917 г. — у Маскве. Тут ён актыўна працуе: іграе ў тэатры Рэвалюцыі, Вялікім драматычным, спрабуе сябе на літаратурнай ніве; яго п'еса пра жыццё палітычных ссыльных "Выгнаннікі" ідзе ў многіх тэатрах Расіі... У 1920-м Тарыч становіцца адным з кіраўнікоў Курсанцкага тэатра ў Крамлі, дзе ставіць п'есы-агіткі, класіку, інсцэніруе літаратурныя творы.

З 1923 г. Тарыч стала працуе ў кінематографе. Паводле яго сцэнарыяў здымаецца некалькі фільмаў: "Банда бацькі Кныша" (рэж. А. Разумны, 1924), "Ворагі" (рэж. Ч. Сабінскі, 1924), "Ваўкі" (рэж. Лео Мур, 1925). З'яўляецца жаданне самому заняцца кінарэжысурай. У 1924 г. Тарыч разам з рэжысёрам Я. Івановым-Барковым паводле свайго сцэнарыя ставіць фільм "Марока" пра барацьбу вясковай моладзі з рэлігійнымі забабонамі. Карціна атрымоўвае станоўчыя ацэнкі. Цікава адзначыць, што над першымі фільмамі сумесна з Тарычам у якасці памочнікаў працавалі Іван Пыр'еў і Уладзімір Корш-Саблін — будучыя вядомыя рэжысёры савецкага кіно. Тады ж Тарыч быў вядомы і як арганізатар папулярных у першыя гады савецкай улады масавых імпрэз, якія наладжваліся на вуліцах і плошчах Масквы.

У 1926 г. Юрый Тарыч паставіў першы беларускі нацыянальны фільм "Лясная быль" (сцэнарый Ю. Тарыча і М. Чарота паводле аповесці пісьменніка "Свінапас". — ***Рэд.***) — рамантычны твор пра мужнасць падлетка-свінапаса Грышкі, які ператвараецца ў героя грамадзянскай вайны, няўлоўнага партызанскага разведчыка. Гэты прыгодніцкі фільм не належыць да той катэгорыі карцін, сэнс якіх зводзіцца да "раскручвання" сюжэта, да нястрымнага, імклівага захапляльнага разгортвання падзей. Тут высокая паэзія арганічна спалучалася са строгай дакументальнасцю; у адным з эпізодаў фільма зняліся кіраўнікі маладой беларускай рэспублікі І. Адамовіч, В. Кнорын, А. Чарвякоў. Ён вылучаўся сярод іншых прыгодніцкіх фільмаў сваей паэтычнасцю, лірычнай інтанацыяй. Ураджэнец Полацка Юрый Тарыч вельмі любіў свой край, людзей, прыроду Беларусі. Ён не толькі перадаў у фільме гістарычную канву падзей — гісторыка-рамантычную быль, але і з вялікай увагай паставіўся да вобразаў прыроды. Таму на экране ажыла менавіта лясная легенда-казка пра смелага Грышку-свінапаса і яго паплечнікаў: партызанаў, сялян. Лес выступіў адным з галоўных персанажаў стужкі, прытым атрымаўся вобраз вялікага эмацыянальнага ўздзеяння. Лес сапраўды ўспрымаецца ў фільме як верны абаронца і сябра партызанаў, неадрыўны жыццёвы асяродак, у якім жывуць і дзейнічаюць героі. Лес у карціне — сімвал моцнага духу, невычэрпнай сілы народа. Ён змрочны, гнеўны ў цяжкія для партызанаў хвіліны, вясёлы, радасны, калі яго насельнікам спадарожнічае ўдача, задуменна-сумны, лірычны ў моманты расставанняў. Жыццё герояў — яго жыццё, іх радасць — яго радасць, іх гора — яго гора. Малады хлопец Леанід Данілаў, непрафесійны акцёр, быў у ролі Грышкі надзвычай натуральны і абаяльны. Яго герой выклікаў сімпатыю ва ўсіх сцэнах. У фільме столькі сонечнай энергіі, усмешак, што ён і сёння застаецца крыніцай радаснага светаадчування. Зразумела, што "Лясная быль" мела вялікі поспех.

*"Менавіта такія, як Юрый Віктаравіч Тарыч, казаў вядомы рэжысёр Сяргей Герасімаў, "заснавалі кінематограф сумлення і высакароднасці".*

У 1929 — 1930 гг. выйшлі дзве карціны Тарыча: "Да заўтра" і "Нянавісць". Яны з'явіліся менавіта ў той перыяд, калі рэвалюцыйныя падзеі ў буржуазнай Польшчы, прынамсі, на заходніх беларускіх землях, набылі шырокі размах, калі санацыйны рэжым абрынуўся з рэпрэсіямі на тых, хто выступаў за свабоду і дэмакратыю. Змест карціны "Да заўтра" (над яе сцэнарыем Тарыч працаваў з І. Бахарам) канцэнтраваўся вакол падзей у дзіцячым сірочым прытулку — казённым і бяздушным. Тут адбываецца бойка паміж тайным кіраўніком рэвалюцыйна настроеных выхаванцаў, камсамольцам Язэпам Шумейкам і сынам начальніцы прытулка, даносчыкам і правакатарам Барысам Бавердам, які пастаянна здзекуецца з безабаронных малалетніх выхаванцаў. Язэпа па даносе Барыса выключаюць з гімназіі і арыштоўваюць... Водгалас рэальных падзей з жыцця Заходняй Беларусі адчувальны. Правобразам Лізы Малевіч з'яўляецца Вера Харужая. З аўтарскай сімпатыяй трактаваныя і гэтая гераіня, і Язэп — ідэальны герой, увасабленне самага прыгожага ў жыцці. У фільме "Да заўтра" выявіліся новыя бакі таленту рэжысёра, які прадэманстраваў цудоўнае валоданне камедыйна-сатырычнымі сродкамі, уменне ёміста выкарыстоўваць іх для характарыстыкі персанажаў.

Падчас здымкаў гэтага фільма на студыю "Савецкая Беларусь" у Ленінградзе прыйшлі з экскурсіяй Янка Купала і Якуб Колас. Менавіта Тарыч стаў потым рэжысёрам адзінага прыжыццёвага фільма пра Якуба Коласа "Народны паэт" (1952).

Фільм-памфлет "Нянавісць" Ю. Тарыч паставіў паводле ўласнага сцэнарыя на аснове рамана Юліуса Кадэн-Бандароўскага "Чорныя крылы", дзе ўзрушальна паказаны галеча і эксплуатацыя шахцёраў у буржуазнай Польшчы. У карціне выкарыстаныя толькі асобныя сюжэтныя сітуацыі літаратурнага твора. У апошнім варыянце сцэнарыя, а потым і фільма, увага скіроўваецца на развіццё механікі ўзаемадзеяння палітычных сіл агрэсіўнай дзяржавы.

У 1930 годзе рэжысёр ажыццявіў першы гукавы эксперымент у беларускім кіно, зняўшы кінапраграму "Пераварот". У 1932-м паставіў агітпрапфільм на ваенную тэму "Вышыня 88.5". У 1935-м — фільм "Шлях карабля", прысвечаны дзейнасці экспедыцыі падводных работ асаблівага прызначэння — знакамітага ў 30-я гады ЭПРОНа. Падзеі фільма перакідваюцца з мора Чорнага да мора Паўночнага і наадварот. Група маракоў-падводнікаў выязджае на Поўнач, каб падняць на паверхню патанулы карабель. Самаадданым вадалазам перашкаджае не толькі шторм, але і агромністы айсберг, які рухаецца проста да месца работ. Рызыкуючы жыццём, маракі ўзрываюць айсберг і падымаюць карабель на паверхню мора. Рэжысёру ўдалося стварыць вобраз калектыву, знітаванага адзінай мэтай, паказаць самаахвярную працу маракоў, рамантыку гераічных будняў у складанай і небяспечнай прафесіі вадалазаў. Рамантычны па духу фільм з песнямі І. Дунаеўскага добра ўспрымаўся гледачамі.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны, працуючы на Цэнтральнай аб'яднанай кінастудыі ў Алма-Аце, Ю. Тарыч разам з У. Корш-Сабліным стварыў кіназборнік "Беларускія навелы" (1942, навела "На кліч маці", дзе ўраджэнца Полацка, смелага танкіста-кулямётчыка Фаталінскага сыграў папулярны артыст Пётр Алейнікаў). На жаль, фільм на экраны не выйшаў. У 1942 г. разам з У. Пудоўкіным наш зямляк стварыў кінафільм "Забойцы выходзяць на дарогу". Затым у 1943 — 1945 гадах Ю. Тарыч з'яўляўся мастацкім кіраўніком кінастудыі "Манголкіно", паставіў першы мангольскі мастацкі фільм "Цокту Тайджы" ("Стэпавыя віцязі"). А ў першыя пасляваенныя гады быў кансультантам кінастудыі "Союздетфильм", рэжысёрам у Тэатры-студыі кінаакцёра ў Маскве.

У пачатку 1950-х на кінастудыі "Беларусьфільм" ён паставіў некалькі дакументальных фільмаў; быў мастацкім кіраўніком работы маладых кінематаграфістаў "Апавяданні пра юнацтва"...

Памёр наш знакаміты зямляк у 1967 годзе.

"Асноўнымі рысамі Юрыя Віктаравіча Тарыча, — пісаў вядомы кінакрытык 30-х гадоў Хрысанф Херсонскі, — былі вайсковая дысцыплінаванасць і душэўная добрасумленнасць. Працавіты, нешматслоўны, майстар на ўсе рукі, акцёр, сцэнарыст і рэжысёр, ён пазбягаў бясплодных калякіношных заўзятасцей і ў кожнай справе не грэбаваў быць, калі патрэбна, чорнарабочым. Быў нязменна добрым... Уважліва слухаў. Заўсёды прыхільны да супрацоўніцтва. Я ніводнага разу не чуў, каб ён узвысіў голас, хаця часам яму бывала крута ад непрыемнасцей. Заўсёды ў ім адчувалася нейкая ўнутраная моц, так і не раскрытая да канца". ("Страницы юности кино". М., 1965).

Разам з ім у жыцці і працы была верная сяброўка, яго жонка Таццяна Уладзіміраўна Шавелкіна. У мінулым яна была выдатнай актрысай тэатра Ф. А. Корша. "Ці можна забыць, — піша актрыса Раіса Есіпава, — як ва ўсялякую хвіліну, калі былі неабходныя дапамога, падтрымка, трэба было імчаць на Пятроўку, узбегчы па адным маршы лесвіцы і... на цябе абрынвалася плынь радасных прывітанняў, дасціпнасці, увагі... На няшчасце, усё гэта хутка скончылася з заўчаснай смерцю Тані... Юрый Віктаравіч быў несуцешны..."

У сталым узросце Юрый Тарыч шкадаваў, што мала стварыў фільмаў на зямлі, дзе нарадзіўся, але казаў, што ўвесь час адчуваў яе жыццядайнае ўздзеянне.

***На здымку: кадр з фільма "Лясная быль".***

# Ад Armani? Ад бабулі!

**Як вам такое пытанне: ці можа рэч, якой мы, магчыма, карыстаемся штодзень, быць мастацкім вырабам? Зазірніце ў бабулін куфар ці скрыню — там вы знойдзеце не адзін твор. Гэта хусткі і шалі. А як інакш, калі не мастацкім творам, і назавеш іх? Змешчаныя ў раме на сцяне (так, не па прызначэнні) — упрыгожваюць майстэрню сваіх творцаў на Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры — яны выглядаюць нібы карціны. А накіне на сябе жанчына — "Богу кветачка". І назвы мілагучныя, ласкавыя: "Вясновая раніца", "Успаміны пра лета", "Журавушка"... Пра тое, як нараджаюцца маленькія шэдэўры — наша гутарка з мастаком Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры Ірынай Дадонавай, заслужаным мастаком Расійскай Федэрацыі, лаўрэатам дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі ў галіне літаратуры і мастацтва.**

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА

**— Калекцыя шаляў, створаных у тым ліку і па вашых малюнках, была намініравана на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Як вам такая ацэнка іх як значнай з'явы славянскай культуры?**

— Я хачу сказаць, што хусткі, шалі — яны як бы інтэрнацыянальныя. Таму што ў культуры практычна ўсіх народаў ёсць хусткі. І калі выключыць пэўныя нацыянальныя рысы, яны яднаюць народы. Таму нельга казаць, што гэтая хустка, створаная намі, — для беларусаў, гэтая — яшчэ для некага... Аднак у некаторых хустак, малюнкаў ёсць свая гісторыя. "Русь" (рабочая назва "Славянка"), напрыклад, я рабіла пад уражаннем ад паездкі ў Беларусь. Мы былі ў Мінску, а адтуль нас адвезлі ў нейкую — на жаль, не памятаю яе назвы — вёску на Яблычны спас, каб мы маглі пабачыць беларускія нацыянальныя касцюмы. Гэта было недзе ў сярэдзіне 60-х. Свята праходзіла на зялёным лузе, а ўсе людзі былі такія прыгожыя, па-святочнаму прыбраны, у нацыянальных касцюмах — і мужчыны, і жанчыны, і дзеці. І ўсе жанчыны былі ў хустках — такое разнаквецце! І зялёныя, і чырвоныя, і на белым фоне — проста казачна! Мне так спадабалася — і сёння ўсё добра памятаю. Тады я стварыла серыю хустак, адна з якіх — "Славянка" (яна хоць і называецца "Русь", але для мяне ўсё ж такі "Славянка"). А чырвоны колер, які дамінуе на хустцы, асацыіруецца з радасцю, шчасцем, нечым прыгожым, святочным — нездарма ён прысутнічае на многіх нацыянальных касцюмах. Таму мой аўтарскі варыянт узору — менавіта ў чырвоным колеры, хаця ён існуе і ў зялёным, і ў іншых...

**— Малюнкі не заўсёды з кветкамі, так?**

— Так, ёсць кветкі, арнамент і спалучэнне арнаменту і кветак. Але мне самой больш за ўсё падабаюцца менавіта з кветкамі. Мая бабуля з Волгі, там таксама носяць такія хусткі. Дарэчы, большасць аддае перавагу менавіта кветкам. Таму што яны, як і чырвоны колер, звязаныя са шчасцем...

**— Хусткі і вам дораць радасць, шчасце, калі вы іх робіце?**

— Ведаеце, калі малюеш, пра ўсё забываеш: пра ўсе нягоды ды роспачы.

**— Ці шмат часу займае стварэнне малюнка?**

— Гэта залежыць ад настрою.

**— А ў якім настроі трэба быць мастаку, каб стварыць сапраўдны шэдэўр?**

— Перш трэба нечым натхніцца. Прыкладам, паглядзець на штосьці прыгожае — і ў душы адразу цёплая хваля ўздымаецца, хочацца стварыць нешта... Канечне, і такія дні, калі нічога не атрымліваецца, бываюць. Але ў цэлым мне хочацца маляваць — я даўно магла пайсці на пенсію, а потым думаю: "Ну як я буду без гэтага? Сумна будзе..." Пакуль без хустак не магу.



**— Памятаеце свае першыя малюнкі?**

— Ой, канечне! (*смяецца* — **Т. К.**). Яны такія смешныя былі! Калегі ў майстэрні іх "агашкамі" называлі — усе кветкі круглыя, не аб'ёмныя. Многаму давялося вучыцца ўжо пасля інстытута — тут, на мануфактуры. Балазе, дапамагалі выдатныя вопытныя мастакі. І не адзін год. Гэта цяпер з заплюшчанымі вачыма намалюю кветку, якую хачу. А сёння ўжо дапамагаю маладым, падказваю.

**— Ірына Пятроўна, а колькі хустак, дакладней, малюнкаў для іх, вы ствараеце за год?**

— Ёсць план: кожныя два месяцы — малюнак. Бывае, нешта перарабіць трэба, а часу мала — сядзім і ноччу.

**— Перарабіць — гэта калі самім не падабаецца?**

— Так, часам, калі ўсё амаль гатова, нешта не так — паварот кветкі, кампазіцыя... А бывае, што і адразу ўсё атрымліваецца належным чынам, у самы раз.

**— Ці ёсць у вас любімыя?**

— Доўгі час любімай была "Славянка". Цяпер яшчэ адна з'явілася — "Усходняя казка". А ўвогуле ў мяне мала любімых. Гэта тыя, куды ўсю душу ўклала, у якіх і сёння не бачу недахопаў, хібаў.

**— Не магу не запытаць. Сучасная жанчына — і хустка, як у нашых бабуль?**

— Быў час, калі нашыя хусткі проста не насілі. А потым неўзабаве я паехала ў Маскву — і бачу: ідзе дзяўчына ў кажушку, а наверх (так здорава!) — зялёнага колеру яркая шаль. Я прыехала, усім кажу: "Ведаеце, як прыгожа!" А потым год-два — і многія іх носяць, у нас шмат купляецца хустак. Яны зноў увайшлі ў моду. І так прыгожа: і на галаву накінуць, і на плечы... Тым больш што часткі малюнкаў робяцца сучаснымі — некалькі гадоў таму зрабілі тыгровыя шалі, арнаментальныя для моладзі.

**— Дык у хусткі ёсць будучыня?**

— Мне здаецца, ёсць. Уяўляеце, хусткам, шалям ужо столькі гадоў, а яны жывуць і жывуць!

Уладзімір ЗАЛУЖНЫ,
фота Кастуся Дробава

**На Дні беларускага пісьменства былі ўручаны ўзнагароды Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Дыпломы "Союзное слово" атрымалі паэтэса Раіса Баравікова і маскоўскі пісьменнік Алесь Кажадуб. Віншуючы намінантаў, намеснік дзяржаўнага сакратара — член Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы Іван Бамбіза — адзначыў, што "вырашаць значныя па сваіх маштабах сацыяльна-эканамічныя задачы нашых дзяржаў можна толькі аб'яднаўшы інтэлектуальныя рэсурсы".**



# Сэнс іх жыцця — у творчасці

Раіса Баравікова — вядомая пісьменніца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова і іншых прэстыжных прэмій, аўтар некалькіх дзясяткаў кніг паэзіі, прозы, дзіцячай літаратуры. Яе кнігі "Казкі астранаўта (Касмічныя падарожжы беларусаў)", "Казкі з гербарыя", "Касмічныя аповесці пра Міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў" запатрабаваныя маленькім чытачом і карыстаюцца попытам у дзяцей. Працуе Р. Баравікова і ў жанры драматургіі. Яе гістарычная драма "Барбара Радзівіл", якая была ў свой час пастаўлена на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, да гэтага часу з'яўляецца адным з яркіх твораў айчыннай літаратуры.

Дарога Алеся Кажадуба ў вялікі свет пачалася з родных Ганцавіч. Пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта працаваў настаўнікам у Лагойскім раёне, рэдакцыі часопіса "Маладосць", на рэспубліканскім тэлебачанні, у "Литературной газете". Цяпер ён галоўны рэдактар выдавецтва "Советский писатель" (Расія).

Літаратурны дэбют Алеся Кажадуба адбыўся ў 1976 годзе, калі ў часопісе "Маладосць" было надрукавана яго першае апавяданне "У канцы лета". Апавяданне і аповесць сталі любімымі жанрамі пісьменніка і склалі кнігі "Гарадок", "Размова", "Лесавік", "Дарога да замчышча", "Святы калодзеж" і іншыя.

Варта адзначыць, што аповесць "Гарадок" напісана выключна на ганцавіцкім матэрыяле. Кнігі "Мае рэкі", "Ваўкалак", "Высока сонейка, высока" і іншыя таксама прысвечаны Палессю. Ім уласцівы драматызм падзей, прадуманасць сюжэтнага дзеяння, сакавітая мова.

— Акрамя актыўнай творчай працы я імкнуся знаходзіць час і для грамадскай дзейнасці, — сказала Раіса Баравікова пасля атрымання ўзнагароды. — Шмат гадоў узначальваю Таварыства дружбы і культурных сувязей "Беларусь — Расія", якое прапагандуе лепшыя творы класікі і сучаснай літаратуры, як айчыннага прыгожага пісьменства, так і мастацкага слова братэрскага для нас народа. З далёкай гісторыі вядома, што літаратура, мастацтва і культура садзейнічаюць збліжэнню, яднанню народаў, нацый ды дзяржаў у цэлым. Інакш і не можа быць, таму што створанае вялікімі талентамі кожнага народа — залатая скарбонка ўсёй нашай зямной цывілізацыі. Мне прыемна ўсведамляць, што і ў беларусаў, і ў расіян надзвычай багатая літаратурна-культурная спадчына, і ўсё, што створана класікай двух нашых вялікіх народаў, мы павінны данесці да новага маладога пакалення...

* * *

У Ганцавічах падчас святкавання Дня беларускага пісьменства стартаваў інфармацыйны праект "Юныя журналісты Беларусі і Расіі аб Саюзнай дзяржаве", які ажыццяўляе рэдакцыя газеты "Переходный возраст" пры падтрымцы Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы. Яго арганізатары ўпэўнены, што рэалізацыя праекта будзе садзейнічаць далейшаму пашырэнню вопыту міжкультурнага і творчага ўзаемадзеяння моладзі братніх краін, умацаванню дружбы паміж нашымі народамі.

# Галасуем за намінантаў!

**Выказаць меркаванні наконт таго, каму варта прысудзіць прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва, цяпер могуць не толькі члены Экспертнага савета, але і кожны жадаючы. У жніўні пачаў дзейнічаць сайт www.premia-soyuz.ru, дзе любы карыстальнік можа пакінуць каментарый ці прагаласаваць за аднаго з пяці намінантаў.**

Сайт быў распрацаваны па заказе Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы адным з афіцыйных партнёраў па інфармацыйным суправаджэнні прэміі — Фондам падтрымкі гуманітарных і творчых праектаў "Рух". Інтэрнэт-галасаванне за намінантаў працягнецца да 22 верасня. У гэты дзень Экспертным саветам з пяці намінантаў будуць вызначаны тры лаўрэаты, кандыдатуры якіх прапануюцца для зацвярджэння Вышэйшаму Дзяржаўнаму савету Саюзнай дзяржавы. Галасаванне і каментары абавязкова будуць улічаныя пры падсумаванні вынікаў грамадскага абмеркавання намінантаў.

"ЛіМ" прапанаваў творцам паўдзельнічаць у грамадскім абмеркаванні і прагаласаваць за аднаго з намінантаў.

**Вячаслаў Паўлавец, мастак, мастацкі рэдактар выдавецтва "Беларусь"**: "Я вагаюся паміж Георгіем Паплаўскім і Юрыем Башметам. Прагаласаваў бы за каго-небудзь з іх, з той прычыны, што знаёмы з іх творчасцю лепш, чым з творчасцю іншых намінантаў".

**Людміла Саянкова, кінакрытык, загадчыца кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ**: "Прагаласавала б за Георгія Паплаўскага. Гэта сур'ёзны графік, яго працы адлюстроўваюць беларускую ментальнасць".

**Сяргей Кавальчык, галоўны рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага**: "Як чалавек тэатральны, я, канечне, прагаласую за спектакль "Вяселле".

Нагадаем, што гэтым разам на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва намініраваны творы паэта Глеба Гарбоўскага, канцэртныя праграмы народнага артыста Расійскай Федэрацыі, народнага артыста СССР Юрыя Башмета, калекцыя паўлавапасадскіх шаляў "Спадчына", серыі жывапісных і графічных работ народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага і спектакль "Вяселле" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

На момант падпісання нумара ў друк у галасаванні лідзіравалі аўтарскі калектыў калекцыі паўлавапасадскіх шаляў "Спадчына".

# Са славутага роду Дамейкаў

**Не так даўно на старонках “Звязды” шаноўны Адам Мальдзіс распавёў пра падрыхтоўку энцыклапедычнага выдання пра беларусаў замежжа. Яшчэ да выхаду даведніка было зразумела, што ён прадставіць Беларусь у вымярэнні, што значна пераўзыходзіць яе геаграфічныя межы. Унёсак беларусаў у гісторыю і культуру бліжняга і дальняга замежжа — захапляльная і бясконцая тэма, якая адкрывае сапраўдныя чалавечыя “мікракосмы”, незвычайныя лёсы і сувязі.**

Валянціна ЛЕБЕДЗЕВА

Прыкладам можа быць жыццё захавальніцы памяці пра легендарнага Ігната Дамейку, спадарыні Паж Дамейкі, якая сёння жыве ў Аўстраліі.

Паж нарадзілася ў сям'і ўнука І. Дамейкі, які стаў чылійскім дыпламатам. Яе дзяцінства праходзіла ў краінах службы бацькі — Бразіліі, Аргенціне, ЗША. Па прызнанні Паж, з-за частых пераездаў яна не паспявала нават набыць сяброў. Юнацтва яе не было зорным: пэўны час чацвёра дзяцей жылі ў родзічаў, без бацькоў. Паж было цяжка набыць сярэднюю адукацыю, а заканчваць школу давялося ў Аўстраліі.

Вялікі ўплыў на дзяўчыну аказала сястра бацькі і ўнучка Ігната Дамейкі Аніта, лёс якой можа стаць сюжэтам асобнай кнігі. Аніта была піяністкай, брала ўдзел у многіх чылійскіх музычных мерапрыемствах. Яна самастойна вывучыла некалькі моў, атрымала ступень доктара філасофіі, калі ёй было ўжо за 80. Амаль да апошніх год яе жыцця (памерла ва ўзросце 105 год) яна выпраўлялася на поўнач Чылі на археалагічныя раскопкі.

Паж выдатна закончыла школу, але бацька не дазволіў ёй паступаць ва ўніверсітэт, бо не вярыў у жаночую вышэйшую адукацыю. Давялося засвоіць спецыяльнасць сакратара і стэнаграфісткі. У юным узросце дзяўчына адна вярнулася ў Чылі, пасля чаго пазбавілася ўсялякай матэрыяльнай падтрымкі ад бацькоў і мусіла навучыцца зарабляць, каб утрымліваць не толькі сябе, але і сваю старэнькую бабулю, у якой жыла.

У 19 год Паж сустрэла каханне, якое скончылася шлюбам і нараджэннем 5 дачок. Веданне англійскай мовы дазволіла ёй знайсці добрую працу — Паж узначаліла ўправінцыйным чылійскім Чыльяне амерыканскі культурны цэнтр, які ператварыла ў шматгаліновую ўстанову, дзе выкладалі англійскую мову, знаёмілі з сусветным кіно і культурнымі навінамі.

Аднак спакой і дабрабыт неўзабаве скончыліся: з прыходам да ўлады ў Чылі пракамуністычных сіл на чале з С. Альендэ дзейнасць амерыканскай структуры была забаронена, пачаліся пераследы яе прадстаўнікоў. Паж, як і яе далёкі продак Ігнат, вымушана была эмігрыраваць. Разам з мужам і пяццю дочкамі, старэйшай з якіх было 9 год, а малодшай 3, Паж зноў апынулася ў Аўстраліі. Муж не ведаў англійскай мовы, а яго чылійскі дыплом юрыста страціў значэнне. Утрыманне вялікай сям'і лягло на Паж. Праз некалькі год муж наогул пакінуў яе і разарваў сувязі з дзецьмі, выпраўленне якіх у жыццё цалкам легла на плечы жанчыны. Яна годна справілася з задачай, для чаго шмат працавала, мяняючы прафесіі і ўстановы: была выкладчыкам, агентам турыстычных фірм і міжнародных авіякампаній. Напружаны рытм меў цяжкія наступствы. Напярэдадні выхаду на пенсію, калі ўжо прадчуваўся заслужаны адпачынак, давялося перамагаць анкалагічнае захворванне, перажыць сур'ёзную аперацыю і доўгую рэабілітацыю.

Такой біяграфіі дастаткова, каб лічыць, што жаночае жыццё здзейснілася. Але, акрыяўшы, Паж знайшла ў сабе сілы пачаць яго новы адлік. Сэнсам яе існавання стала даследаванне жыццёвага шляху славутага прадзеда — Ігната Дамейкі, пра якога ведала з дзяцінства, але цяпер адчула абавязак напісаць яго біяграфію. Жыццяпіс продка настолькі захапіў, што Паж пайшла на самаахвярны крок — прадала сваю любімую кватэру ў Сіднеі, каб мець сродкі для збору матэрыялаў у Чылі, Францыі, Літве і Беларусі — краінах, дзе жыў І. Дамейка. Па словах Паж, даследаванне было пачаткам самых шчаслівых гадоў яе жыцця. Вынікам вышукаў стала кніга на іспанскай мове, якая выйшла ў 2001 г., якраз напярэдадні 200-гадовага юбілею І. Дамейкі. Прэзентацыя выдання адбылася ў Канберы, Санцьяга і, нарэшце, у Парыжскай рэзідэнцыі ЮНЕСКА падчас вялікай выстаўкі, прысвечанай ураджэнцу Беларусі. У той год аўтарка прыняла таксама ўдзел у юбілейнай канферэнцыі, наладжанай Вільнюскім універсітэтам, разам з яе ўдзельнікамі наведала Беларусь. На свае ўласныя сродкі Паж пераклала і выдала англамоўную версію кнігі.

Наогул, Паж лічыць, што продак “забраў яе жыццё і прымусіў нарадзіцца ў новай ідэнтычнасці”, дапамог зведаць і па-іншаму ацаніць многія гістарычныя і сучасныя рэаліі. Сярод іх — і адкрыццё Беларусі. Апошняму спрыялі не толькі факты радаводу, але і знаёмства з былым гамяльчанінам, а сёння адным з аўтарытэтных рэстаўратараў Сіднея Дзмітрыем Лімантавым. Менавіта яму Паж даверыла рэстаўрацыю фамільнага абраза, некалі вывезенага І. Дамейкам з радзімы. Праз Д. Лімантава трапіў у Беларусь і адзіны экзэмпляр кнігі “Ігнат Дамейка: жыццё ў выгнанні”. Выданне мае навуковы характар, уключае цікавыя дакументальныя і фотаматэрыялы, але разлічана на шырокую аўдыторыю. Думаецца, яно не было б лішнім і для беларускага чытача, стала б добрым дадаткам да кніжнай і кіна-дакументальнай “дамейкіяны”, створанай на Беларусі за апошнія гады (прыгадаем выданні ў серыях “Нашы славутыя землякі”, “Беларускі кнігазбор”, выдатны фільм Алега Лукашэвіча з серыі “Эпоха”).

Сама аўтар адзначала, што магчымасць перакладу на беларускую мову і верагоднасць выдання на “сапраўднай радзіме Ігната Дамейкі” была б вялікай радасцю, і яна толькі можа ўявіць сабе, у якім захапленні былі б яе продак, калі б даведаўся пра такую падзею!



***На здымку: Паж Дамейка і Дзмітрый Лімантаў (былы гамяльчанін, цяпер аўстралійскі рэстаўратар) прадстаўляюць кнігу пра І. Дамейку.***

## Кнігарня роднаснасці

# Новыя падарожжы «...шляхты»




Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Ян Баршчэўскі і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — адны з самых значных постацей у беларускай літаратуры XIX стагоддзя. За межамі нашай краіны творчасць гэтых пісьменнікаў, як высвятляецца, амаль не вядомая, таму факты звароту да яе падаюцца выключна цікавымі. Пры гэтым вельмі істотна, што выданні, якія даводзіцца аналізаваць, звяртаюць на сябе ўвагу як складнікі сапраўды глабальных культурных праектаў.**

Яну Баршчэўскаму відавочна пашанцавала: “Шляхціца Завальню...”, напісанага па-польску, можна знайсці сёння ў Інтэрнэце ў перакладзе як на беларускую, так і на рускую мову. Рускамоўны сайт, прысвечаны Баршчэўскаму, быў створаны чатыры гады таму — тут змешчана біяграфія пісьменніка, шыкоўная бібліяграфія і ўвесь перакладзены “Шляхціц Завальня...”. У 2010 годзе пераклад выйшаў асобным выданнем (СПб.: Амфора) — з вельмі цікавым пасляслоўем перакладчыка Дзмітрыя Вінаходава, які паходзіць з тых самых мясцін, дзе нарадзіўся Баршчэўскі. Д. Вінаходаў — вучоны-біятэхнолаг, жыхар Санкт-Пецярбурга, і пераклад кнігі, відаць, — яго цалкам асабістая ініцыятыва, што вартае шчырага захаплення.

Напэўна, шмат хто з чытачоў Баршчэўскага захапляўся фантастычнымі апавяданнямі пісьменніка і марыў паблукаць па тых дарогах, вёсках і ўзбярэжжах, дзе адбываліся дзівосныя здарэнні, апісаныя гасцямі Завальні. Калі кіравацца каментарыямі перакладчыка, то зрабіць гэта сёння, бадай, нескладана: Дзмітрый Вінаходаў вызначае каардынаты і сучасныя назвы большасці геаграфічных пунктаў, згаданых у кнізе. У дадатак да гэтага перакладчык тлумачыць народныя паданні і абрады, дае кароткую інфармацыю пра гістарычныя падзеі і вядомых асоб.

У пасляслоўі Дзмітрый Вінаходаў апісвае сацыяльнае і рэлігійнае становішча на беларускіх землях пачатку XIX стагоддзя, распавядае пра жыццё і творчасць Баршчэўскага — прычым шмат якія факты могуць быць цікавымі нават для беларускага чытача, які не надта заглыбляўся ў баршчэўсказнаўства. Так, падрабязна апісанаая складаная сітуацыя з працаўладкаваннем, якая чакала сына ўніяцкага святара, відаць, шмат што вызначыла ў лёсе пісьменніка. Няпростым быў і шлях “Шляхціца Завальні...” ў сённяшнія школьныя падручнікі — тут вельмі значнай падаецца захопленая ацэнка Уладзіміра Караткевіча, працытаваная Вінаходавым. Як сведчыць удзел перакладчыка ў канферэнцыі “Санкт-Пецярбург і беларуская культура”, Дзмітрый Вінаходаў і сёння працягвае вывучэнне творчасці Баршчэўскага, што мае безумоўнае значэнне для беларускага літаратуразнаўства. Вось так вынікам асабістага захаплення можа стаць сур'ёзны культурны праект.

Другое выданне — кніга “Пінская шляхта”, падрыхтаваная тэатрам “Рампа” ў мінулым годзе з нагоды спектакля “Пінская Шляхта”, які быў пастаўлены гэтым варшаўскім тэатрам (прэм'ера адбылася 30 верасня 2010 г.). Фарс-вадэвіль Дуніна-Марцінкевіча і сёння ўваходзіць у рэпертуар тэатра “Рампа”, а невялікая кніга (35 старонак з выдатным дызайнам) знаёміць гледачоў як з самім драматургам, так і з рэаліямі XIX стагоддзя. Стан беларускай шляхты, гербы, шляхецкая вопратка, гісторыя Пінска, знакамітыя ўраджэнцы Піншчыны, сярод якіх і Рычард Капусцінскі, — на ўсім гэтым асобна засяроджваюцца аўтары выдання, каб задаволіць магчымую цікаўнасць гледача, пазнаёміць яго з беларушчынай, стварыць каларыт мясцовасці і часу. Ёсць у кнізе нават карта Рэчы Паспалітай 1619 года!

Асобныя старонкі кнігі прысвечаны тым асобам, якія стварылі спектакль. “Пінская шляхта” ў тэатры “Рампа” — супольны беларуска-польскі праект, таму рэжысёрам варшаўскага спектакля з'яўляецца мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра Янкі Купалы Мікалай Пінігін, за сцэнаграфію і касцюмы, як і ў пастаноўцы купалаўцаў, адказвае Вольга Мацкевіч, а аўтарам музыкі з'яўляецца Андрэй Зубрыч.

Навуковы кансультант абодвух пастановак, асоба, без якой спектаклі проста не атрымаліся б, — кандыдат філалагічных навук Язэп Янушкевіч. Ён распавёў польскім гледачам пра Дуніна-Марцінкевіча і Віктара Манаева — выканаўцу ролі Кручкова як у мінскім, так і ў варшаўскім спектаклях. І варта адзначыць, што тэксты кнігі, выдадзенай з нагоды пастаноўкі, — гэта не сухія біяграфічныя ці гістарычныя звесткі, а жывыя аповеды пра людзей, падзеі і з'явы.

Перакладчыкам п'есы на польскую мову стала Барбара Крыжанска-Чарнавеска — наша далёкая суайчынніца, праправнучка самога драматурга, жыццё якой (яшчэ да высвятлення сваяцтва з Дуніным-Марцінкевічам) было звязана з літаратурай. У 2007 годзе Барбара Крыжанска-Чарнавеска памерла — на працягу васьмі гадоў яна вяла блог, прысвечаны змаганню з хваробай, які ў 2005 годзе быў прызнаны Блогам Года.

Неўзабаве — дзявятага і дзясятага верасня — у тэатры “Рампа” будуць зноў іграць “Пінскую шляхту”, і варта думаць, што гэты выбітны спектакль чарговым разам падштурхне кагосьці з нашых заходніх суседзяў паразважаць пра асаблівасці беларускай культуры і беларускага характару, асобныя рысы якога былі так добра выяўлены Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам.

І вельмі ўсцешвае, што творчасць беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя прываблівае і захапляе жыхароў іншых славянскіх краін.

**Вядучы праекта — прафесар, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс**

# Мелодыя палёту думак

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Наведваючы персанальную выстаўку архітэктара Ігара Карпава "Жывапіс", якая ладзілася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, адчуваеш эмацыянальны, духоўны прыліў сіл. Кожная з яго работ у адмысловай тэхніцы і каляровай гаме, напісаная ў пэўны прамежак часу, напоўнена экспрэсіяй, глыбокім філасофскім кантэкстам, філасофіяй жыцця.**

Са слоў аўтара экспазіцыі, на некаторых яго палотнах сюррэалізм выяўлены рэалістычнымі сродкамі, таму ўвесь жывапіс даступны для ўспрымання. Складаныя калізіі падказваюць тую выяўленчую мову, тыя падзеі, а таксама асабістыя перажыванні і ўражанні, якія паўплывалі на стварэнне такіх кампазіцый. Яны сучасныя, звязаныя з намі, нашым светам, нашым жыццём, нашымі думкамі, захапленнямі, адносінамі да розных падзей. Усё звязана з чалавекам, яго станоўчымі, высокімі дасягненнямі, эмоцыямі, заклікае ахоўваць прыроду, спасцігаць яе, а таксама ахоўваць адно аднаго.

Першы намеснік старшыні Беларускага саюза архітэктараў Міхаіл Гаўхфельд зазначыў, што гэта не першая персанальная выстаўка Ігара Карпава ў Мінску. Ён вельмі адораны чалавек: архітэктар, жывапісец, складае вершы. У яго работах кожны глядач убачыць сваё, тое, што хоча ўбачыць. Міхаіл Львовіч выказаў пажаданне, каб маладыя архітэктары, увогуле творча адораныя асобы, тварылі не толькі за кульманам ці камп'ютарам, а і праяўлялі сябе ў жывапісе, графіцы, паэзіі, музыцы.

У экспазіцыі прадстаўлены не толькі алейныя работы: "Ісус Хрыстос", "Айсберг", "Бурштынавае мора", "Адны людзі прыходзяць і глядзяць, другія прыходзяць і бачаць", "Галюцынацыя тарэадора пасля бою з быком", "Мікола Паганіні. Сола бравісіма", "Палёт думак і жаданняў", "Мелодыя прыгажосці і гармоніі", а таксама лінагравюра, творы, выкананыя акварэллю, тушшу, гуашшу, прысвечаныя А. Пушкіну і інш. Карціны напоўненыя вобразамі, эмоцыямі, выклікаюць пачуццё свабоды, палёт думкі і ўяўлення.

Нарадзіўся Ігар Карпаў у Казані, вучыўся там жа ў мастацкай школе, мастацкім вучылішчы, затым — гады навучання ў Акадэміі мастацтваў СССР, Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна (тагачасны Ленінград), удзел у разнастайных выстаўках.

Жывапісныя кампазіцыі Ігара Карпава адрозніваюцца каларытам і экспрэсіяй. Колер у іх адыгрывае вядучую ролю, і такім чынам колеравая палітра мастака адлюстроўвае тонкія псіхалагічныя адценні настрою, эмацыянальнасці. Вобразы карцін аўтара — гэта метафара вечных ідэй і светаадчування, якія часам захоўваюцца ў глыбіні падсвядомасці. У карцінах Ігара Карпава — і міфалогія, і паэтыка, і сакральнасць. Кампазіцыі мастака нараджаюць вобраз свету ў мінулым і будучыні, у якім жыве чалавек з яго страсцямі, высокімі духоўнымі ідэаламі і неадольным імкненнем да дасканаласці.



***На здымку:** Ігар Карпаў "Галюцынацыя тарэадора пасля бою з быком".*

## Да ведама

### Адраджэнне млыноў

**У Нацыянальным гістарычным музеі адкрылася выстаўка жывапісных работ Віктара Нямцова "Млыны Беларусі".**

У святочны дзень да мастака прыйшлі сябры і калегі. Словы падзякі прагучалі ад дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Сяргея Вечара, народнага мастака Беларусі Гаўрылы Вашчанкі, першага намесніка старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы, кандыдата мастацтвазнаўства Барыса Лазукі ды іншых.

— Увайшоў у залу музея і ўзрадаваўся, — заўважыў Барыс Андрэевіч. — Вятрак, жыццё, зямля, паветра, свабода, таямніца, загадкавасць, вада, зменлівасць — усё гэта млын. Бо ён з'яўляецца сапраўды жывой істотай.

Млыны ўзгадваліся ў казках, паданнях, але цяпер сталі гісторыяй. Віктар Нямцоў дакрануўся да вытокаў старажытнасці, каб у сваіх жывапісных работах звярнуць увагу на спадчыну: "Ветраны млын-пальтрак", "Вадзяны млын. Смалявіцкі р-н. XX ст.", "Млын Менеска", "Кола часу".

Выстаўка жывапісу прадоўжыцца да 18 верасня.

Дар'я ШОЦІК

### Імпрэсіянізм з Берасцейшчыны

**Скласці мелодыю жыцця з фарбаў і пры гэтым захаваць непаўторнасць стылю ўдаецца ў наш час тым, хто яшчэ не развучыўся здзіўляцца, хто азіраецца навокал і знаходзіць непаўторнасць у навакольным асяроддзі. Пацвердзіла гэта юбілейная выстаўка берасцейскага мастака Леаніда Рацько, што адкрылася днямі ў мінскай "Галерэі Мастацтва".**

Л. Рацько з ліку тых творцаў, якія імкнуцца пазнаць сэнс праз фарбы, і яго карціны пацвярджаюць гэта. Натхнёны творчасцю французскіх жывапісцаў-імпрэсіяністаў, мастак напісаў шэраг партрэтаў, пейзажаў і нацюрмортаў. Кожная карціна — гэта гучанне жыцця ва ўсёй яго разнастайнасці і кантрастах. Таму творы мастака ўспрымаюцца як запрашэнне падумаць пра вечнасць, пра месца ўсяго і ўсіх у ёй. Сярод тых, хто прыйшоў павітаць майстра, былі старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч, яго першы намеснік Рыгор Сітніца, мастакі Юрый Любімаў, Алесь Квяткоўскі, Валерый Міхайлюк.

Усе жадаючыя могуць наведаць выстаўку да 13 верасня.

Алена ДРАПКО

### Любоў, і боль, і сэнс

**Пасмяротная выстаўка твораў Ірыны Магучай, вядомай віцебскай мастачкі, члена Беларускага саюза мастакоў адкрылася ў Віцебскім мастацкім музеі.**

"Любоў, і боль, і сэнс" — яе пятая персанальная выстаўка ў Віцебску, горадзе, дзе Ірына нарадзілася, скончыла мастацка-графічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. Машэрава і ўвайшла ў мастацкае асяроддзе. Партрэты жывапіс Магучай зачароўвае — менавіта ў гэтым жанры тонкі талент Ірыны праявіўся найбольш яскрава. Пастэль, гуаш, акрыл — тэхнікі, якія выкарыстоўвала мастачка для стварэння рамантычных, мецэнатаў ідэалістычных вобразаў. У кожным твары адчуваецца душа, у поглядзе, ледзь бачнай усмешцы, строгасці або разняволенасці паставы… Імкненне да прыгажосці і дасканаласці — асноўная рыса творчасці Ірыны Магучай. Больш як 20 пленэраў у Германіі, Польшчы, Грэцыі, на Кіпры і Паросе, пяць персанальных выставак у Афінах, Авіньёне, Лагаве, Зялёнай Гуры, Уэзсе зрабілі яе імя вядомым у Еўропе. Творы мастачкі захоўваюцца ў прыватных зборах і музеях Германіі, Францыі, ЗША, Швецыі, Бельгіі, Грэцыі, Ізраіля, Польшчы і Расіі.

Ірына КАРЭЛІНА

# Сталічны вернісаж

**Палац мастацтва прэзентаваў адразу тры персанальныя юбілейныя выстаўкі мастакоў Віцебшчыны: Уладзіміра Вальнова (да 70-годдзя), Аляксандра Слепава ды Валерыя Шчаснага (абедзве да 60-годдзя).**

Віктар ЗАЯЦ

**Уладзімір Вальноў**, чатырохгадовы хлопчык, 10 чэрвеня 1944 года быў знойдзены на перадавой пад Віцебскам (у Бешанковіцкім раёне). З той пары гэты дзень і лічыцца яго афіцыйным днём нараджэння... Скончыў Харкаўскі мастацка-прамысловы інстытут, працуе ў станковым жывапісе і графіцы, а таксама ў інсталяцыі. Асноўныя работы: палотны "Горад будуецца", "Вячэра на траве", "Мантаж збожжасушылак", "Безыменная вышыня", "Жніво", "Вечар. Поле", "Бабіна лета ў мёртвай вёсцы", "Прыйдзем паклонімся"; графічныя кампазіцыі "Цёплая зямля", "ЦЭЦ", "Памяці спаленай вёскі", "Сейнеры".

Са слоў кандыдата мастацтвазнаўства Міхася Цыбульскага, адна з галоўных тэм твораў У. Вальнова — сялянства. З асаблівым болем аўтар успрымае яго трагедыю, прыніжанага, ашуканага і ўкрыжаванага кастрычніцкай рэчаіснасцю. Сабраныя Уладзімірам Мікалаевічам у пакінутых вёсках фотаздымкі і прадметы сялянскага побыту служаць асновай для кампазіцый, прысвечаных загубленаму сялянству. Шэраг яго кампазіцый нясе ў сабе рысы публічнасці і створаны паводле гістарычных матэрыялаў. І тут яскравым прыкладам служыць творчасць Васіля Быкава, Святланы Алексіевіч.

На працягу шматлікіх гадоў мастак выстаўляўся ў Германіі — у Берліне і Нінбургу, горадзе-пабраціме Віцебска. Выканаў шмат праектаў, з якіх найбольш важнымі лічыць "Масты паміж гарадамі і людзьмі", а таксама праект па тэме "Халакост", прапанаваны адміністрацыяй горада Нінбурга. Як кажа сам аўтар, гады працы ў Германіі дапамаглі яму лепш зразумець і адчуць каштоўнасць дэмакратычнага грамадства з яго свабодай і правамі чалавека.

**Аляксандр Слепаў** скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Асноўным напрамкам творчасці Аляксандра Міхайлавіча доўгі час з'яўлялася дэкаратыўна-манументальнае мастацтва. Ён выконваў скульптуры і дэкаратыўныя пано ў тэхніцы разьбы па дрэве, надаючы асаблівае значэнне выяўленню тэкстуры дрэва і падпарадкаванню ёй пластыкі формаў. У 1987 — 1994 гадах уваходзіў у склад творчага аб'яднання "Квадрат", браў актыўны ўдзел у акцыях і выстаўках аб'яднання. Займаўся круглай скульптурай і інсталяцыяй.

Значнае месца ў творчасці мастака займае графіка. У сваіх графічных работах Аляксандр Слепаў выкарыстоўвае актыўныя каляровыя вырашэнні. Міхась Цыбульскі зазначае, што мастаку ўласцівая "скульптурная" стылізацыя, заснаваная на акцэнтаванні пластычных асаблівасцей выявы. За апошнія дзесяць год творчы дыяпазон мастака значна пашырыўся. Акрамя скульптуры і графікі ён актыўна займаецца жывапісам. Развівае ідэю фігуратыўнага супрэматызму, выкарыстоўвае яго выразныя сродкі ў вобразным вырашэнні палотнаў і скульптур.

Стылістычныя падыходы мастака даволі разнастайныя. У розных серыях графічных і жывапісных твораў праяўляюцца асаблівасці рэалізму, кубізму, супрэматызму, сюррэалізму. У тэматычным дыяпазоне мастака вылучаюцца асноўныя напрамкі: эратычны, міфалагічны, шэраг тэм пра адносіны паміж асобай і грамадствам.

**Валерый Шчасны** таксама скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута, працуе ў галіне як фігуратыўнага, так і нефігуратыўнага жывапісу ў розных тэхніках (алей, тэмпера, акрыл) і жанрах.

Творчасць Валерыя Шчаснага вылучаецца выразным паэтычным асэнсаваннем навакольнага свету і знакава-сімвалічным характарам вобразна-пластычнага мыслення. Аддаўшы перавагу знакавым формам у стылістыцы сваіх жывапісных твораў, мастак разам з тым застаўся шчырым прыхільнікам рэчаіснасці як крыніцы натхнення. Ментальнасць беларуса, улюбёнага ў сваю зямлю, гісторыю свайго народа, вызначае эмацыянальна-сэнсавы кантэкст яго сімвалічных вобразаў. Магчыма, таму падкрэслена полістылістычная творчасць Валерыя Ігнацьевіча даволі гарманічна глядзіцца ў кантэксце асноўных тэндэнцый развіцця сучаснага беларускага мастацтва.

Канцэптуальнасць і сімвалізм, уласцівыя абстрактным творам Валерыя Шчаснага, застаюцца дамінантай і арганізуючым сэнсавым пачаткам і ў яго рэалістычных кампазіцыях. Даволі часта ў яго творах сустракаецца храм і крыж. Крыж — адзін з самых старажытных сімвалаў чалавецтва — паўстае ў яго творчасці як сімвал вышэйшых сакральных каштоўнасцей, сімвал Хрысціянства, Жыцця і Веры. Крыж адначасова знак Часу і знак Вечнасці, знак Бессмяротнасці і шлях да Яднання.

Эсэ

# Свет мастачкі Святланы Катковай

Уладзімір СЦЯПАН,
фота Віктара Кавалёва

**Нядаўна творчаму калектыву ў складзе Леаніда Левіна, Аляксандра Фінскага і Святланы Катковай была прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.**

## Цукар

Святлана Каткова нарадзілася ў жніўні 1941 года далёка ад Беларусі, у вёсцы Андросаўка Куйбышаўскай вобласці. Бацька, Сяргей Каткоў, паспеў давезці цяжарную жонку з Мінска да Оршы. Адтуль ён пайшоў на вайну, а маці з сёстрамі паехалі ў эвакуацыю.

Вёску Андросаўка, месца свайго нараджэння, Святлана прамаўляе з падкрэсленай павагай. Яна кажа: "Я з Андросаўкі!"

Яркія дзіцячыя ўспаміны пра тыя галодныя гады — жахлівыя. Цукар маленькая дзяўчынка ўбачыла толькі ў цягніку, калі вярталіся з эвакуацыі ў зруйнаваны Мінск. Яна трымала ў руцэ белае рэчыва і не ведала, што з ім трэба рабіць.

## Святлана Сяргееўна

Так склалася, што з мастачкай Катковай размаўляем на "ты". Мы нават інтанацыю прыдумалі, з якой перагаворваемся па тэлефоне. Лёгкая, нязмушаная і крыху капрызлівая. Гаворым пра ўсё, што нам цікава. Магу спытаць у мастачкі пра тое, што было на сняданак, што будзе на вячэру…

Але бываюць моманты, калі мне хочацца звяртацца да яе на "вы", прамаўляць з падкрэсленай павагай: "Святлана Сяргееўна, ведаеце…" Імя па бацьку ўжываю, калі Святлана паказвае новы твор. Выносіць у пакой і паварочвае, а сама ідзе і садзіцца да стала, на сваё ўлюбёнае месца, пад акном, за якім сад.

Перад яе палотнамі я ніякавею і губляюся. Святлана Сяргееўна пачынае злавацца… Але злуецца яна напаўсур'ёзна.

## Палітра

У мастачкі круглая палітра, як у жывапісцаў пазамінулага стагоддзя. Мала таго, што палітра такой карцінная формы, дык яна яшчэ вельмі цяжкая, на паўсагнутай руцэ не ўтрымаеш. На палітры, у два пальцы, засохлая фарба. Праз гэта палітра нагадвае святочны торт з салодкімі крэмавымі кветкамі. Можа, не хапае толькі свечак, але іх замяняюць пэндзлі, якія ляжаць побач, стаяць букетам у жбанку.

Палітра ў мастачкі цяжкая, а жывапіс лёгкі і амаль празрысты, прасветлены... Яе карціны ніколі не зблытаеш з іншымі.

## Час кветак

У пакоі шмат кветак. Кожны раз кветкі ў шкляным посудзе мяняюцца. Бывае, што на вялікім стале адразу некалькі вялікіх і маленькіх букетаў.

Стаялі дрогкія нарцысы, за імі ландышы, потым ірысы, потым духмяныя і цяжкія букеты бэзу, потым ружы, гартэнзія, потым…

На мальберце палатно з партрэтамі кветак. Трэба сказаць, што паміж кветак нячутна ходзіць вялікая шэрая котка з казачнай мянушкай — Сара Каіра. І котка часам трапляе на палатно, робіцца яго часткай, адным з герояў…

Калі кветак на стале няма, то мастачка глядзіць у акно і малюе свой сад. Неба. Птушак на снезе і на даху суседскага дома… Птушкі, намаляваныя Святланай, нагадваюць кветкі.

Мастачка ніколі не спяшаецца, быццам не можа спазніцца.

А сёння па-над сталом выгнулася вялікая галіна з п'яна-духмянымі белымі кветкамі. Язмін…

## Марандзі

На адной з рэспубліканскіх выставак у Палацы мастацтва Міхась Савіцкі вадзіў дэлегацыю. Чыноўнікі ад мастацтва і мастакі-госці пераходзілі ад адной карціны да другой. Раптам дэлегацыя спынілася. На бакавой сцяне вісеў нацюрморт. Усе пачалі разглядаць палатно Святланы Катковай з кветкамі. Савіцкі грэбліва скрывіўся і кінуў у бок карціны: "А, цвяточкі… Хіба гэта карціна?" — і пачаў прыспешваць замежных гасцей, звацьда вялізнага палатна з вывай салдат-пераможцаў. А госці стаялі, разглядалі намаляваныя Святланай Катковай кветкі і ўсміхаліся, як дзеці.

Здаецца, тады Барыс Забораў не стрымаўся і нагадаў Савіцкаму, што і мастак Марандзі маляваў толькі кветкі і бутэлькі.

## Кветкі і птушкі

Кветкі — самі па сабе прыгожыя і дасканалыя. Калі кветкі малююць кепскія мастакі, то атрымліваюцца карціны, вельмі падобныя да фотаздымкаў. Глядзіш і думаеш: а навошта было палатно псаваць, фарбы пераводзіць, час марнаваць. Прасцей узяць і сфатаграфаваць лілеі, бэз, ландышы, ружы…

Дасканалае маляваць і лёгка, і вельмі цяжка. У Святланы Катковай атрымліваецца маляваць нават ружовыя ружы. У гэтым яна такая ж, як вясковыя жанчыны, што на ручніках і абрусах бессаромна вышываюць кветкі з яркім зялёным лісцем і птушак з вострымі дзюбамі і лапкамі-галінкамі.

## Шоўк

Бацька мастачкі Сяргей Пятровіч прывёз пасля вайны з Японіяй з Далёкага Усходу, а дакладней, з Маньчжурыі, сапраўднае японскае кімано. Было тое ў 1946 годзе.

З таго кімано — жыццё ў пасляваенным Мінску было цяжкае — пашылі сукенкі. Пашылі і знасілі. Застаўся толькі невялікі кавалачак сапраўднага японскага шоўку. Мінула больш як паўстагоддзя, а Святлана той маленечкі кавалачак каляровага шоўку захоўвае, беражэ, паказвае сябрам і пяшчотна перабірае мяккую і склізкую каляровую тканіну ў пальцах.

Мастацтва, як і жыццё, складаецца з маленькіх і вялікіх фрагментаў-успамінаў, якія сшывае час.

Карціны Катковай намацальныя, як той кітайскі шоўк.

## Час

Сёння большасць мастакоў набывае для працы гатовае фабрычнае палатно, напятае на падрамнік. Купіў такое, паставіў на мальберт і малюй. Святлана Каткова робіць па-іншаму. Набывае ільняную тканіну, прыбівае яе да падрамніка, праклейвае, грунтуе…

Ёй падабаецца ўсё рабіць сваімі рукамі.

Да сваіх палотнаў яна вяртаецца і праз год, і праз два. Нешта дадумвае, удакладняе, дадае, прыбірае, перапісвае. Бывае, што цалкам змяняе скончаны твор.

## Дзве Зоі

У Святланы дзве Зоі. Дачку, мастачку Зою Луцэвіч, яна называе "Зоя Маленькая", а сяброўку па жыцці — мастачку Літвінаву — "Зоя Вялікая". Гэта яе самыя блізкія і любімыя людзі.

## Каткова і Дастаеўскі

Можа, яшчэ і таму Святлана Каткова вяртаецца да раней напісаных і на першы погляд скончаных твораў, што бачыць іх недасканаласць, незавершанасць. Яна ніколі не спяшаецца паставіць подпіс і дату.

Можа, прыгажосць і не ўратуе свет, але на адну кроплю зробіць яго лепшым. Вось мастачка і стараецца, каб тая кропля атрымалася чыстай, празрыстай і гаючай.

## Мода

Святлана заўсёды была модніцай. Калі была студэнткай (бачыў яе тагачасныя фотаздымкі), то насіла кароткія спадніцы і вышэзныя абцасы.

Цяпер яна ўпрыгожвае сябе завушніцамі, каралямі, важкімі пярсцёнкамі. Упрыгожванні ёй заўсёды пасуюць, быццам зроблены знарок для яе.

А вось творы яе назваць моднымі язык не паварочваецца. Яны існуюць як бы па-за часам. Палотны, напісаныя дваццаць-трыццаць гадоў таму, выглядаюць так, быццам толькі сёння мастачка іх скончыла…



"Беларускі нацюрморт"

## Стосы акварэляў

На другім паверсе дома, на стэлажы, ляжаць вялізныя стосы акварэляў. Іх такая колькасць, што пераглядзець і за дзень цяжка. Святлана малявала іх у розных краінах і краях. У вандроўках і на пленэрах. Акварэлі вялікія і маленькія, як старонка вучнёўскага сшытка, стрыманыя і яркія, хуткія і разважлівыя.

Мастачка таропка і весела перабірае свае творы, быццам перагортвае старонкі прачытанай кнігі.

Мне даводзілася бываць у майстэрнях многіх мастакоў, але ні ў кога не бачыў столькі акварэляў. Калі яна толькі паспела столькі ўбачыць, калі паспела намаляваць?

## Сцэны і посуд

Манументальных твораў — роспісаў, мазаік, габеленаў, энкаўстык, якія ў розны час выканала мастачка, — не засталося. Здавалася б, тыя творы рабіліся надоўга, на вякі, а яны зніклі… А крохкі і нетрывалы посуд, які мае звычку разбівацца, — талеркі, сподкі, філіжанкі, імбрычкі, якія ўласнаручна расписала Святлана Каткова, — існуе.

У нашым доме ёсць посуд, размаляваны Святланай. Рука не падымаецца наліваць у тыя філіжанкі каву, запарваць у імбрычку гарбату. Кераміка стаіць у шафе, на паліцах, радуе позірк.

## Кішчанка

Пра мастака Аляксандра Кішчанку Святлана расказвае шмат анекдатычных гісторый і розных здарэнняў. Але пры ўсіх вясёлых і сумных, а часам непрыемных, гісторыях яна паважае Кішчанку і лічыць сапраўдным мастаком. На нізкім століку ляжыць альбом з творамі настаўніка Кішчанкі.

## Дом

Калі гаспадары сыходзяць, то іхні дом робіцца пустым, выстылым і нежывым. Нават вокны перастаюць глядзець і адлюстроўваць неба.

Ад бацькоў Святлане засталіся вялікі драўляны дом. Але, каб дом працягваў існаваць, яго трэба даглядаць. І Святлана штодня гэтым займаецца. Дом са сваім патаемным жыццём і сакрэтамі паступова зрабіўся падобным да гаспадыні.

Святлана не любіць надоўга пакідаць свой дом без нагляду, амаль як любімага чалавека.

## Райскі сад

Ад старога сада, які пасадзіў Сяргей Каткоў, засталося толькі тры дрэвы: дзве грушы і рабіна. Бэз, яблынькі, агрэст, алычу, вішні і слівы садзіла і даглядае Святлана. І гэтай вясной яна пасадзіла некалькі дрэўцаў і шмат кветак…

## Рэчы

У доме мастачкі шмат самых розных рэчаў. Яны запаўняюць пакоі сваім маўклівым існаваннем. Святлана глядзіць на іх, часам дакранаецца, перастаўляе, але большасць рэчаў займае свае месцы, быццам іх намалявалі на палатне.

Што тут казаць, у сапраўднай мастачкі і дом як твор мастацтва.

## Сапраўдныя мастакі

Я спытаў у Святланы пра любімых мастакоў і тыя карціны, з якімі яна пагадзілася б жыць і на якія магла б глядзець штодня. Мастачка задумалася, а потым прамовіла: "Нацюрморт Поля Сезана, карціну Пабла Пікаса, Мадыльяні і краявід Бялыніцкага-Бірулі…" Усміхнулася і дадала, што і мастакоў добрых на белым свеце шмат, і карцін выдатных хапае…

Зірнула на вясновы краявід Сяргея Каткова, які вісіць на сцяне, і раптам зрабілася сумнасур'ёзнай.

## Кітайская прытча

Ёсць такое паданне. Аднойчы Лао-Цзы ішоў з вучнямі праз лес, які секлі дрывасекі. Сотні сякер валілі дрэвы. Лао-Цзы раптам убачыў вялізнае дрэва, якое стаяла па-над паваленымі дрэвамі. Яно было агромністае, старое, з крывым галлём. Лао-Цзы паслаў сваіх вучняў, каб тыя даведаліся, чаму не ссеклі такое агромністае дрэва.

"А якая з яго карысць, — прагучаў адказ, — з яго нічога нельга зрабіць, яно нават на мэблю не прыдатнае".

І тады Лао-Цзы сказаў вучням: "Вучыцеся ў гэтага дрэва, не імкніцеся быць карыснымі, і тады вас не кране сякера. Упэўнены, што роўныя і высокія дрэвы ганарыліся сабой, і яны некаму спатрэбіліся. Рабіцеся непатрэбнымі, не імкніцеся ператварыцца ў тавар, у рэч. Інакш вас будуць прадаваць і набываць. Пойдзем у цень гэтага дрэва, пасядзім і адпачнём".

Мне здаецца, што гэтая старажытная прытча часоў Канфуцыя і пра беларускую мастачку Святлану Каткову.



"Палявыя кветкі"

# Злучае час масток шкляны

Мікалай ЖДАНОВІЧ, фота аўтара

**У культурнай сталіцы Беларусі і СНД — Гомелі — адкрылася ўнікальная выстаўка малюнкаў на шкле. Побач з вышыванкамі і распіснымі куфрамі ўпрыгожванне жылых будынкаў каляровымі вітражамі стала адным з папулярных відаў народнай творчасці беларусаў, асабліва распаўсюджаным з 20-х па канец 50-х гадоў мінулага стагоддзя. “Менавіта імкненне да прыгажосці дапамагала народным майстрам ствараць цудоўныя ўзоры народнай творчасці, у тым ліку і ў шкляным роспісе”, — лічыць Святлана Лакотка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, з фондаў якога прадстаўлены экспанаты.**

Даследчыкі сцвярджаюць, што сам гэты від мастацтва даволі старажытны: тэхніка жывапісу на шкле была вядомая ў Візантыі. Яшчэ ў час захопу Егіпта Аляксандрам Македонскім і ўтварэння Александрыі шкляныя вырабы аздаблялі неабпаленымі алейнымі фарбамі. У эпоху Адраджэння такі роспіс быў пашыраны ў заходнееўрапейскіх краінах, у тым ліку Рэчы Паспалітай, у склад якой уваходзілі беларускія землі. У прыватнасці, сярод сялян, якія малявалі не толькі на традыцыйных матэрыялах — дошках, тканіне, але і на шкле. Спачатку гэта былі малюнкі сакральнай скіраванасці, а размяшчаліся жывапісныя іконы ў чырвоных кутках жытла, гаспадары якога ганарыліся імі як дарагім набыткам.

У адрозненне ад нашых суседзяў — палякаў і прыбалтаў — узоры рэлігійнай тэматыкі па прычыне крохкасці зыходнага матэрыялу — шкла — дайшлі да нас у адзінкавых экземплярах. Два такіх — “Маці Божая Адзігітрыя” і “Хрыстос Пантакратар”, адшуканыя даследчыкамі ў Камянецкім раёне Брэсцкай і Веткаўскім Гомельскай вобласці, — маюцца ў калекцыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту і прадстаўлены наведвальнікам выстаўкі ў Гомелі. Увогуле ж музей-скансэн (пад адкрытым небам) размешчаны... на 150 гектарах за чатыры кіламетры ад Мінскай кальцавой аўтадарогі, там, дзе зліваюцца рэкі Менка і Пціч, з’яўляецца сховішчам унікальных архітэктурных, прадметных помнікаў беларускага этнасу XVIII — пачатку XX стагоддзя, што адлюстроўваюць традыцыйны побыт, рамёствы і заняткі нашых продкаў у гэты гістарычны перыяд. Ён уключае каля 25 аб’ектаў драўлянага дойлідства і больш як 22 тысячы разнастайных экспанатаў, адшуканых даследчыкамі народнай культуры ў розных кутках Беларусі (апрача Гродзеншчыны). Яны аб’яднаны у экспазіцыйных сектарах па гісторыка-рэгіянальным прынцыпе — “Цэнтральная Беларусь”, “Падняпроўе”, “Паазер’е”.

“Шкляны” жывапіс займае ў музейных фондах скансэна хоць і колькасна невялікую, але змястава адметную частку. Большасцю ў работах беларускіх мастакоў-рамеснікаў — сімвалічныя выявы таго прыгожага, на што традыцыйна скіроўваліся погляды (і сімпатыі!) беларусаў: распісныя рамкі для сямейных фотаздымкаў, жаночыя партрэты, пейзажы, кветкавыя букеты... Асобныя работы ўражваюць не толькі майстэрствам напісання, але і адметнай тэхналогіяй дэкарыравання. Двухбаковым нанясеннем на шкло фарбы, асабліва ў пейзажных работах, ствараецца прастораваe бачанне. Асаблівы эфект успрымання надае выкарыстанне ў работах народных мастакоў фарбаванай паперы, алюмініевай фольгі і іншых матэрыялаў, што павялічвае агульны эфект успрымання малюнкаў. Дарэчы, даследчыкі кажуць пра адметную тэндэнцыю аўтарства роспісу: калі ў прыродна-кветкавай палітры, як правіла, угадваецца рука жанчыны-мастака, то жаночыя выявы на шкле — выключная прэрагатыва моцнай паловы. Дарэчы, дакладна ўстаноўлена, што адзін з прыгожых жаночых партрэтаў, што ўбачылі наведвальнікі выстаўкі ў Гомелі, намаляваў народны майстар Мікалай Салавей.

Гамяльчане, што завіталі на адкрыццё ўнікальнай экспазіцыі, наладжанай у Гомельскім палацы Румянцавых і Паскевічаў, што яны атрымалі ад убачанага і пачутага тут (а апрача жывапісных работ радавалі прыхільнікаў мастацтва на выстаўцы народныя музыкай і спевамі артысты народнай вакальнай групы “Калініца”) вялікую эстэтычную асалоду. Каб падараваць яе жыхарам культурнай сталіцы Беларусі і СНД, ды гасцям горада над Сожам, супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту і іх гомельскім калегам давялося прыкласці нямала намаганняў.

— Зноў жа, улічваючы далікатнасць матэрыялу, музейныя фонды нячаста практыкуюць выстаўкі шкла, асабліва ў фармаце перасоўнага праекта, — адзначыла на адкрыцці выстаўкі дырэктар музея гісторыка-культурнай установы “Гомельскі палацава-паркавы ансамбль” Аксана Торапава. — І тое, што мы са сваімі калегамі з Міншчыны знайшлі паразуменне і ўпэўшыню рашыліся на такі крок, падкрэслівае як наша агульнае імкненне, каб музейныя фонды краіны былі даступны для ўсяго насельніцтва, незалежна ад тэрыторыі пражывання, так і выключнасць сённяшняй падзеі.

Арганізатары прызнаюцца, спатрэбілася каля года карпатлівай працы рэстаўратараў. Тым не менш знойдзеныя і захаваныя клопатамі музейшчыкаў крышталінкі ўнікальнай народнай творчасці — своеасаблівы масток з гісторыі ў нашу сучаснасць. Тую, дзе шкляны роспіс становіцца ўжо не столькі прадметам эстэтычнага задавальнення, колькі модным захапленнем, і, улічваючы сваю нятаннасць, — адметай шыку і рэспектабельнасці ўладальнікаў. Што ж, як кажуць, кожнаму часу — свае песні. Ды толькі, сустракаючы падчас шыкоўныя і нярэдка безгустоўныя вітражы ў дызайне прыватных кватэр і грамадскіх пабудоў, душа чамусьці пачынае імкнуцца туды, да наіўных лубачных карцінак на шкле, маміных вышыванак, ад якіх патыхае нейкай невыказнай шчырасцю і чысцінёй...



***На здымку: пра калекцыю распавядае дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Святлана Лакотка.***

## Афарызм

*О, як трэба шукаць на шляхах чалавека,*
*Як любіць, берагчы, не крыўдзіць яго,*
*Каб пабачыць славу наступнага века*
*Ў сэрцы сціплага сына суседа свайго!*

**Уладзімір Караткевіч**

## З глыбінкі

### Журналіст, пісьменнікі, спявачка…

У гэтым годзе ў Грабёнскім дзіцячым садку-школе Чэрвеньскага раёна усяго чацвёра першакласнікаў. Аднак свята Першага школьнага званка тут атрымалася сапраўдным. Дзяцей павіншавалі прадстаўнікі Чэрвеньскага райвыканкама, настаяцель Грабёнскай царквы святога архангела Міхаіла айцец Генадзь. А першы ўрок па тэме “Твая зямля, твая Радзіма названа светла — Беларусь” правялі шаноўныя госці — пісьменнікі Васіль Жуковіч і Міхась Скобла, супрацоўнік часопіса “Пралеска” Міхась Шавыркін і артыстка Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь Таццяна Мітрафанава.

Уласныя вершы пра Беларусь і яе выдатных дзеячаў, беларускую мову, пераклады з замежных моў, літаратурныя пароды прадставіў увазе ўдзячнай аўдыторыі Васіль Жуковіч. З прыязнасцю ўспрынялі вучні, іх бацькі і настаўнікі песні пад гітару ў выкананні Таццяны Мітрафанавай. Сярод іх была і песня пра першы званок, складзеная самой спявачкай. А як жа кранальна гучаў паланэз М. К. Агінскага “Развітанне з Радзімай”!

Эмацыянальна распавёў пра адметнасці нашага жыцця Міхась Скобла. У вершах яго адлюстравалася і назіранні, і разважанні. А творы былі самыя розныя: пра адзінокі касцёл у лесе, пра адданасць Марка Шагала роднаму Віцебску. Свaімі думкамі пра родную мову і краіну, адметнасці патрыятычнага выхавання школьнікаў падзяліўся з прысутнымі Міхась Шавыркін.

Першы дзень вучобы запомніўся школьнікам сваёй яркасцю і шчырасцю.

**Святлана АДАМОВІЧ,**
**г.Чэрвень**

### Вясна — значыць, маладосць

“20 імгненняў вясны” — пад такой назвай у Валожынскім раённым Цэнтры культуры, у памяшканні аб’яднання народных майстроў “Скарбніца” адкрылася выстаўка жывапісу Уладзіміра Сайко — 20 партрэтных і пейзажных карцін. У дзень адкрыцця адбылася таксама яго творчая вечарына (акурат у гэты дзень Уладзіміру споўнілася 20 гадоў), якую арганізавала народнае літаратурна-мастацкае аб’яднанне “Рунь”.

Нягледзячы на малады ўзрост, мастак ладзіць ужо шостую творчую выстаўку. Першая адбылася яшчэ ў 16 гадоў. Тады таленавіты вучань падарыў сваёй школе 10 партрэтаў вялікіх матэматыкаў.

Павіташь Уладзіміра прыехалі і шаноўныя госці з Мінска — краязнаўца, педагог, журналіст, літаратар, ён жа святар беларускай праваслаўнай царквы Леанід Акаловіч і гісторык, журналіст, пісьменнік, краязнаўца, культуролаг, ганаровы член Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі Анатоль Валахановіч.

Пажаданнямі творчых крылаў, высокага шчаслівага палёту па Краіне Мастацтва скончылася імпрэза. Верыцца, наперадзе ў гэтага энергічнага, апантанага творчасцю хлопца будзе нямала вечарын і выставак самых высокіх узроўняў.

**Валянціна РУСАКЕВІЧ,**
**г. Валожын**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**





**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04,
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў

Наклад — 2848
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 8.09.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4326
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12